Так, цераз напластаванні гадоў і падзей заглянуў Сяргей Пятровіч у мінулае. І не бледныя цені далёкіх і мёртвых дзён прайшлі перад яго вачыма, а вечна маладое кіпенне жыцця ў напружанні жывых мускулаў і цвёрдай волі палам барацьбы дыхнула яму ў твар.

Некалькі нязвыклым быў пераход з марозных палёў грамадзянскай вайны ў гэтую залю. І яшчэ доўга ўспрыймаў Сяргей Пятровіч знешнюю абстаноўку, як ілюстрацыю да сваіх успамінаў, дум і адчуванняў. Строкат праекцыйнага апарата нагадваў стук таго абмарожанага „Юза“ ў далёкім гарадку. Аксамітная цемра, што рассечана струменем святла, была ценню, далекім падабенствам цёмнай ночы, у якой блукае, абмацваючы воблакі струмень пражэктара, ловіць у свае светавыя цянёты адзінокую машыну ў надхмарнай вышыні.

Усё гэта было там, далёка... Але ці-ж меншай сілы, ці-ж меншай упартасці і самаадданасці патрабуе сучасны этап барацьбы, даны ўчастак соцыялістычнага фронта?

І рэальнасць уцвярдзілася ў сваіх правах, і Сяргей Пятровіч правёў простую і непарыўную лінію ад гарадка В. да гарадка Б., ад 1918 года да першага года другой пяцігодкі.

Напрыклад, вясна. Над горадам, прыбраная ў зоры, нахіляецца зараз ноч. Калі ўстане сонца—на рыштаванні ўзыйдуць будаўнікі. Якімі звонкімі бываюць галасы іх высока над вуліцамі, пад ранішнім сонцам! Якім пераможным бывае покліч сірэн і гудкоў нашых заводаў, калі ціхімі яшчэ вуліцамі спяшаюць на голас іх рабочыя дзённых змен. Якім высокім тэмпам б'ецца творчы пульс нашых гарадоў і якім ажыўленым бывае вячэрні адпачынак калі ў горадзе гаспадарыць ударніца-вясна. Такой радаснай бывае яна толькі ў нашай краіне.

Вясною нястрымна буяніць пад ветрам цёмная зяляніна калгасных масываў. У ясныя вясновыя вечары, калі гасне малінавая зара, мяккі вецер прыносіць з палёў нямоўчны гул машын, заглушаючы лірычнае турканне жаб, дашчэнту знішчаючы зялёную тугу вячэрніх палёў. І да новай зары не сціхаюць галасы людзей і машын на палёх...

Так паўстае перад вачыма Сяргея Пятровіча жыццё, так вырысоўваецца профіль вялікай будаўнічай эпохі. І разумее Сяргей Пятровіч, што радасныя вёсны будаўніцтва—гэта барацьба прасякнутая сонцам, не менш зацятая, чым у акопах, не менш пагрозная і руйнуючая для варожых класаў, чым грандыёзны штурм пад незмаўкаемую кананаду. Яна змяніла твар краіны, яна змяняе чалавечы матэрыял...

У гэткім-жа кіпенні, у гэткім-жа напружанні сіл усталі перад вачыма Сяргея Пятровіча сёнешнія дні, як і заснежаныя тыя ночы 1918 года. І не зазнаў Сяргей Пятровіч гаркавага смаку тугі, бо прыходзіць яна тагды, калі чалавек ізаляваны ад калек-

тыва, калі ён адзінокі на ўсім сваім жыццёвым шляху, і як аб цяжкой страце, думае ён аб днях сваёй маладосці. Але той, хто ўліў кроплю сваёй істоты ў магутны паток калектыва—той ніколі не будзе адзінокім і ніколі не будзе старым. У гэтым невычэрпным патоку сіл—заўсёды зарад маладой энергіі атрымае чалавечая адзінка.

Так перайшоў Сяргей Пятровіч з гарадка В. у горад Б., з 1918 года ў першы год другой пяцігодкі. Быў Сяргей Пятровіч на адным участку барацьбы, апынуўся на другім. І ад гэтага паглыбілася адчуванне віны за сёнешні прарыў, за сёнешнія памылкі.

Пагас экран. Святло заліло залу.

Сяргей Пятровіч у вялікім сціску павольна рухаўся да дзвярэй, не спушчаючы воч з нахіленых плеч вялізнага пілота. Дагнаў Сяргей Пятровіч яго ўжо на вуліцы. Чалавек ішоў размераным важкім крокам, заклаўшы рукі за спіну, глядзеў сабе пад ногі і нешта, відаць, думаў. І такім незвычайна вялізным быў ён, зашыты ў чорную скуру, магутны і спакойны ад захаванай у ім сілы, што ўсе, хто праходзіў міма яго, аглядаліся ўслед. А пілот усё ішоў і ішоў, ні на што не зважаючы.

Сяргей Пятровіч абагнаў яго і крануў за рукаў.

— Бірг.

Ён убачыў блакітныя пятліцы, знакі вышэйшага камандвання на іх, ён убачыў матава-белы твар з цвёрдай рыскай губ, з крутым падбародкам, суцэльны зараснік брывей і пад імі—нязвыклую сінь воч. Гэта—Бірг.

А той спыніўся, углядаючыся ў Сяргея Пятровіча, і не мог успомніць, дзе іменна бачыў ён некалі гэтага маленькага чалавека. І вось, ледзь прыкметна ўздрыгнуў халодны твар Бірга і сінь вачэй праяснела цяплом.

— Гэта начальнік?—спытаўся ён,—гэта Аперан? Сяргей?!

— Дык чаго-ж ты стаіш поўгадзіны, каланча?—крыкнуў Сяргей Пятровіч.

І тагды вялізныя рукі Бірга схапілі Сяргея Пятровіча за плечы. Так заўсёды меў прывычку вітацца Бірг.

— Не веру!—крыкнуў Бірг.—Не веру! Ты, Аперан?

Хістаючыся, як цявінка ў магутных руках Бірга, Сяргей Пятровіч упэўніўся, што Бірг застаўся тым-жа самым: ад стану панурага спакою надзвычайна лёгка пераходзіў ён да вялікай узбуджанасці.

●

— І от ад тэй пары, як паправіў нагу—не злез я з пілоцкага сядзення. Зараз камандую эскадрылляй. Цяпер не тое, цяпер, ты сам ведаеш, інакшая работа на машынах...

Бірг заглянуў у твар Сяргею Пятровічу і рассмяяўся.

— Гэта не тыя парусінавыя туфлі, на якіх мы з табой узляцелі ў свой час на спірце! Ад тэй пары мы і не бачыліся. Пакуль

я выбраўся са шпіталя, цябе перакінулі на другі фронт. Я часта сустракаў у тэхнічнай літаратуры тваё імя, але аб табе—не падумаў.

Бірг адкінуўся на спінку лаўкі.

— Выветрываецца ўсё пакрыху з памяці. Дробныя дэталі цяжка запамінаюцца. Вось добра, на ўсё жыццё, запомніў цябе, а як ты выглядаеш, забыўся. Адно ведаю, што ты малы. Хэ-хэ-хэ!

Бірг кінуў акурак. Ён апісаў параболу ў цёмным паветры і рассыпаў іскры на пяску дарожкі.

— Атрад зрабіў пасадку на вашым аэрадроме. Заўтра ідзем далей. Я пашоў у горад і от... сустрэча. Я рад, Сяргей!

— Слухай, Эрнст. Мне помніцца, ты тагды прышыў гэтага „Таубе"?

— Прышыў. І самае цікавае тут у тым, што на месцы лётнаба аказаўся на ім Руніч. Гэта ўстанавілі потым. Ён наводзіў машыну на месца нашага лагера. Наогул, карысным для немцаў аказаўся на той час. І... заплаціў па векселю, які табе пакінуў. Цікава, праўда, Сяргей?

— Цікава, Эрнст... Надзвычайна цікава!—задумана адказаў Сяргей Пятровіч.—Я так і думаў, што калі-небудзь давядзецца расплачвацца. Вексель аказаўся кароткатэрміновым. Добра Эрнст!

— Добра,—згадзіўся Бірг.—Бясспрэчна, добра.

Абодвы змоўклі.

На цёмным небе было шмат зор і толькі на краявідзе, далёкім і невыразным, паўзлі чорныя воблакі. А мажліва—гэта быў туман. Горад сціхаў. Па дарожках сквера праходзілі рэдкія пары і абрыўкі галасоў даносіліся выразна і звонка, па начному.

Сяргей Пятровіч запаліў сярнічку. Прыкурыў.

— Я цябе ўбачыў у кіно. Паглядзеў і думаю: што гэта за морж? Гляджу,—ты. Гэткі дзядзя ты ў нас адзін на ўвесь Саюз. Больш я нідзе нічога падобнага не бачыў. От, вынесла-ж цябе, брат ты мой! Я раней, прыпамінаю, заўсёды дзівіўся, як усё-ткі такая далікатная машына, як тагочасныя самалёты—магла цябе ўзняць у паветра. Ведаеш што?.. Пакуль ты глядзеў на экран, я ўва ўсіх дробязях успомніў тое, што адбылося з намі ў кастрычніку васемнаццатага года...

Сяргей Пятровіч змоўк. Яны сядзелі зноў моўчкі, прыслухоўваючыся да начнога шума горада.

— Я быў у тым гарадку потым, калі адкаціліся немцы, пасля Брэста ўжо,—сказаў Бірг,—і аб некаторых з нашых даведаўся.

— Ну?!

— Бегельман расстраляны немцамі. З ім разам яшчэ адзін комуніст, рабочы. Памятаеш можа, высокі такі? Катлы ён склёпваў і цярпець не мог нашага інжынера Дзюбніглаза... Інжынер наш таксама загінуў. Калі мы ўзляталі, немцы, калі памятаеш, уварваліся ў горад і кавалерыя спяшыла на пляцоўку. Рабочыя арганізавалі заслону ад шасе. І я на ўзлёце на самым бачыў Міцьку ў апошні раз. Ён бег з вінтоўкай наперадзе ўсіх. Да гэтай

пары добра памятаю яго... Урэзаўся ў памяць ён мне. Хутка знайшоў сваё месца, сын пролетарыя... Добры хлапец з яго вышаў-бы, не сумняваюся.

Бірг памаўчаў.

— А ў мінулым годзе у Севастопалі нечакана сустрэў я Арндта. Ён мяне пазнаў і схапіў за руку на вуліцы. Першым-жа яго словам было: „А памятаеш?"

Бірг задумённа засмяяўся.

— Ен сказаў мне: „А памятаеш, як мы з Бегельманам... Памятаеш, што мы з Бегельманам прыдумалі? Гаварылі-ж мы з Бегельманам, што выведзем вас у людзі!" І мы з ім успомнілі Бегельмана. Моцны быў комуніст, сапраўдны рэволюцыянер-рабочы!.. Арндт кіруе зараз буйнай гаспадарчай арганізацыяй на поўдні Саюза.

— І Бірг зноў змоўк на хвіліну і потым пахлопаў Сяргея Пятровіча па плячы.

— Прайшло пятнаццаць гадоў і мы з табой сустрэліся. Прыгожае жыццё, Сяргей! Паглядзіш навокал, удыхнеш у сябе паветра—гадоў не адчуваеш за плячыма! Маладое паветра наша, Сяргей!

І Бірг сапраўды ўдыхнуў у сябе паветра, удыхнуў прагна, усімі шырокімі сваімі грудзьмі.

— Э-э-эх! Чорт!

І зноў весела і звычна рассмяяўся Бірг.

— Мяне ва ўпадніцтве дагэтуль не абвінавачвалі, Эрнст. Але, я табе магу пазавідаваць. Моцны, ты. Загартаванасць твайго класа ў цябе стопроцантная. І я думаю, не здарыцца з табой такога прарыва, такога вывіха, які, напрыклад, сёння здарыўся са мной. Ты добра сшыты, Эрнст. А я, што там ні гавары— ўсё-ткі інтэлігент.

— Ты, я бачу, не пакінуў яшчэ калупацца ў сабе—засмяяўся Бірг.

— Пачакай, Эрнст. Самаправерка патрэбна для мяне, як для кожнага комуніста. І ў тым выпадку, калі цёмныя, індывідуальныя сілы перамагаюць мяне і я губляю сувязь з калектывам, гэта асабліва неабходна. Сёння, я, Эрнст, не магу пахваліцца сваёй вытрыманасцю. Ты мяне ўважліва паслухай.

І Сяргей Пятровіч расказаў Біргу аб тым, што з ім *здарылася*, пачынаючы ад таго моманта, калі ён увечары выйшаў на балкон. Бірг слухаў уважліва, не азваўся ні словам, нават не крануўся.

— Законная рэч пасумаваць крыху, калі адчуеш ты, што не ўзляцець табе ўгору, што згубіў ты сілу кіраўніцтва машынай. Ты-ж ведаеш, якім я быў пілотам? Я зрастаўся з машынай, я адчуваў вібрацыю яе сваімі нервамі, я лётаў так, як-бы крыллі машыны былі маімі крыллямі. І тут выяўляецца, што я ўсё згубіў.

Прычын для гэтага было шмат і перш за ўсё—узрост. Але аб прычынах мы не будзем гаварыць. Мы будзем гаварыць аб тым, што вышла. А вышла тое, што я страціў усе перспектывы, усю арыентыроўку, я адразу адарваўся ад усяго, што мяне акружае што мне дорага, за што я змагаўся і змагаюся, я паглыбіўся ў сябе і прышоў да вывада... Ну, як-бы табе сказаць... Карацей кажучы, такое адчуванне было, што ад мяне як-бы нешта незаслужана адабралі, сілай вырвалі маю сілу... Ты ведаеш, што гэта азначае? Гэта мешчанін забунтаваў.

Сяргей Пятровіч пасунуўся бліжэй да Бірга.

— Няхай цябе гэта не здзіўляе, Эрнст! Забунтаваў мешчанін, абражаны згубай сваёй маемасці. Ён не хацеў, вілаць, аддаць яе рэволюцыі і калі ўсё-ткі неяк аддаў яе, то пачуў сябе абражаным! Ён пачаў крычаць, што яго абрабавалі. От што здарылася са мной! Я не падумаў, што партыя дала мне сілу стварэння машыны, што я патрэбны ёй, што я павінен да канца служыць ёй! Ашалелы мешчанін дзіка закрычаў аб тым, што яго абрабавалі! Разумееш, Эрнст? Я аддаў свае сілы, не ўсе, а частку іх на барацьбу! І калі пачуў іх некаторую растрату—патрабаваў іх назад! Ці-ж гэта не агідна? Гэта недапушчальна для комуніста, Эрнст! Тым больш, што на справе большую сілу дала мне партыя, чым я аддаў ёй!

Сяргей Пятровіч памаўчаў.

— Калі я сёння ў кіно ўспомніў кастрычнік васемнаццатага года, зразумеў, што змяніліся этапы, а барацьба засталася тэй-жа самай,—я здзівіўся. Я не пазнаў сябе ў вобразе начальніка атрада. Там, я спраўляўся з работай на не менш важным участку. Тут на тых-жа пазіцыях—не спраўляюся. Так ганебна сарваццa, як сёння—гэтага нельга было чакаць! Эпоха будаўніцтва і перарабкі чалавечага матэрыяла аказалася мне не па плячу. Мне патрэбны рамонт. Я не вытрымаў іспыта ў новай, складанай абстаноўцы.

Сяргей Пятровіч узяў Бірга за плячо.

— Ты зразумей, якая сіла ў калектыве, Эрнст! Не згубіцца ні адзін чалавек, кожны будзе на сваім месцы! Калі ён патрэбны калектыву—яму нават дзіцянё пакажа месца і кірунак. І я заткнуў горла мешчаніну. Але пачуццё таго, што я парушыў сваю ўнутраную дысцыпліну комуніста, засталося. Гэтага я не магу сабе дараваць.

Неба выразна зелянела на ўсходзе. Зоры павольна гаслі. Над краявідам яснела белая палоска, павольна разрасталася і шырылася адценне блізкай зары на начным небасхіле.

— Я не мог самастойна адшукаць пункт апоры, каб выбрацца з прарыва. І дрэнна тое, што не разумеў я, дзе яе шукаць. Кропка апоры—калектыў. А я шукаў яе ў сябе ўнутры, дзе нічога не было акрамя пратэста акцыянера—мешчаніна. Гэты

пратэст быў афарбованы ў мяккія таны лірыкі на рамантычнай грунтоўцы. Тут былі думы аб паветранай героіцы, аб высокім мастацтве лёту. Я, да сораму свайго, не мог успрыняць нутром тэй простай праўды, што калі ты прышоў служыць партыі, — аддай ёй усяго сябе, да кроплі, да рэшты, ідзі нага ў ногу з іншымі куды вядзе яна. І калі перамагае калектыў—значыць перамагаеш і ты, і ў гэтым тваё адчуванне жыцця і твая поўнакроўная радасць. А я... прад'явіў іск на працэнты па... акцыях. І бачыў, што гэта злачынства і не знаходзіў пункта апоры для таго, каб стаць цвёрдай нагой на цвёрдую глебу і заткнуць мяшчанскае горла!

Сяргей Пятровіч змоўк. Маўчаў і Бірг. І так яны сядзелі доўга.

Потым Бірг ледзь прыкметна варухнуўся.

— Пункт апоры... Іменна ў калектыве пункт апоры...—сказаў ён.—У цябе сапраўды сур'ёзна было. Вывіх! Ты пункт апоры ўсё-ткі знайшоў. Гэта не дрэнна. Але ўнутранай капаніны ў цябе шмат. І істэрыкі крыху ёсць. Памятай. Не выбрацца-б нам тагды з таго гарадка, каб не рабочыя майстэрні, каб не калектыў. Памятай, Сяргей! Уся сіла ў калектыве! І яшчэ я напомню табе...

Бірг выпрастаўся, падабраўся. І мужны, густы голас яго ўрачыста сказаў у начной цішы:

„Нам істэрычныя парывы непатрэбны. Нам патрэбен мерны поступ жалезных батальёнаў пралетарыята.“

— Гэта сказаў Ленін. І ты аб гэтым памятай. Ты мужны чалавек і вялікай волі. Ты ўмееш змагацца і ты дысцыплінаваны. Добра, што ты правяраеш сябе, добра што ты вучышся, маючы сівыя валасы, Сяргей! Я гэтаму рад. Але памятай аб небяспецы істэрыкі і залішняй капаніны! Толькі з пазіцый сувязі з калектывам патрэбна зыходзіць, непарыўнай, арганічнай сувязі. У гэтым—уся сіла. І ты атрымаеш мерны поступ высокай, бальшэвіцкай чаканкі!

І Бірг падаў руку Сяргею Пятровічу.

На ўсходзе святлела ўсё больш.

На ўскраіне горада, на высокім, пясчаным беразе—яны развіталіся. Бірг пашоў вузкай сцежкай, што вілася над ракой, і хутка знікла яго постаць у хмызняку. Сцежка вяла на аэрадром. Сяргей Пятровіч застаўся на месцы. Тут шырокая пляцоўка разбівалася пад гарадскі сад. Правільнымі радамі былі рассаджаны маладыя дрэўцы, ляжалі кучы бочак і будаўнічых матэрыялаў. Былі зусім гатовы толькі лаўкі, пафарбованыя на зялёнае, і на адну з іх прысеў Сяргей Пятровіч.

Сонца ўжо ўзышло. Іскрылася срэбрам рэчная плынь і толькі пад супроцьлеглым крутым берагам ляжала глыбокая, зялёная засень. Свежая зеляніна палёў размахнулася ў даль на тым беразе суцэльнымі масывамі. Гэта былі землі прыгараднага соўгаса. Ужо ішла ўгору сакавітая зеляніна яравых. А на самым краявідзе, далёка,— сінелі лясы і над усім узнімалася сонца.

Улева ад таго месца, дзе сядзеў Сяргей Пятровіч,—раскінуўся велізарны горад. Над ім слаўся дым высокіх заводскіх комінаў, блішчэлі тысячы вокнаў, глухі, нутраны гул даносіўся адтуль. І вось убачыў Сяргей Пятровіч, як на рыштаванні новага элеватара, на велізарную вышыню пачалі ўзбірацца рабочыя. Яны былі далёка, толькі бясформнымі кропкамі выдаваліся людзі, але Сяргею Пятровічу здавалася, што ён чуе іх галасы над ранішнім горадам, пад вясновым сонцам.

Сяргей Пятровіч не адыходзіў з пляцоўкі. Ён хацеў паглядзець на ўзлёт атрада, ён хацеў праводзіць Бірга.

І хутка паблізу разлёгся магутны гул. Пераможна раўлі маторы. Сяргей Пятровіч паглядзеў у бок аэрадрома, але атрад з'явіўся з другога боку. Машыны ішлі правільным касяком, у стройным ладзе, яны забіралі шырокі поўкруг над горадам, увесь час ідучы вышэй і вышэй. Паветра дрыжэла ад грома матораў, пабліскваліа сонца на крыллях машын, віхрылі ў бляску прапелеры.

Сяргей Пятровіч глядзеў на пярэднюю машыну, на флагман атрада. Там, у кабіне, спакойна сядзіць ссутулены Бірг і паглядае на стрэлкі прыбораў. Так ён і сядзіць як прыкуты, гэты Бірг, гэтая каменная глыба.

Атрад зрабіў поўны круг над горадам, узяў курс і пачаў аддаляцца. Стройна ішлі металовыя птушкі, сонца блішчэла на крыллях іх і высокі, пераможны гул матораў, гул, як музыка стройны і горды, плыў над горадам, аддаляўся флагман, крыху пакалыхваючыся на барты, лавіў сонечны бляск на свае крыллі.

А Сяргей Пятровіч стаяў на зямлі і глядзеў на гэтую чараду сталёвых птушак, што ляціць у сіні неба, у полымі сонечных праменняў, насустрач гэтаму палаючаму дыску. Ён быў захоплены вольным лётам машын, ён, як спецыяліст, адчуваў, як чотка працуюць механізмы, якая гэта гордая і магутная сіла ляціць высока над зямлёй...

Так стаяў Сяргей Пятровіч і глядзеў угору. І не было ў яго ранейшага тужлівага адчування ад усведамлення таго, што не пазнае ён больш радасці лёту, адчування ўлады над машынай, калі яна паслухмяна падпарадкуецца кожнаму руху рукі.

Сяргей Пятровіч адшукаў пункт апоры. Ен стаяў цвёрда на зямлі, гэткім-жа ўпэўненым быў, як некалі ў паветры. У суровай рабоце, у цішы чатырох сцен габінета, будзе яшчэ доўгія гады працаваць Сяргей Пятровіч. І калі прыдзе такі час, што над граніцамі Краіны Соцыялізма з хрыплым гулам, пабліскваючы металовымі пузамі, з'явіцца зграя драпежнікаў, з зямлі Советаў узнімуцца ім насустрач чароды крылатых машын для таго, каб высока ў паветры, над рубяжамі двух светаў даць рашучы бой ворагам, раскідаць іх, знішчыць, збіць на зямлю, не пусціць у прасторы сваёй краіны. І там, сярод тых машын з чырвонымі зоркамі на крыллях, што з гнеўным рыканнем узляцяць насустрач

ворагу, там, у чародах гэтых сталёвых сокалаў—будуць машыны канструкцыі інжынера Аперана. Для гэтага ён доўгія годы будзе хадзіць па габінеце ад сцяны да сцяны, будзе вылічваць і вымерваць, падпарадкаваць сваю фантазію суровай навуцы формы і памеру, і чарцёжнае пяро ў руках большэвіка будзе не менш пагрозным для ворага, чым штурвал паветранага карабля.

Сяргей Пятровіч углядаўся ў даль. Але ўжо не відаць было роўнага касяка машын. Яны расталі ў сонечным бляску, у сіні шырачэзнага неба. Тагды Сяргей Пятровіч прыслухаўся. І здалёк, як дальняе курлыканне пералётнай жураўлінай стаі, данеслася музычнае гранне матораў.

---

Ал. ДУДАР

# СЛУЦАК

(ПАЭМА)

Заліваючы далі вясёлай трывогаю,
з буйным свістам дарожны ўзвіваючы пыл,
танцавалі вятры над старымі дарогамі,
спатыкаючыся аб слупы.

Рвалі стрэшку з пахілай хацінкі аратага,
праляталі з выццём праз пустыя хлявы
і з пашанаю бразгалі ў брамы багатыя,
шапку скінуўшы з галавы.

Хмель па жылах гуляў, ўсё нутро ўзбаламучана,
саматканы паяс зацягнуўшы вузлом,
ў вышыванай кашулі кружылася Случчына—
ажно рэха гуло.

Ажно рэха гуло над старым гадавальнікам
густапсовай пароды, блакітнай крыві.
Рай папоў, дзяржымордаў і земскіх начальнікаў
жыў і губ не крывіў.

Дый чаго іх крывіць, калі пуні напоўнены,
калі плаціць багаты падатак зямля
і пшаніцай, і жытам, і салам, і воўнаю!
Не турбуйся—гуляй!

Праца танная, чорныя рукі дармовыя,
беднаты, парабкоў—хоць на рынак вязі;
пісне хто—дык-жа ёсць гадунцы густапсовыя,
шмат над рэчкай лазы.

Шмат над рэчкай лазы—хай маўчаць неслухмяныя,
шмат у лесе асін, хай, як камень, маўчаць.
Хай зашыюць ім жонкі кашулі падраныя—
працаваць! Працаваць!

Дзве было іх заўсёды, дзве розныя Случчыны—
ў вышыванай кашулі і ў зрэбным рыззі,
з сытым рылам і з тварам нядолей засмучаным,
у шырокіх халявах і ў лапцях з лазы.

Побач з поўнаю клеццю, з багатай адрынаю
тлелі ў цёмных канурах гнілыя куткі,
хлеб у кішкі ўпіваўся неадменнай мякінаю,—
так вадзілася праз вякі.

І адна—замыкала заваламі грознымі
ўсе парогі свае, ўсе дарогі свае.
Толькі перад раднёй,—прад гасцямі вяльможнымі
адчыняліся брамы яе.

Адусюль налятали бубновыя козыры,
і далёкіх і блізкіх груганоў карагод...
Напаўзалі прахвосты ўсіх масцяў і колераў,
нібы мухі на мёд.

Паясы і кашулі ўздымалі штандарамі,
горда бразгалі шпорамі, білі ў званы,
так вясёлая Случчына век гаспадарыла,
умінаючы сытыя дні.

А другая, прыбітая, ціхая Случчына
ў жорсткай цемры блукала ля сытых вакон
і кляла сваю долю кляцьбою пякучаю,
пагражаючы кулаком.

З сілай волата, але з душою дзяцінаю,
што не ўмела ні ўбачыць, ні распазнаць,
гнула горб дваццаці над аднэй дзесяцінаю,
каб дарма ураджай аддаць.

Вось яна, мая шчырая, родная, блізкая.
Так нядаўна... Знібыты, змардованы твар,
але ў вочах адбіўся гарачымі іскрамі
буйнай сілы пажар.

Гэта-ж трэба было, каб з рабочага горада
даляцеў, як маланка, сігнал агнявы,
каб зрабіць гэту Случчыну смелаю, гордаю,
ажывіць, аднавіць.

Гэта-ж трэба было, каб ў старым гадавальніку
пазмаўкалі званы, пазляталі крыжы.
рай папоў, дзяржымордаў і земскіх начальнікаў
тэрмін свой перажыў.

Перажыў ён свой час пад цяжкімі ударамі
слаўнай ленінскай гвардыі, большэвікоў.
Авангард пролетарскай сусветнае арміі
слуцкі „рай“ раскалоў.

Раскалоў і пачаў будаваць яго нанава
для інакшых часоў, для інакшых людзей,
ў бойцы з люццю кулацкай, ды з нянавісцю панавай
Слуцак памаладзеў.

І стаіць цяпер Слуцак магутнаю вартаю
на граніцы двух светаў, ў страі гарадоў,
і у сэрцы яго б'ецца ленінскай партыі
ўсесаюзная кроў.

Перацёрта на порах даўнейшая Случчына,
гадунцы перадохлі, парваўся пояс.
Не лавіць ёй больш рыбы ў вадзе ўзбаламучанай,
не вярнецца той час.

Паляцелі да чорта бубновыя козыры—
хто у прочкі, хто ў жвір, хто ў балотную твань.
Перад іхным шыпеннем, выццём і пагрозамі
не баліць галава.

Не баліць галава, бо вадою гаючаю
сэрца ўспоена ў радаснай барацьбе.
Маладая мая, яснатварая Случчына,
гэты сказ пра цябе.



Слуцкае гісторыі стагоддзі
новае прымае пакаленне.
Усё мяняецца і ўсё прыходзіць,
абнаўляючыся ў кожнай змене.

Вось і Слуцак... вырас, абнавіўся,
кучаравы, яснавокі, статны.
...Ў табелі імперыі расійскай
Слуцак быў калежскі рэгістратар.

Ен засівераў у лютых бойках,
мазалі здабыў у вольнай працы,
ў барацьбе праверыў свае вока:
навучыўся з ворагам змагацца.

Ў стуку цэглы і у звоне сталі
аднае ён стаў крыві і рода
з тымі, што сцяной магутнай сталі
ад Днястра і да Варангер—фьорда.

Не гудуць пакуль гудкі на слуцкіх пожнях,
ён пакуль жалезам не багаты.
ды ў краіне Слуцак не апошні—
ён у нас заслужаны араты.

Менск рабочы—на чале краіны,
і муры муруюць Гомель, Віцебск,
Слуцак пролетарскую адрыну
насыпае жытам і пшаніцай.

Ён скародзіць поле, звозіць крушні,
яго цэх—крыштальны, сіні, ясны.
І у нашым будаўніцтве дружным
Слуцак—наш перадавы калгаснік.

І яму адчынены ўсе дзверы,
да яго цягнік бяжыць са свістам,
для яго працуюць інжынеры
і не спяць начамі комуністы.

Для яго Чалябінск трактар робіць,
грузавік яму збірае Горкі:
з імі ён аднэй крыві і рода,
з імі ён шагае роўным крокам.

Са старэйшымі братамі поплеч
ў будучыну цвёрда ён шагае.
Нібы сонца у драбнюткай кроплі,
ленінская думка ў Слуцку з'яе.



Не можна грэбаваць нічым
у важнай і вялікай справе.
Паслухайце, як на Случы
з Кальвінам ГЭТ змагаўся слаўна.

Калісьці страх было прайсці
у тлустай цемры вуліц вузкіх.
Але сягоння зіхаціць
электрыка у новым Слуцку.

Дзе сумна тлелі лучнікі,
газніцы смутныя мігцелі,
там узялі большэвікі
у новы мур старую цэглу...

...Даўней, як папы і папы
аўтарытэт свой сталі траціць,
трывожны смутак ахапіў
князёў за добрабыт магнацкі.

І, каб нанова надзяліць
надзеяй райскай селяніна,
князі з Жэневы прывязлі
навінку новую—Кальвіна.

Кальвін асеўся на Случы
злавеснаю і чорнай плямай
і бедакоў пачаў вучыць
на новаму аб тым-жа самым.

— Працуй, цярпі і не ўздымай
вачэй да земскіх маестатаў.
Тут пану панава аддай,
там будзеш мець за ўсё заплату.

Вякі прынеслі шмат навін.
Князі даўно дайшлі да ручкі.
А ўсё ‘шчэ ў Слуцку Жан Кальвін
сядзеў начной драпежнай птушкай.

Але настаў нарэшце дзень...
У дзверы чорныя сабора,
не кланяючыся ідзе
госць новы з поглядам напорным.

Не зыбаючыся ідзе,
глядзіць навокал пільна, строга.
Разгневаны Кальвінаў цень
загарадзіў яму дарогу.

Ў вачах палаючая злосць,
з кляцьбой высока рукі ўзвіты...
— Як смееў ты, нечасцівы госць,
ўвайсці у дом мой, дом малітвы?

А госць адказвае наўпор:
— Адкуль ты гэтакі узяўся?
Па канстытуцыі сабор
належыць слуцкаму камгасу.

Яго й бярэ цяпер камгас—
і як належыць скарыстае:
дынама стане тут у нас,
таксама новы дызель стане.

Дамо святла ва ўсе куткі,
у млын, у пільню ток пагонім...
Між іншага, хто ты такі?
Вар'ят ці проста непрытомны?..

— Хто я, няшчасны? Жан Кальвін,
прарок, слуга жывога бога,
цябе-ж, граха гарэзны сын,
найвышні пакарае строга.

Госць у адказ:—Не залівай.
Занадта нешта ты мудруеш.
Хоць сто найвышніх выклікай,
ад іх адказа не пачуеш.

Патрэбна гораду святло.
Нам прыхажане перадалі
сабор гэты, што варт на злом,—
ён Слуцку дасць дабра нямала.

Дэвотак нават запытай,
прайшоўшыся па ўсіх дзядзінцах,
што ім мілей—на небе рай,
ці тут, у Слуцку, электрычнасць!

Усім абрыдаў тут трызвон
ды байкі пра багоў, пра неба.
Ты, дзядзька, вымятайся вон,
а то яшчэ сапрэш што небудзь.

Пайшоў Кальвін з двара ў двор
і ўсюды чуў адзін адказ ён:
—Не ведаем, што там, ля зор,
а тут смярдзіць страшэнна газай.

А пеклам нас ты не дзіві—
мы з панскіх выбіліся ручак!..
Закрыўшы вочы Жан Кальвін
ў Жэневу рушыў прэч са Слуцка.

Пайшоў Кальвін са Слуцка прэч,
дарэмна змарнаваўшы годы.
І лампа ГЭТ'а ў сотню свеч
яго змяніла назаўсёды. [1]



Бярвенні стузамі ляжаць,
сваёй чаргі яны чакаюць.
Нядоўга ім ужо чакаць—
чарга іх хутка наступае.

Не ўзяць са слуцкай пільні шмат—
занадта ўжо яна малая.
Аднак-жа пролетарыят
і ёй рахунак прад'яўляе.

[1]) У даўнейшыя часы Слуцак быў адным з буйных цэнтраў кальвінізма на Беларусі. Пасля рэволюцыі кальвінскі сабор у Слуцку, страціўшы ўсіх сваіх прыхажан, паслужыў памяшканнем для першай у Слуцку электрастанцыі.

Свіргочуць рамы—шух-шух-шу—
сцякаюць пахкім пілавіннем.
—Я пагашу, я па-га-шу
рахунак, складзены краінай.

Вы, што праходзіце няўзнак
каля звычайна хвойнай дошкі,
спыніце на хвіліну шаг,
зірніце ды разважце трошкі.

Яна не скажа аб сабе,
аб родзе сваім, пахаджэнні,
аб безупыннай барацьбе—
вам дапаможа ўяўленне.

Вакол яе ішла вайна
за якасць, сабекошт і тэмпы,
і нарадзілася яна
раней за вызначаны тэрмін.

Ей кінуў злоснік хмуры зрок,
ударнік прывітаў усмешкай:
яна—яго чарговы крок
на соцыялістычных сцежках.

Яна ляжала на дажджы,
і злодзей скраў яе са склада,
яго злавілі уначы
хлапцы з ударнае брыгады.

Пасля на мост яе прыб'юць—
канцы дарог яна павяжа:
па ёй машыны пабягуць,
воз прапаўзе з цяжкой паклажай...

А мо' ёй прыдзецца ляжаць
у новым доме, у моцнай столі,
ці галярэю абшываць
дзе небудзь у далёкай штольні.

З яе карысці будзе шмат
усюды—ў Слуцку ці ў Донбасе,
куды-б ні слаў яе загад
краіны, партыі і класа.

Пяе піла, звініць піла
нібы не з сталі—з парцэляны:
—За промфінплан, за промфінплан!
Дамо яшчэ, дамо звыш плана.

Звыш плана мы яшчэ, сябры,
шэсць дошак выпіліць павінны:
няхай з іх зробяць цесляры
жыццю старому дамавіну.

●

Ўставала з нізін энергія,
напружаная, як струна.
Узрушанаю паверхняй
клубілася цаліна.

Ўзляталі ў паветра бурбалкі
і лопаліся, як званы.
Пытанне ўставала рубам—
мы возмем верх, ці яны.

Замкнуліся дзверы ў хатах—
чалавек чалавеку воўк.
Ішла за ратаю рата,
сыходзячы ціха ў бок.

Пунсоваю гадавінаю
за маем ішоў лістапад;
праводзіў іх злымі кпінамі
ў кругу сяброў Лістапад.

Уночы, у сонных марах—
вінтоўкі, тысячы рук:
ішла беларуская армія—
Астроўскі і Алексюк.

Гулі званіцы замшэлыя,
гудзеў касцельны харал...
Жыццё-ж ішло і кіпела
і пела Інтэрнацыянал.

Была у яго свая рацыя
і сэнс, і радасць, і боль,
ў Лістападавай хаце
звісала, як саван, столь.

У Лістападавай хаце
зялёны стол... галасы...
Умовы... Пазыкі... Акцыі...
Чыгункі... Гуты... Лясы...

Звіняць бакалы і шклянкі,
заліты віном абрус.
—Увага, панове! Па банку!
Пад картаю—Беларусь!..

Па Случчыне ціша мёртвая.
А карты—рып ды рып...
І вушы сквапна разгортваюць
Засценкі і хутары.

Сусекі ўзяты на клямку,
завала на парог.
Маліся за нас астрабрамская,
няхай ратуе нас бог!

Ратуйце з навалы дзікае!
Пан Езус! Пан Лістапад!
І дзынкаюць ужо, дзынкаюць
кайданы на даўні лад.

І гушкае ўжо, гушкае
старыя надзеі вайна...
Але магутнаю птушкай
ўздымаецца цаліна.

І з шматкілометравых крылляў
у мяккім бляску зары
скідае струхлелым пылам
засценкі і хутары.

І над гняздом Лістапада,
дзе ў шклянку звоніць бакал,
без жалю і без спагады
працягваецца рука.

Нязграбная, моцная, грубая
зрывае хату, як грыб.
І лопаюцца бурбалкі
і сонца на іх не гарыць.

●

Калі ў поле выходзілі межы зрываць,
завівайся, лянок, завівайся!
Там чарнобыль па нас бедаваў, гараваў,
буйнай сілай, жытцо, налівайся!

Шчэрыў зубы сусед на сваёй на мяжы.
Завівайся, лянок, завівайся!
Бабы крумкалі недзе—не жыць вам, не жыць!
Буйнай сілай, жытцо, налівайся!

Калі мы малатарню ў суседа ўзялі,
завівайся, лянок, завівайся!
Ён бажыўся, што ёсць на руках мазалі,
буйнай сілай, жытцо, налівайся!

У суседа мазоль ад тугіх капшукоў.
Завівайся, лянок, завівайся!
Жыта ў яме, а ў стайні зарэзаны конь.
Буйнай сілай, жытцо, налівайся!

Як сябра на вайне, ратавалі каня.
Завівайся, лянок, завівайся!
Папялішчамі ўночы смылела вайна.
Буйнай сілай, жытцо, налівайся!

Калі прэч мы пагналі суседа свайго,
завівайся, лянок, завівайся!
Наклікаў ён на нас і ваду і агонь.
Буйнай сілай, жытцо, налівайся!

Калі ў поле з сявалкамі вышлі мы ўсе,
завівайся, лянок, завівайся!
Кпліва крумкаў крумкач—недасеў, недасеў!
Буйнай сілай, жытцо, налівайся!

А як новае поле без межаў гуло,
завівайся, лянок, завівайся!
І пастукаў калгасны да нас умалот,
буйнай сілай, жытцо, налівайся!

Залацелі ваенным трафеем снапы,
пелі косы альтом, дыскантамі сярпы!
Завівайся, лянок, завівайся!
Буйнай сілай, жытцо, налівайся!

Мы пазвозілі пуні з падворкаў старых—
завівайся, лянок, завівайся!
Ёўню новую вывялі нам цесляры.
Буйнай сілай, жытцо, налівайся!

Да гары мы снапамі заклалі яе,
завівайся, лянок, завівайся!
У тых снапах наша праца блішчыць і пяе.
Буйнай сілай, жытцо, налівайся!



Як вулей, вуліца гудзе,
драбіны войкаюць надрыўна:
сабраліся у святы дзень
аднаасобнікі на рынак.

Грыбоў вялікі перавяз,
капуста квашаная ў цэбры.
І ходзіць пуга раз-у-раз
па конскіх вытыркнутых рэбрах.

На кожнай конскай галаве
гара спрадвечнай конскай жальбы.
Спытайцеся, чым конь жыве—
ён вам не мала расказаў-бы.

Ён вам сказаў-бы, што надзел
гаспадара занадта вузкі,
што трэба вечна з дня у дзень
струхлелую салому хрумстаць.

Ён скажа:—У маім хляве
шмат болей дзірак, чымся сценак:
улетку неяк пражывеш,
а ўзімку холадна страшэнна.

А ў працы ўсюды конь ды конь—
канём усе заткнуты дзіркі.
Гаспадара шкада: і ён
Жыве нішчымнаю заціркай.

Хай і смачнейшая яна
ад тэй, што некалі бывала.
Але хіба ішла вайна
ўсяго за адрабінку сала?

Павінен-жа сябе бядняк
цаніць высокай, поўнай мерай.
А гаспадар мой аніяк
ў адкрытыя не ўвойдзе дзверы.

І дзіўна: цэлы век пражыў,
і шыю гнуў, і спіну горбіў,
а сцеражэ свае мяжы,
як дурань пісанае торбы.

Усе вакол яго расце,
разгортваецца ўшыркі, ўдоўжкі,
з сваёй мяжою у хвасце
паўзе ён непрыкметнай мошкай.

А што дала яму мяжа?
І сам ён гэтага не знае.
Звычайны нэндзны ураджай
тузе канца не абяцае...

З тугі апошнюю аброць
мой гаспадар аддаў за чарку.
Што ні кажыце, я супроць
аднаасобнай гаспадаркі.

●

Гэта можа толькі сніцца.
Змрок бязмежны і глухі.
Пачыналі Дарасінцы
ад дубовае сахі.

Спавівала іх балота,
а туман іх калыхаў,
байкі баялі чароты,
пела песні ім альха.

Лучнікі узімку тлелі,
і, пад спеў верацяна,
без усмешкі, без вяселля
надыходзіла вясна.

Быў сусед суседу воўкам:
самы блізкі—самы злы.
Пільнавалі сквапным вокам
межы нэндзнае зямлі.

І адно палі злучала—
неадчэпная бяда:
ўсе нізіны залівала
гарапашнікам вада.

Кожны бачыў, кожны ведаў—
ўзяцца-б разам ды дружней...
Ды сусед дзеля суседа
нават пальцам не кране.

І гніла ў склізоце бульба,
захлыпаліся аўсы.
Вечнай зайздрасцю і згубай
быў наліты Дарасін.

Аднаго заела беднасць,
бо другі прабіўся ўверх—
і душыў свайго суседа
як шалёны, дзікі звер.

Аскірваліся і чэзлі.
А у той дваццаты год
з лесу гаўкалі абрэзы,
заліваўся кулямёт.

А было-ж іх, і не мала,
гэтых ценяў баравых—
іх мінуўшчына наймала
бараніць свае правы.

Але партыя гукнула—
вышаў парабак, бядняк,
сілу мужную згарнулі
у адзін тугі кулак.

Жываглота, чужаеда
да парога правялі.
І пазнаў сусед суседа
на агульнай на зямлі.

Строй убогі сох дубовых
пераходзіць у плугі.
Стромы спраў і думак новых
залiваюць берагі.

І, з суседам поплеч стаўшы,
усміхаецца сусед:
— Ўсё цяпер, суседзе, наша:
праца, свята, дзень і свет.

Не на жарт, не на забаву
з забалочаных нізін
у шырокія канавы
выгнаў воду Дарасін.

Дзе ў багне танулі межы,
з жытам шэпчуцца аўсы.
У сяўбе сягоння першым
выступае Дарасін.

Ці магло-б хаця прысніцца?
З нэндзы, з голаду, з грызні
дружным строем дарасінцы
вышлі ў сонечныя дні.



Тут панавалі з даўных дзён
палын ды плодны пырнік.
І дзіўна чуць вясёлы звон
аўса на гэткім жвіры.

Будынкі новыя кругом,
абора і вазоўня,
для школы дом, для ясляў дом,
а ўсё ідзе будоўля.

Ні дошкі, ані берваяна
не мелі у запасе—
але ніщто не навіна
ў згуртаваным калгасе.

Са свірнаў, еўняў ды гумён
бярвенні выбіралі.
Ўсе памяткі калішніх дзён
нівечылі без жалю.

Ўчарашнія ратаўнікі
свайго старога плота,
сабраўшыся гуртом, цвікі
нарэзывалі з дроту.

Гатова стайня, каланча,
а столькі яшчэ справы!
І Гурба, старшыня, бурчаў,
што зараз клуб паставіць.

І што тут дзіўнага, калі
усім за ганьбу стала,
што іх зямля, што іх палі
ў сяўбе былі адсталі.

Таварыш Гурба аж смылеў,
кіпелі брыгадзіры;
звязаліся ў тугім вузле
энергія і шчырасць.

Гароды кінулі і ўсе
на поле разам сталі,
але закончылі пасеў
і план адратавалі.

Цяпер па хатах цішыня
і радасная змора.
— Ну, заўтра,—кажа старшыня,—
аб клубе пагаворым.

Таварыш Гурба, добры сон,
шчаслівы адпачынак!
Бясхлебіца мінулых дзён
навекі супачыла.

Ваш дружны, шчыры калектыў
зрабіў глыбокі дол ёй,
яна ваш ранак залаты
не замуціць ніколі.

Яна патлее ў парахню
з кулацкім сваім родам,
што вас і продкаў вашых гнуў
халодных і галодных.

●

Ты не ўкрадзеш ні снапа
у селішчах з калгаснай пуні.
Дабро калгаснае Санг-фа
там дзень і ноч пільнуе чуйна.

Гарыць у небе зорак плынь.
Быць можа там Санг-фа прасочыць
вязьмо далёкіх каляін,
былыя дні, былыя ночы.

Санг-фа глядзіць, Санг-фа маўчыць,
на твары не кранецца мускул.
О, не! Па зорках не злічыць
ўсіх вёрст ад Пекіна да Слуцка.

На зоркі ён і не глядзеў
з жабрачых мукдэнскіх падвалаў,
ніколі месяц не блішчэў
яму ў томскія капальні.

Было зусім не да таго
і ў партызаншчыне таежнай,
і безуважна зірк яго
мінуў зямлі і неба межы.

Ён па зямлі начную цьму
пранізываў руплівым зрокам,
і сэрца ворага яму
над мушкай зіхацела зоркай.

Мінуў ён ледавы Байкал,
Прайшоў Бярэзіны разлівы,
і супыніўся на прывал
на зіхатлівых слуцкіх нівах.

Непараўнаны ураджай
дало змаганне ў сэрцы буйным,
і палюбіў Санг-фа той край,
што бараніў ён для Комуны.

Ён разгарнуўся на ўвесь рост,
ў калгас прышоў з палоскі вузкай.
—Скажы, таварыш, колькі вёрст
цяпер ад Пекіна да Слуцка?

—Аб гэтым лепей не пытай
туды ісці—аж на край света.
Далёкі для мяне Кітай
Такі, якім ён быў дагэтуль.

Там генерал ёсць, там буржуй.
Я калі-небудзь пры спатканні
ім проста ў вочы пакажу
білет былога партызана.

Я пазганяю іх з зямлі—
хай працу чорную спазнаюць.
Хутчэй-бы толькі завялі
калгасы землякі ў Кітаі.

О, я-б пашоў, я-б пасабіў
і блізкаю была-б дарога.
Прайшоў я школу барацьбы
і чуў дыханне перамогі.

Бедняк мілей мне і бліжэй
ці з Пекіна ён, ці са Слуцка,
чым самы шчыры крыважыр—
кітайскі ён, ці беларускі.

Чужына мне стары Кітай
мне ёсць дзе жыць, за што змагацца,
мне родным стаў совецкі край—
адзіная айчына працы.

●

Стары зсівелы аграном,
што наглядзеўся дзіваў многа,
пужаў ячэйку і райком:
—Не выйдзе з гэтага нічога.

Адно—традыцыю ламаць,
Другое—дужацца з прыродай.
Не варта нават прабаваць,
псаваць насенне нават шкода.

Тут асаблівая зямля,
тэмпература, вільгаць, глеба.
Я так лічу, што і у план
звышранні сеў ўключаць не трэба.

Чаго не ведалі вякі,
таго не вырашаць і годы.
Райком сказаў:—Большэвікі
умеюць дужацца з прыродай.

Умеюць і перамагаць—
Галодны стэп, Дняпро засведчаць:
ні жвір, ні камень, ні багна
нам не пасмеюць супярэчыць.

Прыгрэла сонца па снегах.
Ледзь-ледзь зямліца зачарнела.
І быў засеян першы га
ў сакавіковай пары белай.

Узышоў авёс. Ужо на смех
падняць хацелі агранома,
аж тут як сыпнуў новы снег,
узʻюшыўся мароз шалёны.

Так і прапаў звышранні сеў,
не здужалі, чаго хацелі.
У санях ездзяць па аўсе.
У райкомцаў вочы пасмутнелі.

Цішхом смяецца аграном,
плячамі цісне—неудача.
Не будзе ладу з тым аўсом,
бо кто-ж і дзе такое бачыў.

Прышла вясна, сяўба, і вось
на полі, ад снягоў адкрытым,
ажыў пахованы авёс
густым зялёным аксамітам.

Больш не смяецца аграном.
Авёс расце, авёс красуе.
Вось гэтак зруйнаваў райком
сяўбы традыцыю старую.

На дзіва урадзіў авёс.
І аграному ясна стала:
і снег, і глеба, і мароз
у тэхніцы зусім адсталі.

Чаго не здужалі вякі,
тут вырашылася ў поўгода.
Ў казіны рог большэвікі
загналі слуцкую „прыроду".



Не сніліся такія дні
яшчэ нікому і ніколі.
Хапала хлеба да вясны —
мякіну елі ад Міколы.

А сёння сталі хлеб дзяліць,
прыпомнілі, чаго хто варты.
І сумныя дзянькі прышлі
для неахайных і нядбайных,

І ганьба ела гультая,
нядбайлу вочы выеў сорам:
хто не гуляў, хто не стаяў,
прад імі стаў жывым дакорам.

Куды ішлі, за кім ішлі?
Чыёю працай жыць хацелі?
Не жыць такому на зямлі,
хто з мазалёў чужых сыцее.

Хто глуміць пот таварыша,
яго спрацаваныя рукі,
няхай з нішчымнага гаршка
нялёгкай зачарпне навукі.

Бясхлебіца—забыты сон
для тых, хто працаваў і верыў.
Удзячнасць ясных каласоў
яму аддасцца поўнай мерай.

Каму агульны дабрабыт
вышэй быў за свае анучы,
той права на жыццё здабыў,
таму прад доляю не гнуцца.

Адсталаму дапамажы,
калі ён верыць у сягоння,
дык на чарговым рубяжы
дагоніць ўсіх і перагоніць.

А хто жыве ўчарашнім днём,
каго пужае шлях далёкі,
не ўвойдзе той у новы дом
свабодным гаспадарскім крокам.

Хто-ж рые ямы на шляху,
у пыл паваліцца той ніцма,
іператруць яго ў труху
пуцін далёкіх навальніцы.

●

Як глядзіш на буйны слуцкі росквіт,
„земляка" зусім не лішне ўспомніць.
Як вам там жывецца, пан Астроўскі,
у чыёй пярэдняй вы сягоння?

Можа сняцца вам яшчэ маёнткі,
што на Слуцку зарабіць хацелі,
маркі, злоты, долары і кроны
або міністэрскія партфелі?

Можа сніцца вам ваш дом у Слуцку
(Вы-б хацелі большы мецъ, вядома?)
ўсякіх налізаліся вы ручак,
а няма ў вас і страхі ад дома.

Так, няма, ды пэўна і не будзе,
бо на Слуцак ваша стаўка біта.
Тут жывуць зусім другія людзі,
ўсё былое знікла і забыта.

Слуцкая экзотыка сатлела,
самабытнасць тлустая таксама.
Случчына у будучыню смела
зашагала за большэвікамі.

Не памог вам кайзер, ні Дзенікін,
будзе так і з Гітлерам, і з кожным.
І у вашай роспачы вялікай
мо' алжырскі бей вам дапаможа.

Паспрабуйце! Што-ж тут ёсць такога?
Можна падбадзёрыць бея крышку:
нашапчыце, што пісьменнік Гогаль
напісаў пра нейкую там шышку.

Можа бей пакрыўдзіцца і вышле
армію зніштожыць край Советаў.
Толькі каб не мець выдаткаў лішніх,
пачакайце задаваць банкеты.

Не спяшайцеся: налётаў збродных
не баяцца сёння ўжо случане:
зорка варашылаўскіх паходаў
зіхаціць і ў Слуцку на Трайчанах.

І зіяе зорка тая ясна
над кагортай гарадоў сталёвых,
па-над кожнай хатаю калгаснай,
над усёй працоўнаю зямлёю.

І яе прамені моцна жаляць
ўсіх, хто руку ўздыме на Советы,
бо яна, палаючы, злучае
пролетарыяў ўсяе планеты.

Так што пачакайце, пан Астроўскі,
хоць і вельмі ласы вы і сквапны:
хто ўздымае лапу на наш росквіт,
застанецца той зусім без лапы.

Разумеюць нават нашы дзеці,
хай і кожны гэта добра знае—
калі ў бойцы вораг не здаецца,
мы яго бязлітасна знішчаем.



Вам, што здолелі Слуцак па новаму вырасціць,
разгарнуўшы звычайныя годы ў вякі,
вам складаю я словы захаплення і шчырасці,
слуцкія большэвікі!

З украінскіх стэпаў ці з Сібіры далёкае,
ад Дзвіны ці ад Нёмна прыходзілі вы—
вы шагалі наперад жалезнымі крокамі,
не шкадуючы галавы.

Вы ішлі без вага́ння, крутыя, упартыя
на бандыцкі а́брэз, на балотную твань.
Вы жылі баявымі загадамі партыі.
Хто з вас сіл шкадаваў?

Вас не страшыла нават магіла вільготная,
вы за справу без роспачы аддавалі жыццё—
толькі ў сэрцы гуло і кіпела грымотнае
большэвіцкае пачуццё.

Ажываюць у сэрцы суровай пяшчотаю
чатырнаццаць замучаных партызан
і імёны Манахава і Ферапонтава [1]—
новай Случчыны рань!

Не памерлі ў вас ідэі забітых, замучаных,
яны толькі далей заклікалі жывых.
Калі тлела ў бандыцкай нянавісці Случчына,
не схіляліся вы.

За нянавісць плацілі вы жорсткай нянавісцю.
Смертаносным ударам канчалі вы бой,
І, знямогшыся, ворагі вашы згіналіся
пад магутнаю вашай рукой.

Ўсе куткі запалілі сваім захапленнем вы.
І, адданасці вечнае даўшы зарок,
правяралі і мералі думкамі Леніна
кожны ўздох, кожны крок.

---

[1]) Члены слуцкай арганізацыі КП(б)Б, забітыя ў бойках за новы Слуцак.

І, муруючы новае долі падваліны,
вы ніколі з тугой не глядзелі назад,
найвышэйшая праўда вам голасам Сталіна
аддавала загад.

Вы крышылі зямлю, гуртавалі, збіралі,
ваявалі за хлеб, ураджаі вялі.
Вашы грудзі ў змаганні пажарам палалі,
вы-ж наперад ішлі.

Дабівалі прахвостаў ўсіх масцяў і колераў.
Як калісь на Дзенікіна і Калчака,
вас вадзіла на зябліва, ворыва, поліва
дырэктыва ЦК.

І не чулі вы жалю па юнасці страчанай,
не глядзелі, як сыплецца дзён белы цвет.
І жыццём, і каханнем, і пяшчотаю матчынай
быў для вас партбілет.

А юнацтва ізноў нібы фенікс[1]) вясёлкавы
адраджалася з попелу і жыло, і цвіло.
І пад сівымі скронямі—кроў комсамольская;
і ў вачах незмяркаючае святло.

Загартованы мускулы ленінскай цвёрдасцю,
ў сэрцы энтузіязма б'юцца рухавікі.
У вас жыве рэволюцыі вечная моладасць.
слуцкія большэвікі!

Менск-Слуцак.
1932—33 г.

---

1) Фенікс—міфічная птушка незвычайнай прыгожасці; яна, згодна легенды, ніколі не памірала, але запалівала сама сябе ў сваім гняздзе і адраджалася зноў з попелу.

**БАРЫС МІКУЛІЧ**

# ДУЖАСЦЬ

(ПРАЦЯГ УСТУПУ[1])

Скончыў сваё апавяданне Краўчанка неяк раптам. Ён пільна ўзіраўся ў актора і бачыў, што з тым рабілася нешта дзіўнае і незразумелае, Уся артыстава постаць была прыведзена ў нейкі незразумелы рух, рух на адным месцы, а на бледным—з падведзенымі вачыма—твары нараджаліся і знікалі, даючы месца новай, грымаса за грымасай—і ўся шматгранная гама чалавечых адчуванняў была ў гэтых грымасах: боль і жах, нецярплівасць і маўклівая просьба аб паратунку, туга і нянавісць.

Уласна кажучы, Краўчанкава апавяданне было кароткае, але жвавы малюнак мінулага доўжыўся ў актаравай істоце і перад ягонымі вачыма, нібы на велізарным экране, паўставалі гэтыя малюнкі мінулага, нават тыя, якіх не ведаў і не мог ведаць Краўчанка. Краўчанкава апавяданне абудзіла творчую актораву фантазію і, здавалася, што актор зацікавіўся гісторыяй сяброўства, зацікавіўся так, нібы тычылася яна не яго, а нейкага незнаёмага, далёкага чалавека. І калі Краўчанка змоўк, убачыўшы дзіўную змену масак на ягоным твары, тады актор прастагнаў, закрываючы твар рукой:

— Мы несліся ў аўто без ліхтароў... у нязведанасць начы... беглі ад вар'яцкага казачага гульбішча... Так, я бачыў Краўчанку ў чужой кубанцы... залітае полымем абліччa было жахлівае... Далей, кажы далей!..

Тады Краўчанка ўзяў актора за руку і глуха сказаў:

— Значыцца, ты зноў уцёк? Я гэтага не ведаў. Я шукаў цябе тры дні... Перарылі ўсё, усіх знайшлі, а вось вас з палкоўнікам не было. Але цяпер...

Актор адарваў руку ад вачэй, пахіснуўся, усім целам абвіс на стол, і плечы дрогка крануліся ў гістэрычным адчайным плачы. Гэта—надышла рэакцыя пасля цяжкай і ўпартай напружанасці думак і цягліц, рэакцыя асуджанасці: гэтак плачуць злачынцы ў адзіноце апошняга свайго прыстання, гэтак плачуць злачынцы ў апошнюю ноч свайго жыцця.

Грымеў за ценькай фанернай сцяной аркестр магутным харалам даравання і адпушчэння. Гэта былі заключныя грымоты аркестра, і, глушачы іх, нарадзіліся недзе ў велізарнай залі

[1]) Першая частка рамана надрукавана ў часопісе „Полымя Рэволюцыі". №№ 11, 12 за 1933 г.

воплескі, нарадзіліся і даляцелі сюды, у акторскую прыбіральню. І тады ля дзвярэй узнікла Эльга Райх, перапоўненая яшчэ натхненнем і поспехам, з адлюстроўкай упэўненасці і задаволенасці на ўсёй істоце, што бывае асабліва прыемным у першыя хвіліны, у хвіліны перамогі буйнага таленту над пачуццямі тысячнага гледача. Значна пазней прыходзіць стомленасць, а пакуль што—цела ірвецца яшчэ хваляваць сваімі чароўнасцямі людзей, цела, здаецца, спявае ўсімі сваімі частачкамі, цела просіцца ў рытм—бурлівы радасны рытм.

— Стась!..

Не ведала што рабіць, слоў не было, і яна колькі хвілін стаяла з немым запытаннем на абліччы. А за яе спіной грымелі воплескі і ўсё мацней і мацней грымелі чалавечыя галасы: спрэс п'яныя ад відовішча—яны хацелі, патрабавалі гэтага відовішча яшчэ і яшчэ. Але тут прыбег распарадчык у тугім накрухмаленым каўнерыку і, не заўважаючы здэтанаванасці актрысы і хмурасці чужога чалавека ў шэрым шынялі, выконваючы сваю службу, голасна крыкнуў да Юткевіча:

— Маэстра, вас патрабуюць!

— Не магу,—да крыві кусаючы вусны, працадзіў праз зубы.— Не магу!..

Распарадчык змераў позіркам Краўчанкаву постаць, і Краўчанка убачыў у гэтым позірку знявагу і дакор.

— Вас патрабуюць. Гэтым злоўжываць не трэба. Вы толькі выйдзеце...

Актор узняўся, рэзка выпростваючы перад люстрам сваю постаць, паглядзеў паўз галаву распарадчыкаву цяжкімі і мутнымі сваімі вачыма, сціснуў рукі ў кулакі і раптам ірвануўся паўз распарадчыка, паўз актрысу ў дзверы, на сцэну.

Міжволі Краўчанка падаўся за ім, але распарадчык схапіў яго за руку, пацягнуў за сабой і неўзабаве яны апынуліся ў перапляценні палотнішчаў.

— Тут добра глядзець,—зусім ціха сказаў распарадчык і рукой рассунуў палотнішчы.

Перад Краўчанкавымі вачыма была сцэна і на ёй—Юткевіч, радасны, бадзёры, прыўзняты. Насустрач яму ляцела авацыя залы, грымелі галасы і, здавалася, навальніца ўварвалася ў тэатр і пануе, гаспадарыць у ім. „Каго сустракаюць?"—мільгнула у Краўчанкавых думках. Каго сустракаюць? А вось, калі кінуцца паміж залай і акторам і крыкнуць на поўны голас—Вораг! Белагвардзейская сволач! Не паверацць, за інсцэніроўку палічаць, закідаюць шапкамі, свістам і рогатам. Актор быў тут царом, магутным валадарнікам пачуццяў тысяч людзей.

— Хто вы?

Ён рэзка павярнуўся на запытанне. Побач з ім стаяла Эльга Райх. Яна адчула, што гэты чалавек прынёс сюды трывогу, зразумела, што Юткевіча ўсхвалявала гэтая нечаканая сустрэча— і хіба не праз гэтую сустрэчу партнёрам яе апанаваў дзікі, няст-

рыманы ажыятаж?—з выключным нервовым узрушэннем, менавіта з ажыятажам танцаваў цяпер ён. І жанчына ў момант вырашыла дазнацца аб тым, што паміж іх было, а калі было штонебудзь жахлівае (інакш яна думаць не магла)—дык выратаваць Юткевіча, выратаваць абавязкова, калі гэта патрэбна.

— Нічога.

Тады яна ўсміхнулася гарэзнай і чароўнай усмешкай,—гэткай усмешкай можна заваяваць самага жорсткага дзікуна. Яна ўзяла Краўчанку за руку, амаль прыціскаючыся да яго ўсім лёгкім і прывабным сваім целам.

— Кажаце—нічога? Вы маніце. Я гэта бачу, не ўтойвайце. Ваш прыход,—яе вочы ярка заззялі,—прыгадаў мне грамадзянскую вайну... Ваш шынель...

— Я прыехаў з фронта,—жорстка перапыніў ён і наважыўся адвярнуцца.

Але яна моцна трымала за руку.

— З фронта?—гарачая зацікаўленасць прагучэла ў голасе.—Ён-жа скончыўся тры гады таму назад.

— Для мяне ён не скончыўся і цяпер.

І, рэзка ірвануўшы руку, ён шпаркімі крокамі пашоў у дзверы акторскай прыбіральні. Яна падбегла да іх, зазірнула, тклівым позіркам прасачыла за тым, як чалавек, дакорліва махнуўшы рукой, вышаў у файе.

Даленга быў яшчэ на сцэне. Ён зноў і зноў танцаваў сваю выдатную імправізацыю пра чырвонаармейца ў белым палоне; зала грымела крыкамі і воплескамі, кропелька поту павісла на даўгім дырыжэравым носе. З затоенай увагай сачыла за танцорам ягоная партнёрка. Чужому чалавеку не цяжка было-б зразумець, што яна любіць гэтага танцора, што ён—не проста партнер, калега па рабоце, а чалавек, які ведае нейкую выключную тайну яе жыцця і сваё жыццё аддаў у рукі яе. Нібы напісана гэта было на яе абліччы. У ім было ўсё—і матчына каханне, і таварышовая трывога, і выраз тых пачуццяў, што прыўласны жанчыне, калі яна раптам адчула, што пахіснулася яе ўлада над мужчынам, што мужчына аддаляецца ад яе і трэба яго ўтрымаць ля сябе, утрымаць абавязкова. І мацней за адчуванне болю, мацней за крыўду ўзнікла ўпартасць—адрэзаць дарогу яму ад пабега.

...І потым ён стаяў ля расчыненага вакна і бачыў абрысы манастырскай сцяны, контур стромкай цэркаўкі, чуў шалясценне дрэў і аддаленыя званкі трамваяў. Не маркота аўлададала ім, а адчай, нейкае цяжкае прадчуванне. Ды інакш і не магло быць. Хіба Краўчанка толькі пагражаў? Хіба ён забудзецца на сустрэчу? Што спыніць яго? Ён здзейсніць сваё абяцанне, здзейсніць помсту. Ён фанатык, факт.

Ён хацеў сарвацца з месца і кінуцца куды-небудзь, рабіць што-хаця, адагнаць трывожныя турботныя гэтыя думы, хоць на адну хвіліну супакоіцца... адчуць, нарэшце, змору ва ўсім целе—

ён-жа ў гэты вечар столькі перацярпеў, столькі пераадчуў. Але за яго спіной у велізарным скураным крэсле сядзела Эльга, упарты свой позірк утаропіўшы ў Станіслава. Ён ведаў, што калі абернецца, Эльзіны вочы заблішчаць спачуваннем і патрабаваннем—а ён не хоча ні першага, ні другога, не хоча праракнняў, слёз, турбот.

У сваю чаргу Эльга таксама зразумела, што турбаваць Станіслава не трэба, як-ні-як яна была тактоўны чалавек, як большасць жанчын, і, глушачы глыбокі ўздых, яна ўзнялася з крэсла, прашамацела шоўкам сваіх убораў, і лёгкі ветрык пранёсся па пакою, як адчыняліся на момант дзверы. Тады ён уздыхнуў на поўныя грудзі, рэзка павярнуўся спіной да вакна і, агледзеўшы апусцелы пакой, з выразам рашучасці і прытоенасці на абліччы, падкраўся да дзвярэй і—ключ звякнуў.

Потым ён сядзеў за пісьмовым сталом, нервова рвучы лісты. Грымаса асуджанасці была на твары. Цела сціскалася, нібы чалавек наважваўся кожную хвіліну кінуцца зверам на супраціўніка. Папяровыя кавалачкі ўкрылі стол, калені, дыван на падлозе. З лістамі было скончана. Тады з правай верхняй скрынкі ён выцяг сіні сшытак, разгарнуў яго наўгад, і яму кінулася ў вочы:

„Цяга да бацькаўшчыны—цяга да жыцця. Можа і лепш, што Крым адрэзаны ад нас, што чырвоныя часці выбілі рэшткі нашых з яго. Дзе бацька? Не ведаю, як не ведаю і таго, куды знік учора Саша. Я прышоў у наш хлеў, што завецца на мясцовым жаргоне гасцініцай, чакаў яго праз цэлую ноч і не дачакаўся. Можа ён яшчэ прыдзе, але я не веру гэтаму, бо ў нашым становішчы па адным лягчэй выкіроўвацца на дарогу. Ну, і няхай. Увечары праз вакно я глядзеў на пустыр і ўявілася мне Расія гэткім-жа пустыром—і ці хопіць сілы прайсці яго?"

Ён рэзка разадраў сшытак. І тады, калі застаўся ад яго грудок паперы, выяўленне нутранога болю адлюстравалася на твары.

Усё было скончана.

Дарог да мінулага не было, апошнія надзеі на тое, што гісторыя можа паўтарыцца, раптам зніклі. Знікла прага да жыцця, жаданне задаволенасці і славы, славы, якой шукаў і намагаўся праз усё гэтак званае жыццё. А само жыццё? Гэткае запытанне паставіў чалавек сам перад сабой і спалохаўся бяздушнасці яго. Жыццё... Хіба яно было? Яно, здаецца, толькі ўваходзіла ў ягоныя дзверы, але ён сам спалохаўся ягонага прыходу і з усёй сілай наваліўся на дзверы. Вось-бы адчыніць гэтыя дзверы цяпер, няхай яно ўвойдзе—шматкаляровае і наднае, возьме яго аберуч і кіне ў чалавечую гушчу, і можа там, у вялікім калектыве, ён акрыяе, адчуе, што жыццё—не мачыха, а родная матка. Ён адчыняе дзверы, і ў твар б'е сівер, пустата перад ім—аж страшка глядзець у яе, да болю страшка. Жыццё... жыццё пакінула ягоныя дзверы, ён дужа доўга гуляў з ім у схованкі. Жыццё пакінула ягоны свет, і не сполахам ужо вее ад гэтага бяздушнага

запытання. Вее ад яго асуджанасцю—і ні каліва даравання, ні каліва адпушчэння. Усё скончана.

Станіслаў праз сілу ўзнімаецца з крэсла, падыходзіць да шафы і—раней, чым адчыніць яе, узіраецца ў люстраныя дзверы. Ён не пазнае сябе. Не пазнае сваіх дваццаціляці гадоў. Твар у зморшчынах, прыкрая вузкая рыса перасекла старчаком лоб, вочы выцвілыя нейкія і валасы... валасы... куды падзеўся залацісты іхны глянц! Ён заплюшчвае вочы і рэзка рве да сябе дзверцы шафы. Вобмацкам ён знаходзіць у ёй бутэльку і шклянку, шклянкаваліцца з рук і бразгат парушае ціхоту. Ён уздрыгвае. Расплюшчвае вочы, яны ўтаропліваюцца ў бутэльку, у якой чыстая, чыстая пабліскае на электрычнасці вадкасць. Порстка вылётае корак, набгом апаражняецца бутэлька, і адно кратаецца ў чалавека адамава яблыка. Потым ён бяжыць да канапы і—страчваючы прытомнасць—падае на яе. Ірацыянальнасць трызні апаноўвае чалавека.

А ў гэты час Эльга ў сваім пакоі хавае ў пухавіку галаву, заціскаючы далонямі вушы. Яна пачынае лічыць ад аднаго да дзесяці, каб заснуць. Гэта не дапамагае, а толькі нервуе. Тады яна зрываецца з ложка і кідаецца да вакна, за якім засынае магутная Масква.

Па ёй, па Маскве, спяшаюцца дахаты познія пешаходы, вартавыя мерна крочаць, скіфскімі прывідамі лятуць у змрочнае неба стромкія вежы Крэмлёўскіх сцен, часам прагудзе грузны грузавік,—няма нічога больш прывабнага ў гэтым азіяцкім горадзе, як блукаць па анямелых дзівосных яе завулках і вуліцах.

І вось недзе на перакрыжаванні чатырох вуліц у расхрыстаным шынялі шпаркімі крокамі ідзе наўгад Краўчанка. Ён праходзіць пляцы, скверы, бульвары, аднаўляючы ў памяці дарогу да Тасінай кватэры. Ён, бадай, ні аб чым не думае, уся воля ягоная накіравана на росшукі патрэбнай вуліцы. Ён колькі разоў блытаецца, спыняецца, азіраючыся, вяртаецца і зноў ідзе наперад. Ён заваёўвае начную Маскву, і яна нібы скараецца волі гэтага чалавека.

Яму адчыняе Тася, ззяючы свежай сваёй усмешкай. Ён нават здзіўлены:

— Не спала?

— Нічога, Барыска, чакала... Зачыталася неяк... Аж чацвертая гадзіна...

Скінуўшы шынель, ён сядзіць супраць яе і вінавата кажа:

— Не паспеў прыехаць, а ўжо надакучваю табе. Ты-б спала...

Яна сядзіць, локцямі падпёршы твар; ад гэтага шчокі ее яшчэ больш ружовыя і пухкія. А ў вачах Тасіных—ці можа гэта здаецца Краўчанку?—пяшчота..., і ўся яна па-ранейшаму прывабная, гэткая простая, свая.

— Каб ты толькі ведала, каго я напаткаў?—раптам хмурнее Краўчанка. Ён усміхаецца неяк ненатуральна, і вочы робяцца вузкімі-вузкімі.—Калі шанцуе, дык шанцуе!..

У Тасіных вачах узнікае насцярожанасць. Праўда, гэтая насцярожанасць валодае ёю ўсе гэтыя дні, як прыехаў Краўчанка, але ў дадзеную хвіліну яна асабліва выразная і непрыхаваная.

— Каго-ж?

— Юткевіча.

Яна ўздрыганула, і ён гэта заўважыў.

— Чаго ты?

Яна адводзіць свае вочы ад ягонага позірка, знаходзіць патрэбу прыгладзіць валасы і змяніць позу—садзіцца да яго напоўбаротам.

— Ты, мусіць, памыліўся...

Паціскае Краўчанка плячыма, вочы звужаюцца яшчэ і яшчэ, нібы святла баяцца яны.

— Не, гэта ён. Я з ім нават гадзіну гаварыў. А пазнаў адразу, ведаеш. Што называецца—у косці ўеўся, не пазнаць ці памыліцца цяжка.

— Я хочу спаць!—раптам кажа яна і спехам узнімаецца з месца.—Пакойнай ночы. А пра гэта—заўтра давай пагаворым. Можа гэта і ён...

...У тую ноч дзве незнаёмыя адна аднэй жанчыны доўга думалі пра супярэчлівасць жыццёвых з'яў, пра няўхільнасць жыццёвых катастроф. Эльга выратавала выратаваць Станіслава, але, уласна кажучы, не ведала, адкуль прыдзе небяспека, якая важкасць яе. Не ведала, але адчувала, што катастрофа паўстала перад Станіслававым абліччам, адчувала, як жанчына, што любіць, што жыве сэрца-ў-сэрца з другой істотай, блізкай і дарагой. Іншая трывога была ў Тасі. І не выяўлялася яна гэткімі складанымі пачуццямі. Не Юткевіча ёй шкада было, не яго мысліла яна выратаваць, яна добра ведала, што не стрымаць Краўчанку, што, бадай, і не трэба стрымліваць яго. У Тасіных турботных думах на першым плане была яна, быў яе гонар, быў яе... сын! Не заўтра, дык на дзень пазней, а сын стане паміж ёю і Краўчанкам, і хіба знойдзеш—вось так адразу—простае слова: гэта сын... Тася ўзіраецца ў трапяткую цемру, нібы ў ёй хоча знайсці падтрыманне сабе, сваім думам, але цемра—глыбокая, безуважная, і робіцца нават неяк страшна. Чый сын? А, уласна кажучы, хіба яна абавязана казаць яму гэта? Чаму гэтак хвалюецца яна? Мусіць, Краўчанкавы словы, як прыехаў ён да яе, столькі трывог прынеслі. А ён тады ўзяў яе за рукі, прыцягнуў да сябе і неяк дужа хораша і цёпла сказаў:

— Ну, цяпер мы будзем разам. Часта пра цябе думаў, слаўная ты. А вось, дзіўна, мы з табой сур'ёзна ніколі і не гаварылі... часу ўсё не было. Скажы ты... якая дзіўная маладосць у нас была...

І тады яна, адкідаючы ўсе трывожныя думкі свае, што ўраз наплылі, засмяялася грудным сваім смехам і пажартавала:

— Кажаш, была маладосць? Ай праўда—была, і лысіна ў цябе, і зубы пашчапаліся!..

— Ну, зубы, як каменныя, ты гэта дарэмна...—сціскае ёй рукі.

Тася ўзіраецца ў цемру, і ноч стаіць перад ёй—маўклівая, мажная, і ўсё прыкрывае гэтая магутная ноч—і шчасце, і трывогі, і радасць, і гора.

Расхрыстаныя рукі, перакрыўлены тонкі рот, пасінелыя вусны, бяссільны русявы кудзер на ілбе, заплюшчаныя, нібы ў чалавека, што толькі-толькі ўбачыў жахлівы ўяў, вочы з даўгімі чорнымі расніцамі,—гэта Станіслаў Юткевіч.

Яркая чырвань шчок, лёгкае пакратванне павек і вуснаў, правая рука пад галавой, спакой і—напэўна—прыемны сон,—гэта Краўчанка.

Стромкія вежы і выступы Крэмля, маўклівы сілуэт, нібы міфічная здань, помніка Мініну і Пажарскаму, матавыя адлюстроўкі ліхтароў у мокрым асфальце, зарыва ўскраін, мерны ход Спаскіх, рытм працы, адпачынку і свежасць, глыбокая і акрэсленая свежасць начы,—гэта Масква, гэта сон Масквы.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

Прачнуўся Юткевіч з трывогай: неяк сціснулася ў сне сэрца, здалося, што цела падае ў нейкае бяздонне, і ён праз сілу расплюшчыў вочы. Яны стрэліся з адлюстроўкам у люстраной шафе: быў страшэнна бледны твар яго і па гэтым твары можна было зразумець, якую цяжкую і трывожную ноч правёў ён.

Юткевіч усхапіўся і постаць ягоная хіснулася ў бок, і патрэбна было вялікае намаганне, каб устояць на нагах. Гадзіннік паказваў на палову другой. Сонца густа лілося праз вокны, радасцю напаўняючы пакой. Юткевіч прыслухаўся да цішыні, потым, асцярожна адчыніўшы дзверы, вышаў у суседні пакой і на стале ў ім знайшоў снеданне і ворах свежых газет. Эльгі не было. Юткевіч узяўся за ежу, але яго занудзіла. Ён пацягнуўся за газетай, але раптам паўстаў ва ўсёй істоце жах, і стогн вырваўся з грудзей. У думках мільганула здагадка: ці не позна! І, перамагаючы адчуванне жывёльнага гэтага жаху, ён захацеў зазірнуць у вочы бязлітаснасці, ён разгарнуў газету, прабег яе ад пачатку да канца і апрача крытычнай справаздачы аб учорашнім іхнім канцэрце нічога ў ёй не знашоў. Тое-ж было і ў іншых газетах. Тады жах зменшыўся, трывога паслабла і замест яе акрэслілася адчуванне тклівай зацікаўленасці, адчуванне надзеі — а можа пранясе? І чалавек у момант выклікаў у памяці ўсе найбольш цяжкія і вырашальныя выпадкі свайго жыцця, тое, як бег ён ад смерці і бег, фактычна, шмат разоў, смерць вось-вось мусіла ўзяць перамогу ў гэтым спаборніцтве, але ён абганяў яе, робячы нечалавечыя намаганні, строіў здзекі

над ёю... і, ацаніўшы ўсе гэтыя вырашальныя выпадкі свайго жыццёвага спаборніцтва, бачыў чалавек, што менавіта „праносіла“ яго. „Пранясе“ можа і на гэты раз. Але тут, ён гэта разумеў, іншая крышку сітуацыя: калі раней—у пераблытаныя дні грамадзянскай вайны—можна было спадзявацца на тое, што Краўчанка, прыкладам, нічога не зробіць, што можна будзе ад яго ўцячы, дык хіба цяпер утоішся, хіба цяпер уцячэш?

Нехта пазваніў, і металічны галасок званочка ля параднага ўваходу азваўся ў ягонай істоце болем. Ён прырос да месца, крывячы ад напружанасці твар. Пазванілі ўдругое. Тады ён, дрыжачы ўсім целам, нервовым крокам пабег у калідор. Эльга? —мільгалі ў галаве здагадкі, але лягчэй ад іх не было.

— Хто тут?

— Адчыніце, Станіслаў Паўлавіч.

Ён заспакоена ўздыхнуў і нават голасна засмяяўся. У дзверы ўлазіў маленечкі таўсты чалавечак у чорнай—безумоўна, даваеннага пакрою—крылатцы.

— Добры дзень, добры дзень! Чаго вы рагочаце, Станіслаў Паўлавіч?—бязбровы свой, нейкі бабскі твар узнімаў ён на Юткевіча.

— А нічога, Юліян Эдгардавіч. Як учуў ваш голас, прыгадаўся той анекдот пра Паганіні... помніце?

— У анекдоце ўдзельнічае чорт,—надзмуў таўстыя свае губы Юліян Эдгардавіч, здымаючы капялюш і любоўна кладучы яго на столік.—А я...

Юткевіч узяў старога за плечы і са смехам сказаў:

— Не супярэчце. Чорт быў менавіта ў гэткай крылатцы, як ваша.

Потым Юліян Эдгардавіч—вялікі тэатрал, знаўца і крытык балетнага мастацтва і музыкі—сядзеў перад Юткевічам і выкладаў сваё разуменне класічнага балета. У яго час-ад-часу бліскалі вочы, калі ён апавядаў пра выключную канструкцыю ножкі Кшэсінскай, і па кутках бяскроўных вуснаў паяўлялася, нібы накіп, сліна.

„Не, мусіць усё спакойна, мусіць Краўчанка не паспеў яшчэ“...—адрываліся акраўкі трывогі ў думках.—„Трэба Эльгі пачакаць, можа яна што-хаця прынясе з навін“... і, каб вызваліцца ад неадчэпных думак, артыст уголас пытаў:

— Чаму вы, Юліян Эдгардавіч, не прышлі да мяне ўчора, на канцэрце. Ваша ацэнка для мяне...

— Дзякую, дзякую, прыемныя рэчы вы гаворыце старому... —задаволена нахіляў галаву крытык.—У мяне нарадзілася ідэя, якую трэба было дэталёва абмеркаваць... От я і прышоў яе выкласці.

— Гэта стасуецца мяне?

Крытык, хітра ўсміхаючыся, пагражаў яму жоўтым сваім пальцам:

— Вас, мілы мой, вас! Ці не знаходзіце вы, што ваша артыстычная школа...

— Мая? У мяне яе няма!—шчыра перабіў актор.

Але той упарта доўжыў, не бяручы пад увагу рэплікі:

— ...ваша артыстычная школа ідзе ад Паўла Юткевіча, які выявіў сябе, як сапраўдны рускі, нацыянальны танцор. Нават у выкананні ім класічных партый...

— Дазвольце!—Юткевіч узняўся з месца, стрымліваючы сябе.—Ваша ідэя не мае падстаў. Я, праўда, ніколі не бачыў гэтага артыста,—бессаромна хлусіў ён і бледныя ягоныя шчокі ледзь-ледзь ружавелі,—але чуў пра яго, ведаю яго творчыя прынцыпы. У яго класічная школа, а я яе разбіваю...

Але тут не ўседзеў крытык і знаўца балетнага мастацтва і музыкі, ён усхапіўся з месца таксама і, даючы волю палемічнаму экстазу, запырскаў на Станіслава:

— Ну, баценька! Ваша сіла менавіта ў класічных эцюдах, а гэтыя імправізацыі—адна ідэалогія, даніна часу. У вас усё ад вялікага Юткевіча, і я аб гэтым буду гаварыць усюды, от убачыце.

— Юліян Эдгардавіч!—прыціснуў рукі да грудзей актор.— Вы памыляецеся... я хачу быць самастойным.. Прашу вас, як прыяцеля, не звязвайце майго імя з імем гэтага...

Стары грозна ўзняў руку і гневам бліснулі ягоныя вочы.

— Ну, каго, каго?—траха-што не крыкнуў ён.—Не палохайцеся, гэта вам не сапсуе кар'еры, а наадварот пільную цікавасць народзіць да вашага мастацтва з боку вашых ворагаў. Няма такога артыста, хто-б не паважаў імя нябожчыка Паўла Юткевіча.

— Нябожчыка?

І—дзіўная рэч!—з вачэй старога тэатрала закапалі слёзы і з горла вырваўся хрыпаваты цяжкі стогн. Няўпэўненымі рукамі ён разгарнуў перад акторам нямецкую газету, і ў ёй убачыў сын партрэт свайго бацькі, партрэт у чорных жалобных лінейках, вачыма схапіў кавалак тэксту: смерць, сумненняў не было. І тады, як прайшла здэтанаванасць, ён ціха сказаў:

— Ён пакінуў Расію... здрадзіў сваёй бацькаўшчыне...

І гэткім-жа затоеным шэптам, азіраючыся па баках, прашалясцеў адказ Юліяна Эдгардавіча:

— Не папікайце нябожчыка гэтым! Можа бацькаўшчына здрадзіла яму? Каб рабіць прысуд, гэта трэба ведаць.

Потым прышла Эльга Райх, прынесла з сабой заклапочанасць яркага асенняга дня, маладосць і бадзёрасць, і ёю перапоўніўся пакой. Юткевіча з нейкай нястрыманай сілай пацягнула да яе. І яна моўчкі прыняла праяўленне бурнага ягонага кахання, адчуваючы, што праз пакору прыдзе перамога.

— Стась. Я сустрэла Аляксеева... Ён зноў...

Ён зазірнуў ёй у вочы.

— Ты пра справы? Не трэба, Эльга. Я хачу адпачыць ад іх.

Але яна не здавалася:

— Ён зноў напомніў аб ранейшай прапанове...

Яна парыўчата прысунулася да яго і ціха-ціха загаварыла на вуха, абдаючы яго гарачым дыханнем:

— Ну, Стась, хоць раз у жыцці для мяне зрабі... Прымі прапанову... мы паедзем удваіх, мы будзем так працаваць. Я ведаю... ты... заўсёды затойваеш ад мяне твае справы, твае адчуванні. А хіба, Стась, з таго часу, як сустрэліся мы ў апошні раз, я не даравала табе ўсяго, не працягнула рукі на сяброўства? Не, не, ты маўчы! Я не хочу ведаць, што турбуе цябе... гэта твая справа... Але развеяць цяжкія думы трэба табе, памяркуй Стась.

Ён слухаў яе, схіліўшы галаву, і дрогкасць авалодвала целам і трэба было стрымоўваць сябе, каб хаця не праявіць пры ёй уступбаванасці. Але, нарэшце, не вытрымаў ён:

— Ты што-небудзь ведаеш, Эльга?

Яна здзіўлена зірнула яму ў вочы.

— Не!—адказваў позірк гэтых японскіх вачэй.

— Не ведаеш...—ён узняўся, і яна прыкмеціла, як ён пастарэў за гэтую апошнюю ноч.—Добра, я памяркую... Пайду лягу, галава нешта... цяжкая, цяжкая...

І праз тыдзень, даўшы ў сталіцы два канцэрты, акторы ў кампаніі з выдатным піяністам, адным з удзельнікаў сусветнага шапэнаўскага кангрэса, а таксама з элегантным канферанс'е, што нагадваў сваім выглядам комі-ваяжэра, выехалі ў замежнае турнэ. Як толькі маляўнічы негарэлаўскі вагзал праплыў перад вагоннымі вокнамі, крута змяніўся Юткевічаў настрой. Тут яму нічога не пагражала. І зноў, з новай сілай, па звярынаму захацелася ўпівацца нязведанымі чароўнасцямі жыцця, жыць на поўны разварот... з поўнага келіху піць жыццёвы бальзам.



А ў Маскве, у Замаскварэччы, у маленькай Тасінай кватэры, перажываліся цяжкія і трывожныя дні. Тася не з гэтага боку чакала ўдару, і праз сваю нечаканасць гэты ўдар ледзь не звааліў яе з ног. У той дзень яна рана прачнулася, прачнулася з аднэй толькі думкай: што будзе? Учорашняя размова з Барысам павінна была неяк скончыцца, яны павінны былі прыйсці да нейкага аднаго вырашэння. А галоўнае—гэтымі днямі павінен быў пераехаць з дачы ў Маскву дзіцячы сад, у якім быў яе сын, гэта значыць—трэба было проста сказаць Барысу Краўчанку, чый гэта сын? Мяркуючы гэтак, Тася прыслухоўвалася да цішыні ў суседнім пакоі, а потым—ціха адчыніла дзверы ў яго.

Краўчанка нерухома ляжаў на канапе і, мусіць, спаў. Яна падышла да яго, нахілілася над ім і раптам твар густой пакрыўся чырванню: ёй здалося, што Краўчанка не дыхае.

— Барыс!.. Борка!..

Краўчанка не кратаўся. Павекі ягоных вачэй з густымі чорнымі вейкамі былі апушчаны, а шырокія—слаўныя гэткія—вусны,

здавалася, набрынялі крывёю. Ён хворы? Ці можа так моцна спіць? Яна пачала тармашыць яго, паўтараючы спалоханым голасам:

— Барыс!.. Борка!.. Борынька!..

І вось ён ледзь-ледзь паварушыўся, дрогка крануліся цяжкія павекі і чырвоныя сухія вусны выціснулі стогн. Яна рэзка ўзнялася. Яна хвіліну стаяла пасярод пакоя, азіралася па баках згубленым позіркам і вочы натрапілі на Краўчанкавы боты: яны валяліся ля канапы і на адным з іх былі разасланы анучы, брудныя, у жоўтых плямах. Зашчымела самотай сэрца. Яна кінулася ў калідор, падбегла да тэлефона, і трубка дрыжэла ў яе руках.

Пакуль прыехаў доктар, яна хадзіла з пакою ў пакой, прыпынялася ля нерухомага Краўчанкі, успамінала, якім ён быў учора? Але гэта нічога не дало: учора Краўчанка быў, здаецца, звычайны, толькі вочы—яна гэта адзначыла ў памяці—паблісквалі затоенымі агеньчыкамі. Але-ж і прычына была для гэтага бляску: сустрэча з Юткевічам.

Пад упартым Тасіным позіркам дзіўнае нешта рабілася з Краўчанкам. Уся істота ягоная момантамі ажывала, на твары паяўляліся і знікалі грымасы болю, рукі камячылі коўдру, грудзі высока ўзнімаліся... а вочы, вочы былі закрыты ўвесь час.

Потым зноў апаноўвала яго страшэннае неўтрапенне, сілы пакідалі яго, нібы жыццё пакідала арганізм... Здавалася, што ён памірае. Калі прышоў доктар, Тася, ломячы пальцы, кінулася да яго. Другі раз яна бачыла гэтага чалавека ў зацятым змаганні са смерцю—і рабіла ўсё, усё, што толькі магла, каб выратаваць яго... дарагога, свайго, блізкага.

Пашлі дні, перапоўненыя трывогамі і надзеямі, адчаем і першымі няпэўнымі праблiскамі радасці, пашлі даўгія дні, калі ўспаміны перапляліся з рэчаіснасцю і з гэтага вырастала моцнае і чыстае ў сваёй выразнасці пачуццё да гэтага... як дзіцёнка, слабога цяпер... гэткага дарагога, да рэшты свайго чалавека.

Часам думала Тася так: можа і добра, што ён захварэў, можа сустрэчу з Юткевічам прыме за хворую трызню потым. Як-ні як, а шкада было Тасі Юткевіча,—ён-жа быў... бацькам яе сына! Вось менавіта гэта стрымлівала яе пачуццё, што, здавалася раптам, з гэткай усеўладнай сілай праявілася ў ёй да Краўчанкі Але... ёсць у кожнага чалавека ў большай ці меншай ступені гэткія думкі і пачуцці, што звязваюць яго са старым, якім ён жыве, бытуе ў гэтым мінулым і часам—у цяжкім, у прыкрым, але з гэтай прычыны больш цэпкім. Чалавеку хочацца вызваліцца ад гэтага мінулага, што калісьці было, можа, асноўнай мелодыяй ягонага жыцця, але што зрабілася—у сілу розных прычын—ненавісным, і бывае гэткі перыяд, калі толькі-толькі выракаешся гэтага прайшоўшага, бывае гэткі перыяд, калі не-не, а засмыліць сэрца па ім... што ты зробіш! І патрэбна чалавеку вялікая

сіла, і сіла духоўная, каб пачуццё, імя якому—нянавісць, выкрашталізаваць, зрабіць гострым, як голка.

Краўчанка пачаў дужэць. Спакой і Тасіна ўвага, усё тое, чаго не было ў Барысавым жыцці, моцны і плённы рабіла ўплыў на арганізм... ён быў малады, загартаваны і ў бойцы з хваробай узяў перамогу. І ў першыя-ж дні, як толькі ачуняў, ён патрабаваў нечакана рэзка і мужна, каб Тася знайшла Юткевічаў след.

— Цяпер ён не заміце яго. Гэта яму не былыя часы.

— Чаму гэта хвалюе цябе?—асцярожна пыталася Тася.—Вы-ж былі сябрамі...

Краўчанка хмурнеў.

— Я колькі разоў сустракаўся з ім,—строга казаў ён, і па схмурнелым ягоным твары блукалі цені.—Я мусіў яго прыстрэліць, як паршывага сабаку, а замест гэтага... замест гэтага я ратаваў сябе. І потым... потым ён колькі разоў выслізгваў, як яшчарка, з рук.

— Але-ж не ты дапамог уцячы яму ад расстрэлу? І потым... Барыс. Ён-жа выратаваў і цябе.

Краўчанка жорстка ўсміхнуўся, і ў гэтай жорсткасці была велізарная сіла яго, велізарная прыцягальная сіла.

— Гэта ўсё мінула, Тася. Засталася нянавісць. Ён вораг. Больш ці менш гуманны, але вораг. І цяпер ён не схаваецца ніколі.

Мусіць, пад шчаслівай зоркай, як кажуць, нарадзіўся Юткевіч. Вось-вось, здавалася, ён быў у Краўчанкавых руках, канец адчуваўся ўсёй істотай выразна, нібы намыленая вяроўка на шыі. Але таму, хто нарадзіўся ў кашулі, заўсёды шанцуе. Краўчанка зноў выпусціў яго з рук і выпусціў, напэўна, назаўсёды.

Як прынесла Тася вестку пра Юткевічаў ад'езд за мяжу, Краўчанка доўга хадзіў па пакоі, абмяркоўваючы нешта, маўчаў і толькі твар адлюстроўваў багацце адчуванняў, што валодалі ягонай істотай. Вораг зноў выслізнуў з рук. Яго трэба было ізаляваць, і ў першыя-ж дні пасля хваробы Краўчанка ўжыў усе захады, каб гэта зрабіць. Чалавек з зялёнымі нашыўкамі ўважліва праслухаў Краўчанкава апавяданне пра тое, як служыў Юткевіч ў Белоўскай арміі, пра тое, як уцёк ён ад узбунтаванага казацтва і як затаіў Краўчанка да пары, да часу сваю помсту. Толькі аднаго не выклаў Краўчанка: не прызнаўся ён перад уважлівым чалавекам з зялёнымі нашыўкамі ў тым, што выпадала палічыцца з Юткевічам шмат разоў, але ён гэтага не зрабіў. Гэта яго потым хвалявала, але даў ён сабе слова, што сваёю працаю рэабілітуе сябе, зробіць усё, каб змыць з сябе самога гэтую пляму. Так, для самога Краўчанкі патрэбна было змыць, рэабілітаваць сябе перад самім-жа сабой—інакш застанецца назаўсёды няўпэўненасць у сваіх сілах.

Гэтак скончылася сяброуства двух людзей—сяброуства незвычайнае і разам з тым банальнае для нашага часу, але гэтым не скончылася жыццё нашых герояў—і тут пачынаецца новая аповесць, аповесць пра яго.

●

У апошні раз прыходзіў канферанс'е, патрабаваў ягонага звароту ў СССР, кампаньён па турнэ, выдатны піяніст, напісаў рэзкі і катэгарычны ліст, даводзіў абсурднасць Юткевічавага ўчынку, але ўсё было дарэмна.

Ён адмовіўся ехаць у тую краіну, якая дала яму жыццё, дала яму славу. Адмовіўся, і яго пакінулі. Масты ў новы свет былі спалены.

Нямецкія газеты падхапілі гэты выпадак, стварылі наўкола Юткевіча сэнсацыю, кожны спектакль, у якім браў удзел актор,ператвараўся ў патрыятычную дэманстрацыю.

За акторам хадзіла чарада людзей, новых прыхільнікаў ягонага таленту, дзіўных, па праўдзе, людзей. Гэтыя людзі нагадвалі дробную рыбёшку, што жывіцца трупам.

І ліслівыя карэспандэнты пісалі. Актор—ён пастарэў, вочы страцілі бляск, валасы парадзелі, па кутках вуснаў лягла рыса надменнасці—актор гаварыў голасам прарока, а карэспандэнты запісвалі, запісвалі, запісвалі...

— Еўрапейскае мастацтва стаіць перад вялікімі часамі, калі заклікана яно стварыць нябачанае і непараўнальнае...

„Нябачанае, непараўнальнае"—эластычна паскрыпвалі стыло ў карэспандэнцкіх блок-нотах.

— Вялікае нямецкае мастацтва! У апошнія гады свайго жыцця мой бацька служыў яму... Бацькаўшчына Гётэ, Бэтховена, Вагнера стала маёю бацькаўшчынай. Мне здаецца, што я заўсёды быў немцам...

Эльга, седзячы ў шыкоўным крэсле, жмурылася ад патэтычнасці Юткевічавай прамовы, а жвавыя журналісты, на хвіліну адрываючыся ад работы, прагна ўпіваліся вачыма ў бюст актрысы, нядбайна прыкрыты тулевым халацікам.

— Вольнае ад тэндэнцый будзе новае мастацтва Еўропы. Яно будзе гэткае-ж новае, гэткае-ж юнае, як і яна...

І вось у дзверы поўз тоўсценькі, чырвоненькі, нібы перасьпелая вішня, віцэпрэзідэнт сталёвай кампаніі. З постаццю дабратлівай і дабрачыннай нямецкай фраў, з класічным тварам Зігфрыда, з узнятымі ў пачцівым экстазе пухкімі ручкамі—ён здаваўся ўцелясненнем нямецкай нацыі, што заклікана эпохай адрадзіць вялікае мастацтва Еўропы. Віцэпрэзідэнт нахіляўся над ручкай актрысы, прыслухоўваўся да афарызмаў Месіі новага мастацтва, касіў вочы на рэпарцёраў. І апошнія, без слоў разумеючы пана віцэпрэзідэнта, выходзілі з пакоя спіной да дзвярэй, беспярапынна кланяючыся пры гэтым.

— Вы—геній!—у захапленні казаў пан віцэпрэзідэнт.—У вас буйны талент, гэта бясспрэчна. Але...—Ён цнатліва, ні даць, ні ўзяць—выхаванка пансіона для дабрачынных фрэйлін, апускаў долу вочы.—Але для ажыццяўлення плана адраджэння вялікага мастацтва патрэбна звычайная, празаічная рэч. Патрэбны грошы, шаноўны пан.

— Вы іх дадзіце нам!—пяшчотным, райскім голасам увязвалася ў гаворку Эльга, робячы прыемную ўсмешку.

Пан віцэпрэзідэнт узнімаў свае бялявыя бровы ўгору, крывячы ў зморшчыны лоб.

— Вы ведаеце, шаноўная фраў і паважаны гэрр, што росквіт мастацтва можа быць толькі на аснове росквіту дзяржаўнага...

— У вас марксісцкія погляды!

— Так, я соцыял-дэмакрат. І як гэткі я мушу турбавацца пра аднаўленне эканамічнай магутнасці Нямеччыны... Я вам дам гэтыя грошы... не ўсе, праўда, але частку... А вы...

Ён бы быў не горшым прапаведнікам новага мастацтва. Трэба толькі ўслухацца ў стыль ягонае прамовы. У ёй—столькі крылатых афарызмаў, трапных параўнанняў, выдатных метафар, якім пазайздросціў-бы любы экспрэсіаніст. Трэба толькі прыглядзецца да мімікі ягонага багатага твару. Тут усё—і патэтыка перамогі, і журба часовых непрыемнасцей, і лёт у фантастычнае заўтра—у дыктатуру здаровага буржуа.

— Стась! Памяркуй, мілы, у якім адзенні я паеду на баль артыстаў, што ладзіцца ў наш гонар! Мне патрэбна гэткае адзенне, бог мой!—з адчаем у голасе кажа пасля віцэпрэзідэнтавай прамовы рыжавалосая Эльга.

Грошы—у Юткевічавых руках.

А ў віцэпрэзідэнтавай галаве:

„Ён выступіць на перадвыбарчых сходах... гэта будзе здорава і нечакана для гэтага балбеса... так... нават арыгінальна... за поспех можна заплаціць... можна заплаціць яшчэ пяцьсот... цудоўная рэклама з яе фото... на поўны рост... у трыко... ах, якія грудзі... у руках голка і чырвоны надпіс накаса: Купляйце голкі і іншыя рэчы толькі са сталі нашай кампаніі"...

Дарэчы, ёй гэта падабалася. З выключнай сілай і яркасцю выявіліся ў ёй усе жаночыя якасці: ёй хацелася быць папулярнай, ёй хацелася весялосці, лісліваых паклонаў і прагных мужчынскіх позіркаў. У намаганнях быць у асяродку ўвагі людской, яна ўсё больш і больш аддалялася ад Станіслава, шырака адкрываючы дзверы сваёй утульнай гасцінай для прыхільнікаў яе таленту і бюста... Яна, як энергічная жанчына, жыла на поўны разварот, жыла для сябе.

Часам не пазнаваў яе Юткевіч. Усё часцей і часцей выклікаў ён з глыбіні памяці вобраз казачнай князёўны, якой паўстала яна перад ім у тыя—здаецца, гэткія далёкія—дні юнацтва.

Відаць было, што ў яго прысутнасці яна ўсё часцей і часцей аддаецца ва ўладу нейкай, незразумелай яму, тугі. Падабраўшы

пад сябе ногі, напоўпрыжмурыўшы вузкія свае—японскія—вочы, яна меланхалічна хісталася і спявала:

В далекой знойной Аргентине,
Где небо южное так сине,
Где женщины как на картине,
Где Джо влюбился в Клё...

... І чамусьці замест далёкай экзатычнай Аргентыны паўставала перад ім сіняе, як калісьці ў дзяцінстве, неба, маўклівыя вербы над возерам, адлюстровак месяца на вадзяной гладзі... перад ягонымі вачыма—авохці!—стаяла пакінутая ім бацькаўшчына.

— Ты... пра што, Эльга?

Але яна ўжо зрывалася з месца і праз смех, абвіваючы ягоную шыю рукамі, казала:

— Не, табе заставацца са мной нельга, лірычны настрой апаноўвае... І які ты нецікавы робішся, зусім не той, калі гаворыш пра новае мастацтва Нямеччыны.

Ён крывіў рот.

— Гэта для журналістаў, Эльга.

Яна бегла ад яго: да спектакля ёй трэба было з'ездзіць да мадысткі, прыняць моднага тэатральнага крытыка, дамовіцца аб паездцы за горад у кампаніі маладых мастакоў...

Яна хутчэй за яго ўспрыняла густы нямецкай публікі і ахвотна згадзілася танцаваць у вар'етэ: у гэты сезон, як і ў наступныя, тэатры пусцелі.

І тут пачыналася асноўнае разыходжанне Юткевіча з партнёркай. Ён няўпэўнена, але ўсё больш сур'ёзна думаў пра нейкі вялікі тэатр, пра сваю студыю, дзе дзесяткі ладных і прыгожых юнакоў будуць—як адзін—вывучаць тонкасці класічнага балета, каб разбураць яго, як гэтага хоча ён, Станіслаў Даленга. У яе раптам абудзілася вялікая прага да грошай, ёй патрэбны былі шум, бляск, рух.

Мусіць, у гэты час, калі наспяваў паміж іх канфлікт, адбылося тое, што канчаткова згубіла Юткевіча.

У той дзень ранне выдалася хмурае. У калідоры ўзніклі крокі, яны аддаляліся, мякчэлі, потым сціхлі зусім. Гэта пасівелы прафесар музыкі, узяўшы сваю скрыпку (гэткага ж веку, як і ён), пашоў „зарабляць". Пра тое, што заслужоны і вядомы гэты прафесар грае на Гартэнштрасэ шубертаўскія „Музычныя моманты", каб зарабіць сабе пару марак на галодны скупы полудзень, даведаўся Юткевіч толькі ўчора. І гул прафесаравых крокаў балюча азваўся ў ягонай істоце. Пад гул прафесаравых крокаў ён уявіў сваю будучыню, сваю старасць, і яму зрабілася цяжка і трывожна. Ён усхапіўся з месца, апрануўся і выбег на вуліцу.

Упарты і назалівы падаў дождж. Густы золкі туман агортваў усё навокал актора. Пад нагамі расцілаўся слізкі асфальт. Нудна і турботна было пад небам.

На рагу вуліцы дарогу перарэзаў натоўп. У вушы ўдарыў прыўзняты гоман, вочы ўгледзелі ўсхваляваныя аблічча. Недзе—за натоўпам—рэзка і патрабавальна зайграла труба і ўслед за трывожным стогнам яе—дробам рассыпаўся барабанны пошчак. Нешта незвычайнае рабілася на вуліцы.

Актор праціскаўся праз натоўп, і перад ім паўсталі шэрагі дэманстрантаў. Пад дажджом, у золкім тумане—яны плылі аднароднай маналітнай лявінай, білі барабаны барацьбу, мерна і, здавалася, непарушна развіваліся над шэрагамі барвянцовыя палотнішчы. Па абодвы бакі вуліцы—на тратуары—стаялі людзі, дзеці беглі перад аркестрам. Усё было спынена рухам дэманстрантаў—трамваі, аўтобусы, таксі.

Але ўраз—нібы па нейчай камандзе—людзі на тратуарах павярнулі галовы ў той бок вуліцы, адкуль пачаў нарастаць прыхлуплены гул і лязгат. Актор зірнуў у гэтым напрамку, і кроў штыршкамі прыліла да твару.

— Далоў вайну!

— Хлеба і работы!

На мыліцах, на самаробных і фабрычных катках, бязрукія, бязногія, абрубкі чалавечых целаў—вуліца была магільнікам жывых мерцвякоў. Актораву ўвагу прыкаваў чалавечы абрубак без рук і ног. Нібы новароджанага, яго везлі ў калысцы на драўляных колах. На грудзях у яго быў пачэплены плакат: „Я супроць новай вайны". Смешнай і разам з тым жахлівай ironiяй гучэў плакат.

— Ветэраны вайны... —даляцелі да актора словы, і ён павярнуўся на іх.

Гэта казаў бледны няголены чалавек у пашарпаным дэмісезоне і старым—у плямы—капялюшы. Вочы чалавека прагна сачылі за дэманстрацыяй. Вочы гарэлі нейкім халодным агнём, а худы, абцягнуты сухой сіняй скурай, нос выдаваў усё: чалавек быў хворы на сухоты.

— А ім усё-ж пенсію... плацяць...—неяк зусім ціха, мусіць, сам да сябе, дадаў чалавек.

Загула сірэна, і паўз актора праімчаўся грузавік, напоўнены шуцманамі. Грузавік паімчаў у голаў калоны, і шэрагі дэманстрантаў раптам сталі. Мусіць адбывалася нейкае перамаўленне. Але вось шэрагі разгладзіліся, аднекуль раптам з'явіліся паліцыянты, узняўся крык і нехта кінуў камень у велізарную люстраную вітрыну.

— Правакацыя!—пад самым акторавым вухам прабасіў рыжавалосы хлопец.

Зноў паказаўся паліцэйскі грузавік. Нейкі чалавек, стоячы на ім, размахнуўся і кінуў нешта падобнае да бляшанай бутэлькі на панель. Грымнуў выбух, і густы дым узнік над вуліцай. Натоўп раздаўся. Усё прышло ў рух. Юткевіча панесла людскою стромай і ўціснула ў нейкія нізенькія брудныя дзверы, якія са звягатам захлопнуліся за ім.

— Не пускайце больш!—крычалі да яго людзі.—Трымайце дзверы мацней.

З усёй сілай наваліўся Юткевіч на дзверы. Перад вачыма—за шклом—раптам узнік чалавек. Ён бег, заціснуўшы адной рукою рот, у другой ён трымаў фанерны плакат. Чалавек мятнуўся ў дзверы, тузануў іх, але яны не паддаваліся. Тады чалавек выбег на сярэдзіну вуліцы, закруціўся на адным месцы і раптам грузка асеў на каменне. З галавы тонкім ручаёчкам пабегла кроў. Павольная,—эластычная ў сваім праяўленні—сударга прайшла па ягоным целе, і чалавек распластаўся на каменні, адкінуўшы руку з плакатам у бок. Апошняе, што паспеў убачыць Юткевіч, быў надпіс на плакаце: „На абарону бацькаўшчыны пролетарыяў“...

...Тымі днямі ўзніклі барыкады ў Вормсе, паўстаў крэйсер „Эмдэн“ і на берлінскія вуліцы ўступіла цяжкаю сваёю хадой Крывавая Нядзеля...

...Як у сне праходзілі дні. У вачах стаяў чалавек з адкінутай рукой. І тэкст плаката.. запырсканы брудам. І тонкі ручаёк крыві... Нешта неакрэсленае, але ўладнае і магутнае паўставала ў Юткевічавай істоце. Ён рабіў гэткія справы, з якімі ніяк не магла пагадзіцца практычная Эльга. Да яго прышоў нейкі рускі поп-эмігрант, доўга апавядаў пра тое, як жывуць „землякі“ тут, у Нямеччыне, як арганізавалі яны саюз аднаўлення Русі, запрашаў прыехаць на імшу ў рускую царкву і, нарэшце, папрасіў грошай.

— Вялікая бацькаўшчына не забудзе...

Як не спрачалася Эльга, Юткевіч грошы даў, нават абяцаў яшчэ. А ў той-жа вечар прыняў у сябе дырэктара буйнага вар'етэ, у якім раней танцаваць адмаўляўся. Эльга краем вуха чула, як задаволены дырэктар, пачціва схіляючыся перад актарам, паэтычна распісваў перад ім тэкст афіш, а актор патрабаваў, каб былі зніжаны цэны на білеты і каб „сярэдні гаражанін“ мог трапіць на ягоны канцэрт. „Што ён задумаў?“—блыталася ва ўласных меркаваннях Эльга.—„Навошта зніжаць расцэнкі? Што за фантазія.“

— Што мы будзем танцаваць?—нарэшце не вытрымала яна.

Не спыняючы гаворкі з дырэктарам, Юткевіч абыякава кінуў у адказ:

— Танцаваць буду я. Можаш не рыхтавацца. А сама лепшае—танцуй у гэты вечар у іншым тэатры...

Яна густа пачырванела, а дырэктар, затойваючы ўсмешку, скромна апусціў вочы долу.

І вось надышоў дзень канцэрта.

Актор некуды знік з самай раніцы. Эльга, да крыві кусаючы пальцы, хадзіла з пакоя ў пакой, дакараючы сябе за тое, што сама вінавата ва ўсёй гэтай гісторыі. Рой пытанняў паўставаў перад ёю. Ну, хіба не яна вінавата ў тым, што ён адмаўляецца ад яе? Хіба не знаходзіла раней яна агульнае мовы з ім? Але

тут яна прыходзіла да выніку, што разлюбіла яго, што ён—нячулы, бяздушны, нейкі драўляны... і, нарэшце, ён абразіў яе, абразіў яе, жанчыну.

Увечары яна, нібы цень, прашмыгнула ў артыстычную ложу, забілася ў кут, каб не ўбачылі яе з залы. Прыслухоўвалася да трывожнага стукату сэрца і анямелая—чакала на відовішча.

Першы раз яна не танцуе з ім!

Як гэта расцэняць газеты? Што будуць гаварыць пра гэта актөры? Як яна... яна паедзе на баль у іхны гонар?

Цішыня. Зараз успыхнуць юпітэры, і ціхія мендэльсонаўскія напевы перапоўняць тэатр. Ён выйдзе ў светла-блакітным трыко з белай павязкай на галаве... яго стрэнуць воплескамі.

І раптам—страшэнны ўдар барабана. Яна ўздрыганула. Ля рампы—нейкі чалавек. Гэта канферанс'е? Не можа быць! Яна паддалася да чалавека ўсёй істотай. Нейкае клоунскае адзенне на ім. І вось ён крывіць рот і хрыпаватым голасам, неяк рэзка і насмешліва кідае ў залу:

— Класічны балет!—з нейкім разбегам на „эс“.—Выконвае ваш улюбёны Даленга.

І ярка-чырвонае святло залівае сцэну. І нейкую дзікую гучную і грубую рэч грае аркестр. Ды не грае, а грыміць, тарарахкае... І ў роіле крывавага святла, у роіле грымот узнікае на сцэне абарванец. Ён, апусціўшы ўскудлачаную галаву, аблепленую брудам, стаіць нерухома з выразам болю і пакут на твары.

Эльга зубамі сціскае губу, каб толькі не крыкнуць у адчаі. Канец! Канец!—мільгае ў яе думках.

Свістам, лаянкай, рогатам, абразай адказвае зала на дзёрзкасць актораву. Чутно, як людзі пакідаюць залу, як хвалююцца распарадчык і швейцары. Раптам гром воплескаў паўстае над сумятнёй, тупатам сотняў ног і крыкамі захаплення грыміць тэатр. Эльга падбягае да бар'ера ложы і бачыць, як сыпануў у залу народ. Гэта з трэцяга, чацвёртага, пятага ярусаў, з галярэі хлынуў ён у партэр і раз'юшанай стромай рынуўся да рампы. Народ вітае актора. І над гэтым разгулістым буйствам натоўпу актор танцуе свае імправізацыі... як бог, як уладар, як правадыр.

Над ёй нахіляецца ўстурбаваны дырэктар, зубы калоцяцца аб шклянку, і яна непрытомнее.

●

Нашто мог ён разлічваць?

Гэта не быў пратэст, бо пратэставаць развучыўся ён даўно, ды, уласна кажучы, хутчэй усе навакольныя пратэставалі, а ён—або далучаўся да іх, або адыходзіў у бок. Калі і быў гэты факт пратэстам, дык цяжка паверыць у ягоную ідэёвасць, бо чалавек, што пратэст учыняў, агітаваў на выбарах за партыю віцэпрэзідэнта сталёвай кампаніі, даваў грошы, атрыманыя ад віцэпрэзідэнта, рускаму папу, грошы для землякоў-эмігрантаў.

Праўда, у яго не было мужнасці адмовіцца ад іх, бо быў ён сам без бацькаўшчыны, бо бег ён, як і яны, ад гэтай бацькаўшчыны—у змрок, у бездараж, у твань. Здавалася, ён пратэставаў супроць сябе самога.

Клас, выкрасліўшы яго са спісаў сваіх прыслужнікаў, не мог дараваць яму гэтай выразнай дэманстрацыі супраць яго, як-ні-як. Але і другі клас, дыяметральна супроцьлеглы першаму, не мог прыняць яго ў свае шэрагі, бо факты сведчылі пра тое, што ён не з ім, не ведае дарогі да яго і шукаць яе не хоча.

Пераводзячы гэта ўсё ў роўніцу асабістых адчуванняў і меркаванняў Эльгі, трэба сказаць, што яна тлумачыла ягоны ўчынак, як сапраўдную хваробу, як вар'яцтва, хваробу невылечную. І Эльга паспяшалася адыйсці ад яго, паспяшалася ізалявацца ад выразна пагібельнай гэтай хваробы.

Ён апынуўся самотны—і ў асабістым, і ў соцыяльным сэнсе. Стоячы паміж двума велізарнымі грознымі істотамі, што вось-вось наважваліся кінуцца адна на адну, ён быў мізэрнай перашкодай, якую можна знішчыць не дужа важкім—адным—ударам, ён быў ілюзіяй.

І тут, у першы раз за ўсё блытанае і супярэчлівае сваё жыццё, ён выразна адчуў, выразна зразумеў асуджанасць. Ён спалохаўся, ён кінуўся шукаць выйсця з бяздоння, у якое трапіць мусіў, але, не знайшоўшы адразу гэтага выйсця, у яго не хапіла ні сіл, ні мужнасці ўпарта шукаць яго...

Вузкі свет ягонага бытавання зрабіўся яшчэ вузейшым. Дарога да славы прывяла на край кручы, таму што сама слава для людзей з вузкім светам, для людзей, што не звязаны ланцужком з велізарным механізмам чалавечай гісторыі,—толькі фікцыя.

Распад матэрыі адбываецца часта і ў жывым вонкава арганізме. Чалавек можа памерці і разам з тым жыць—гэта значыць, есці, пладзіцца, адпраўляць усе фізіялагічныя функцыі. Соцыяльна—ён труп, біялагічна—ён жывы. Прыблізна так сталася са Станіславам Юткевічам.

І тут ён успомніў на Маслоўскага, на жахлівую гэтую чалавечую маску, на цынічны ашчэр пашчапаных ягоных зубоў... успомніў... і нават агіды не адчуў, як даўней. У ім абудзілася туга па Маслоўскаму, туга па ягонаму цынічнаму скептыцызму.

Ён—у адчаі, у роспачы, у атупенні—іррвануўся ў начны свет. Самыя прыгожыя прастытуткі наперабой шчодра аддавалі яму свае пяшчоты, выдатныя злодзеі пасябравалі з ім, валацугі ўсіх катэгорый і рангаў лічылі за гонар выпіць з ім кварту піва. Тут пачалася новая палоса ягонага жыцця.

Аднойчы, седзячы ў бруднай і чаднай карчомцы, якую наведвалі толькі „свае“, цэдзячы праз зубы густое і горкае піва, Юткевіч угледзеў новага наведвальніка. Той, увайшоўшы, прыпыніўся ля парога, нібы гэтым самым хацеў, каб усе прысутныя звярнулі на яго ўвагу. Яго ўбачылі і ўраз захва-

ляваліся, замітусіліся, загармідарылі. Гаспадар падбег з кубкам віна, высакапарна вітаючы, прастытуткі, злодзеі, блат начны— усе віншавалі яго. Незнаёмы павольна ішоў праз пакой, сурова азіраючыся па баках. Ён ішоў, як бог. Усе, стоячы, сустракалі яго. Малінавы шаль, нібы полымя, агортваў шыю чалавека. Тонкія, нібы жаночыя рукі, паблісквалі золатам пярсцёнкаў. Барвянцовая бярэтка какетоўна была ссунута на вуха, стрымліваючы бурнае чорнае валоссе. Шырокі шыкоўны плашч, нібы віхор, імчаўся за чалавекам. Артыстава вока ўраз ацаніла гэтую нязвычную постаць. Усе, стоячы, віталі яго. Але Юткевіч, зачараваны відовішчам, не кратаўся з месца, утаропіўшы вочы ў незнаёмца.

Той, нібы адчуваючы на сабе гэты позірк, павольна павярнуўся да яго. Глыбокія разумныя вочы, здавалася, застылі. Гэтак глядзіць кот у цемры на сваю ахвяру.

— Хто гэта?

Гаспадар карчомкі, пачціва згінаючы спіну, хуценька-хуценька заспяшаўся:

— Гэта... свой... прыяцель... шчыры чалавек...

— Ідзі,—адмахнуўся незнаёмец.

Гаспадар адбег і застыў усё ў той-жа пачцівай позе, каб у любую хвіліну кінуцца, нібы сабака на голас паляўнічага, прыслугоўваць незнаёмцу. А ён падышоў—праднамерана павольна—да стала, за якім сядзеў Юткевіч, апусціўся на крэсла і сказаў:

— Мы незнаёмыя. Новы чалавек для мяне—знаходка. Бачу, ты не маёй прафесіі, чужак ты. Ты журналіст?

Юткевіч коратка адказаў: не. Тады чалавек доўжыў;

— Кажаш не? Не думаю, каб ты быў агентам паліцыі. Дык хто-ж ты?

Сур'ёзныя чорныя вочы чалавека проста глядзелі ў яго і— дзіўная рэч!—іхны позірк абяцаў прыязнь і таварышаванне. Юткевіч ведаў, што людзі ў гэтым „падпольным“ свеце гавораць у адкрытую, ён за кароткі час пошукаў пристання для збалелай і струджанай сваёй душы паспеў убачыць, што ўсё ў людзей гэтых—на вачах усяго „саслоўя“, нават каханне, нават адносіны строга інтымнага характару. Урачыстасць з'яўлення гэтага чалавека, ягоныя адносіны да гаспадара карчомкі, нарэшце, ягонае эксцэнтрычнае, але шыкоўнае адзенне,—усё гэта ацаніўшы, Юткевіч зразумеў, што перад ім буйны прадстаўнік „сярэдняга саслоўя“, кароль злодзеяў. З першых-жа дзён свайго знаёмства з блатам яго зацікавілі рангі і важкасць таго ці іншага прадстаўніка „чыстай“ прафесіі. Яны называлі сябе „вольнымі“ мастакамі сярэдняга „саслоўя“, але і сярод гэтых „вольных“ была свая адмысловая соцыяльная іерархія, былі свае каралі, магнаты, начальнікі і падначаленыя. Гэты свет быў копіяй звычайнага свету дыпламатыі, лоўкасці і эксплаатацыі, улады магутнага над слабым, багатага над бяднейшым. Гэта была цэлая армія,

сапраўдная дзяржава ў дзяржаве, і закон, змагаючыся з ёю, умацоўваў яе. Быць можа, калі-б прышоў сюды Месія і сказаў-бы гэтым людзям:

— Закон добрабыту супраць вас, бо тыя, хто гэты закон учыніў, добрабыт не аддасьць без бою. Іх не шмат, праўда, але яны покуль што моцныя, ля буйнага драпежніка жывяцца більёны дробненькіх істот. Але—спіце ўначы, прамяняйце яе на дзень і ідзіце да тых, хто ведае, як вырваць добрабыт з рук нешматлікай купкі буйных драпежнікаў. Будзьце шчырымі змагарамі. Змагайцеся, а не скарайцеся. Бярыце адолю сваю боем, змагайцеся супраць ладу, а не супраць асобных людзей, мізэрных—па сутнасці. Будзьце людзьмі.

— Калі-б сказаў гэты Месія так, дык, бадай, мала хто паслухаў-бы яго, бо не было ў гэтых людзей гэткай социяльнай сцежкі, на якой сустракаліся-б яны разам. Тут не было-ж лозунга „дзейнічаць разам, адзін за ўсіх і ўсе за аднаго", наадварот, сьвяшчэннымі запаветамі іхняй рэлігіі было: вазьмі сваю недатыкальнасць і незалежнасць праз прымус і лоўкасць, зрабі так, каб таварышы па рамяству баяліся і паважалі цябе.

Юткевіч ведаў гэтыя запаветы, ведаў моцных людзей блатнога свету, і, убачыўшы гэтага чалавека, ён зразумеў, што перад ім кароль, лоўкі з лоўкіх, услаўлены сярод услаўленых, і ён, не затойваючы нічога, сцісла паведаў яму сумную аповесць свайго існавання. Кароль слухаў уважліва, і недапіты кубак стаяў перад ім. У кубку—гэта бачыў Юткевіч—плаваў рознакаляровы і размаіты адлюстровак карчмы.

— Так,—сказаў кароль.—А за што ты жывеш?—І, убачыўшы здзіўленне ў Юткевічавых вачах, растлумачыў—проста і строга:— Я пытаюся пра грошы. Каб жыць, патрэбны грошы.

Юткевіч, густа чырванеючы чамусьці, сказаў, што ён толькі нядаўна кінуў сваё рамяство, што колькі зробленых грошай яшчэ засталося.

— Яны скончацца скора,—са свістам выдыхнуў кароль.— І што тады? Пойдзеш у чаргі па міску крупніку?

І, не чакаючы адказу, ён падсунуў напоўнены кубак да яго і сказаў:

— Табе ў работу трэба... Ёсць добрая справа. От глядзеў я,—ён павярнуўся ўсім корпусам да залы,—на гэтых маіх знаёмых і не выбраў ніводнага вартага гэтай справы. Калі згодзен— вось рука Карла Гардона.—Ён працягнуў вузкую белую сваю руку, ткліва ўзіраючыся ў Юткевічавы вочы.

Нельга было схавацца ад гэтага ўпартага і валадарнага позірка. Нейкая выключная сіла была ў ім. І, хмялеючы, Юткевіч сціснуў Гардонаву руку, і сэрца соладка засмылела.

Наступнай ноччу была гэтая „работа".

— Самае лепшае адзенне, прыстойны выгляд і вясёлы выраз на твары—вось што патрабуецца ад цябе,—сказаў Гардон.

Вясёлы выгляд у Юткевіча быў і без гэтага: вясёлая абыякавасць і юнацкая разгулістасць агарнулі яго. Уласна кажучы, ён рабіў „справу“, нібы прапрацоўваў асабліва складаную кампазіцыю: творчая сіла і фантазія былі ў актора. У нейкім творчым экстазе ён ішоў па вечаровай вуліцы, насвістваючы арыю з моднай аперэткі. Пад матавым круглым ліхтаром ён сустрэў высокага чалавека ў шыкоўным паліто і фетравым капялюшы.

— Добры вечар! Мне сумна, Ганс, пойдзем да дзяўчатак.

— Ёсць, Ферд!—адказаў весела Юткевіч.

Яны, як запраўскія гулякі, вядучы бойкую гаворку,—„ах, якія гэта былі плечы!“—вясёлымі крокамі мералі панель.

Памінуўшы колькі вулічных перакрыжаванняў, гульцы-сябры спыніліся перад люстраным пад'ездам велізарнай шэрай камяніцы.

Чалавек у фетравым капялюшы паміж смехам і жартамі кінуў:

— Стойце тут. Калі выйдзе з дзвярэй чалавек і дасць вам сакваяж, ідзіце ўздоўж вуліцы. Ну, усё!—і ён знік за дзвярыма.

І тут згінула весялосць, і толькі цяпер ён убачыў, які туман стаіць над камяніцамі, толькі цяпер адчуў усім целам сцюжу, не стрымаўся—звягнулі зубы. Глыбока ўсунуў рукі ў кішэню, пашоў па тратуары ненатуральна вясёлым крокам. „Што з табой Стась?“—сам у сябе пытаўся, палохаючыся запытання.—„Што з табой, сталася? Ты—злодзей?“

Але запытанне засталося запытаннем, адказ апазніўся: з туману вырас перад ім шуцман, і Юткевічу на момант здалося, што шуцманава постаць захінула сабою ўвесь свет.

— Ідзіце за мной.

Напружыўшы ўсе сілы, Юткевіч мятнуўся на сярэдзіну вуліцы і пабег...

...і засвістала ў вушшу, заграмыхаў брук, замільгалі ліхтары, твары, грымасы, нешта нарадзілася ў сярэдзіне, лёгкае, магутнае, імклівае — і яно штурхала наперад...

...і ў безе здавалася яму: ён адзін, усё апусцела, усё на момант прыстыла на адным месцы — і аўто, і людзі, і ландо, і рузны россып агнёў рэкламы...

...і потым нешта цяжкое абвалілася на яго, цела перапоўнілася гудам, здалося, што гіне сусвет і чамусьці мільгнуў у памяці Крушняярск.

Як вярнулася памяць — быў дзень. Скупое сонца прабівалася праз мокрае вузенькае акенца, кроплі на шкле ззялі дыяментамі, а на бруднай цэментовай падлозе быў сонечны чатырохкутнік.

Юткевіч, нібы што спалохала яго, усхапіўся з канапы.

Не, гэта нешта іншае. Тады... тады былі велізарныя вокны гатычнага рысунку, канапа была мяккая і шынель... шынель з блакітнымі нашыўкамі ўтульна валяўся на падлозе.

Звякнулі ключы. Ідуць... сюды ідуць! Зараз прыдзе ветлівы і элегантны ад'ютант генерала Белова, падніме з падлогі шынель і пакладзе яго на спінку крэсла... Грукат цяжкіх ботаў, і істота на сажань ростам, з таўстымі мясістымі, нібы філей, шчокамі, набліжаецца да яго.

— Рукі!

Яны дрыжаць у Юткевіча, і трэба чорт ведае колькі сілы, каб працягнуць іх. Глуха шчоўкае механічны замок наручнікаў.

— За мной!

Ён, трымаючы перад сабой рукі, п'янымі крокамі ідзе за ім, ідзе і адчувае, што па пятах сунуцца ўзброеныя шуцманы. Яны ідуць даўгім цёмным калідорам, і з кругленькіх дзірачак у безлічы дзвярэй іх праводзяць вочы—адны толькі вочы.

Астрог!

Яны накаса праходзяць закуты ў каменне і жалеза двор. Нехта з гары, з эннага паверха, крычыць, але слоў на адлегласці не чуваць: здаецца, што чалавек раве... жудасна, нібы вар'ят.

Папяросны дым развейваецца, і вастраносы твар следчага манатонна ківаецца ўніз, угору, уніз, угору.

— Я нічога не ведаю... я артыст... вы мяне ведаеце... я проста гуляў... я ахвяра выпадковасці...

— Вы нічога не ведаеце, а мы ведаем. Гэта пагражае вам...

Следчы, крывячы ўсмешкай вузкі рот, даводзіць да ведама арыштаванага, што банк абрабаваны, што злачынцы забілі клерка і намесніка дырэктара, які выпадкова, зусім выпадкова быў у банку. І, нарэшце, следчы кладзе перад Юткевічам малінавы шарф і пытаецца—з нейкай таямнічасцю ў голасе:

— А гэта... гэта вам прыходзілася бачыць?

Потым мякка і неяк нечакана цёпла, не дачакаўшыся адказу, гаворыць:

— Я веру вам, што гэта ўсё выпадковасць... вы інтэлігентны чалавек, чалавек мастацтва. Ах, я вам прышлю ў камеру Тэна. Цудоўная кніга! Вы чыталі? Ну, тады мы знойдзем што-небудзь іншае... Я дапускаю, што ў вас магла быць прафесійная зацікаўленасць да свету злачынцаў, праўда? Бачыце, я не памыляюся, але-ж вы цывілізаваны чалавек, і падумайце, што вам пагражае... цывілізаваны еўрапеец... чалавек мастацтва... вас чакае ганьба, публічны скандал, пажыццёвая катарга. Падумайце.

І, ашчарэпіўшы рукамі галаву, немігаючымі вачыма ўтаропіўся Юткевіч у пасмы папяроснага дыму, за якімі быў цёплы, ветлівы следчы. Ён доўга не адрываў вачэй ад дыму, нібы ён ткаў перад ім жахлівы малюнак пажыццёвай катаргі... а можа гэта і лепш?— не! не!—жыць! жыць!—Ён паедзе ў ціхі нямецкі гарадок, гарадок з дабратлівым, нібы Зігфрыд, паліцыянтам на рынкавым пляцы, з чысценькай утульнай кірхай, з вясёлай і прыемнай моладдзю на вечаровай Кірхенштрасэ... ах, які прыемны і ўтульны гэты нямецкі гарадок! Там ён будзе скромным непрыкметным настаўнікам гімнастыкі, будзе піць піва і крычаць „гох!“ у гонар чар-

говай галавы ўраду ў кампаніі сваіх калег. Гэта будзе ціхая, прыемная, ідылічная бацькаўшчына ягонай душы... струджанай, збалелай, знясіленай... гэта будзе спакойнае чаканне старасці, якая сцішае, загойвае ўсе жыццёвыя раны... ах, якая гэта філасафічная, мудрая будзе старасць! І яна... яна, адзіны чалавек, з якім ён правёў лепшыя часы свайго жыцця, яна, Эльга, забудзецца на ўсё... старэнькая, пасівелая, зморaная і целам, і душой прыдзе да яго... не! не!—жыць! жыць!—Ён не зломак, не злодзей, ён чалавек, ён хацеў быць ім усё жыццё... дайце быць яму чалавекам! ча-ла-ве-кам!..

Ён уздрыгануў. Бледны ягоны твар заліўся чырванню. Нервова заблішчалі вочы. Ён хапаецца за руку следчага і крычыць:

— Карл Гардон! Кароль злодзеяў. Ён мне прапанаваў быць кампаньёнам. Ён прымусіў мяне ім быць. У яго вочы... Ах, каб вы бачылі ягоныя вочы!

— Гэта яго шарф?

Пасыпаліся пытанні, рука ліхаманкава запісвала прозвішчы, адрасы, назвы кафэ, а на твары гайсала злая ўрачыстая ўсмешка драпежніка...

— ...Я вам прышлю ў камеру Тэна!..

●

Яго не чапалі колькі дзён. Толькі зрэдку заходзіў у камеру следчы, падбадзёрваў, таемна падміргваў і туманна казаў пры гэтым, што „ўсё скора скончыцца“, што „канцы ў нашых руках“. Нельга сказаць, што было дужа цяжка пераносіць самоту. Дзень, другі, трэці, і ён цярпліва чакаў вызвалення, верыў у яго. Калі надакучвала чытаць, ён сядзеў і думаў пра будучае. І аднойчы яму прышло на розум напісаць „споведзь“, напісаць ліст да Эльгі. Ён з запалам узяўся за работу. Уласна кажучы, гэта ўсё ён пісаў для сябе, для свайго заспакаення. Пісаннем споведзі ён быў заняты шмат дзён. Ён акуратна прыкладаў аркушык да аркушыка, але неяк іх згарнуў з крэсла, і яны рассыпаліся па падлозе. Ён быў настолькі захоплены работай, што не стаў разбіраць іх па парадку. Для гэтага не было часу. Дый парадак тут быў не дужа патрэбны.

Ён пісаў...

„...забудземся на ўсё... зноў працягнем адзін аднаму рукі... будзь зноў маёй князёўнай з залатой дзіцячай казкі...

„...мне хочацца ўзірацца ў блакіць неба, слухаць голас вуліцы, бачыць свой адлюстровак у мокрым асфальце... мне здаецца, што я набыў здольнасць лётаць, як птушка... каб толькі адчынілі дзверы...

„...дзіўна, але ў самоце пачынаеш думаць аб жыцці і смерці... смерць!.. гэта заўсёды стаяла перада мной... але да старой гэтай „тэмы“ я вяртаюся зноў і зноў...

„...і ўспамінаецца мне, Эльга, той вечар, калі мы з табой стаялі на руінах манастырскай сцяны... Помніш, Эльга, дзікі жымаласць вырас на ім... ты адарвала галінку і сказала:— От, як здарова!.. на каменні вырас... мы прысягалі быць людзьмі, карыснымі Людзьмі, Грамадзянамі...

„...я цяпер хочу быць Чалавекам, Грамадзянінам...

„...няма нічога лепшага, як сказаць перад смерцю:—Родная, не трэба плакаць! Ты, вы ўсе, харошыя мае, тыя, з кім пражыў я лепшыя часы, не трэба плакаць. Няхай тады—калі пабягуць перад скупым натоўпам хлапчукі, задаволеныя відовішчам, тады—калі прыяцелі і таварышы панясуць на плячах драўляны кораб з рэшткамі таго, што завецца чалавекам, тады, калі зальецца—у надсадным плачы—аркестр, тады няхай салдат возьме наперавес вінтоўку і жалобны сцяг узнімецца ў неба...

„...бачу, ты хмурыш бровы, ты недаўменна ўзнімаеш вочы... куды ён залез?.. навошта гэта ўсё?..

„...смешна, але і мне часам здаецца, што гэта ўсё—не пераконанне, а словы, толькі словы...

„...от, як гарэх... залочаны, а ў сярэдзіне адна гніль“..

Ён адрываў вочы ад напісанага і смутак агортваў яго

„...карысным чалавекам быць... а ці не позна ўжо?.. усе-ж лепшыя дні прайшлі, прамінулі... і дужасць прайшла... толькі туга па ёй засталася“...

А тым часам лоўкія і хітрыя чыноўнікі цэнтральнага астрога рабілі сваю справу. Абрабаванне буйнейшага банка, забойства аднаго з дырэктароў яго, у цэнтры горада, на людной вуліцы—гэта было сапраўднай сэнсацыяй. Тут бачылі ўсё: і замах на дзяржаўны лад і на недатыкальнасць прыватнай уласнасці, не абышлося і без „рукі Масквы“. Весткі, дадзеныя арыштаваным Юткевічам, былі правільныя: удзельнікі налёту на банк і—галоўнае!—арганізатар яго—Карл Гардон—былі ў руках паліцыі. Але тут выявілася пікантная акалічнасць: з Карлам Гардонам былі звязаны некаторыя чыны—о, майн готт!—чыны паліцыі. Рабіць яго цэнтральнай фігурай працэса ніяк нельга было, і выбар паў на Юткевіча. Ну, вядома, гэта дужа імпаніравала палітычным устаноўкам: чалавек з Расіі і, быць можа, чалавек... савецкі?

Перад Карлам Гардонам лоўкія і хітрыя дзялкі расчынілі карты без хістання. Трэба было падрыхтаваць судовую камедыю, і на Гардона ў гэтым сэнсе пакладаліся вялікія надзеі. Ён згадзіўся рабіць тое, што яму рабіць загадаюць, але настойліва і катэгарычна прасіў выканаць апошнюю ягоную просьбу: перавесці яго ў Юткевічаву камеру.

І вось—на змярканні, калі Юткевіч ляжаў з заплюшчанымі вачыма ў глыбокім бяздумʼі, якое прыходзіла да яго ўсё часцей і часцей, звякнулі ключы, і цяжкія дзверы камеры захлопнуліся за Гардонам.

Юткевіч усхапіўся.

Ці не здань гэта перад ім? Дзе бляск адзення і позы? Дзе надменнасць усмешкі і валадарныя гэсты рукі?

Але перад ім быў жывы кароль, уладар, правадыр, перад ім быў лоўкі з лоўкіх, магутны з магутных. Схудалы і няголены, у нейкім палінялым пінжачку, з пашарпаным шалікам на шыі, у стаптаных ботах... кароль быў падобны на мізэрнага жуліка-жабрака з правінцыйнага рынка. Толькі адно, не змяніліся вочы сур'ёзныя, упартыя, глыбокія.

Гэтак стаялі яны адзін перад адным, нібы вось-вось збіраліся кінуцца ў бойку, стаялі маўклівыя, схмурнелыя, і, мусіць, кожны з іх варажыў, хто-ж загаворыць першы.

Карл Гардон пераступіў з нагі на нагу, потым на твары з'явілася ўсмешка, і ў ёй Юткевіч спазнаў былога ўладара.

— Усё скончана,—міжволі прашаптаў Юткевіч.—Не трэба прараканняў, давайце пацiснем адзін аднаму рукі.—Ён працягнуў руку, але Гардон адвярнуўся.

Здэтанаванасць апанавала Юткевіча. Рука апусцілася. Ён густой заліўся чырванню.

— Я не вінаваты...—глуха сказаў актор.—Мне хочацца жыць. Гэта мацней за ўсё.

І тут кароль злодзеяў не вытрымаў, ён рэзка павярнуўся да здрадніка і, як толькі хапіла пагарды і знявагі—кінуў:

— Сволач!

Юткевіч ступіў крок да яго, сціснуў кулакі, нахмурыў лоб. Усё кіпела ў яго ў сярэдзіне. Моцная нарадзілася нянавісць да гэтага чалавека—і, здаецца, яшчэ хвіліна, і ён кінецца на яго. Гардон гэта зразумеў і нарыхтаваўся сустрэць удар.

— Ты забраў у мяне ўсё... забраў апошнія надзеі на жыццё! траха што не крыкнуў Юткевіч. І вось у цябе яшчэ хапае сілы кідаць у твар абразу. Злодзей ты!

Гардон зарагатаў. Тонкі і прыгожы ягоны твар перакрывіўся ад гэтага рогату. Шчокі запалалі яркай чырванню. І, стрымліваючы ўсеўладны і магутны свой рогат, ён пракрычаў:

— Дурань! Ты не ведаеш, хто ўкраў у цябе жыццё. Памяркуй добра, і ты прыдзеш да выніку, што зрабіў у адносінах да мяне, да ўсіх нашых—злачынства, ты здрадзіў людзям, што зычылі дабро табе. Ты памыліўся і памыліўся непапраўна!

— Ты!..—у нейкай атупеласці крыкнуў Юткевіч і паваліўся на канапу.

І тады двума скачкамі Гардон апынуўся ля канапы і раней, чым паспеў Юткевіч што-хаця зрабіць, ён абодвума рукамі схапіў яго за горла, навальваючыся ўсім тулавам.

— Сабаку і смерць сабачая!—праз агідны і жорсткі смех працадзіў Гардон і сціснуў Юткевічава горла.

Той, нібы вуж, выгінаўся ў Гардонавых руках, але потым пакінулі яго сілы і не хапіла паветра. А Гардон, нахіліўшыся над ім, з садыстычнай задаволенасцю бачыў, якімі празрыстымі,

нібы шкло, зрабіліся Юткевічавы вочы, як хваравітая—прадсмяротная—сінява пакрывае ягоны твар, як набраклі крывёю, гатовыя лопнуць, вены на ілбе. Гардон, нібы віном, упіваўся прадсмяротнай агоніяй ворагавай. У дзікім вар'яцкім экстазе ён голасна рагатаў. Адплата і перамога чуліся ў рогаце гэтага чалавека.

Раніцай яго чакаў прысуд.



У тыя дні па ўсёй Еўропе цвілі пахкія і буйныя ружы. Яны напаўнялі паветра густым водырам. Лета ішло сваім чарадом, ім упіваўся ўсякі, хто мог, сваім чарадом ішлі дзяржаўныя кангрэсы і канферэнцыі, не гледзячы на тое, што канферэнцыю па раззбраенню пакінула Нямеччына, пакінула з помпай, заявіўшы, што вернецца толькі тады, калі вырашальныя магутныя дзяржавы забяспечаць за ёй роўнаправе. Нямецкія грамадзяне мелі поўнае права ўпівацца водырам ружаў, слодыччу летняга адпачынку. Увечары, прыехаўшы з загараднай пагулянкі, яны маглі пайсці ў вар'етэ і рагатаць, рагатаць, рагатаць да непрытомнасці. Ах, як лоўка высмейвалі ў вар'етэ ў трапных гумарыстычных рэўю намаганні амерыканскіх Злучаных Штатаў раззброіць сваіх еўрапейскіх канкурэнтаў. Хітры дзядзя Сам! Але немца не гэтак лёгка было абкруціць вакол пальца, немцы—сапраўдныя Немцы, з вялікай літары—марылі аб даваеннай Нямеччыне, аб былой магутнасці сваей вялікай бацькаўшчыны.

Асаблівым поспехам карысталася рэўю, у якім праслаўляўся новы Месія нямецкага адраджэння, чалавек з чорным мінулым і чорнымі помысламі, што абвясціў вайну яўрэям і большэвікам. Ах, як трапна падкідала ножкі прыма-балярына, вытанцоўваючы ўрачыстасць перамогі. Безумоўна, таленавітая актрыса. Пра гэта наперабой крычалі ўсе газеты. І імя ў яе было—сапраўднае, нямецкае, нацыянальнае: Эльга Райх... Ёй плацілі грошы, яе закідалі буйнымі пахкімі ружамі—чырвонымі, ружовымі, крэмавымі і белымі... Ах, як хораша пахлі гэтыя ружы. Яны пахлі славай.

І пакуль Еўропа была ахоплена ліхаманкай канферэнцый, крывадушшам дыпламатычных змоў, адна шостая частка свету ўзбройвала сябе волатамі індустрыі, краіна—пад выццё і скогат драпежнікаў усіх рэлігій і нацый—шыхавалася ва ўдарныя брыгады... ішлі вытворчыя штурмы, выгартоўваліся і раслі сотні і тысячы Ізотавых.

Можна было паглядзець на карту былой Расіі—імперыі эксплаатацыі, галечы і роспачы—можна было паглядзець на карту і ўбачыць: там, дзе сыпучыя пяскі наступалі на чалавека, з'яўлялася вада і скаралася ёй пустэльня; там, дзе спрадвек ляжалі непраходныя балоты, „чортавы калодзежы“, узнікалі каналы і водныя магістралі, красаваліся палі буйным коласам; там, дзе ў мядзведжай спячцы спалі багацці нетраў, і ноч і дзень

грымелі пад'ёмнікі і прагна ўрэзваліся ў пароду экскаватары; там, дзе ў трэскі разбівала нават самыя лёгкія і лоўкія чаўны, горда і магутна прабягалі праспекты плацін...

...стаяў Краўчанка на Чырвоным пляцы, глядзеў на маўзалей правадыра, і ўся вялікая панарама краіны соцыялізма нібы паўставала перад ягонымі вачыма.

Апошні дзень у Маскве... І нават не сціскаецца сэрца ад нязведанасці, і неяк рвецца ўся істота туды, дзе ляжаць бяскрайнія прасторы краіны, дзе ідзе праца, праца—во! што трэба!

Ён яшчэ раз перачытвае пуцёўку, толькі-толькі атрыманую. Ён адводзіць вочы ад яе і ўсміхаецца—шырака, радасна. Яму хочацца раптам крыкнуць на ўвесь пляц, на ўсю Маскву: пуцёўка ЦК ў маіх руках! Бывай, Масква! Мы развітваемся, як сябры! Але Краўчанка не крычыць, а толькі зрываецца з месца, прабягае паўз Гістарычны музей, ловіць абрыўкі размоў, лавіруе паміж трамваяў і аўто... спяшаецца, імчыцца да хаты.

Яго сустракае Тася, заклапочаная, расчырванелая. Яна спрабуе зрабіць выгляд, што незадаволена тым, чаму гэтак доўга не было яго. Але ён хапае яе моцнымі сваімі рукамі, кружыцца па пакоі і ўвесь ён крынічыць хлапчуковай весялосцю.

— Ну, ты... пусці!...—адбіваецца яна.—Слаўка ўбачыць.

Чырвонашчокі тоўсценькі Слаўка паяўляецца на парозе. Ручаняты ў яго запэцканы ў атрамант. Ён рашуча абцірае іх аб кашульку і бяжыць да Краўчанкі.

— Мяне, мяне пакружы!

— Эйш ты, мурзілка!—заліваецца дабратлівым смехам той.—Ну, ідзі, пакручу! Раздайся, Слаўка ляціць!

Потым Краўчанка цалуе Слаўку ў лоб і кажа:

— Ну, сып, збірай свае манаткі ў дарогу. Заўтра паедзем далёка-далёка!..

Слаўка бяжыць у суседні пакой, там у яго шмат работы, трэба скончыць да ад'езду маляваць лозунг для дзіцячага саду. Ён заўтра занясе гэты лозунг, няхай павесяць яго ў залі і няхай успамінаюць таварышы пра Слаўку. А Краўчанка выцягвае з шафы свой шынель, любоўна аглядае яго. Колькі гадоў ён вісеў—забыты ў гэтай шафе. Баявы шэры шынель... Гузік адарваўся, трэба ўшыць. Але ў пакой уваходзіць з чамайданам у руках Тася і пытаецца:

— Што ты робіш, Барыс?

— А от, шынель... аглядаю,—узнімае вочы на яе.—Добры шынель... якраз прычакаў пары.

Тася пачынае ўкладваць у чамайдан бялізну, яна глыбака ўздыхае і кажа—неяк цёпла і задушэўна:

— Слаўка... месца не знаходзіць. Столькі яму новага ўбачыць...

Краўчанка ўтыркае голку ў шынель, адкладае яго ў бок і падыходзіць да Тасі.

— Ён малайчына. Мы з яго, Тася, зробім чалавека, што трэба. Як сын ён мне... Абяцаю, Тась, што зраблю ўсё, каб ён не ведаў, хто яго бацька...

— Ты зноў... Барыс...

Але ён моцна сціскае яе рукі, зазірае ў вочы.

— Ну, ты, малыш мой... неяк міжволі ўспомнілася гэта...

І яна туліцца да яго і гэтак—блізка адзін да аднаго—сядзяць яны колькі хвілін моўчкі.

...потым у іхнае жыццё ўрываецца дарога, урываецца белы нязграбны вагзал, пабудаваны наспех, гром і лязгат таварных цягнікоў, экскаватараў, грузавікоў, пад'ёмнікаў... урываецца панарама будоўлі—домнамі, мартэнамі, пракатамі... і—пакуль спыняецца цягнік перад вагзалам, покуль Слаўка пляскае ў далоні ад багацця ўражанняў і ад маладога свайго веку, Краўчанка і Тася моцна паціскаюць адзін аднаму рукі,—яны адчуваюць сябе дужымі.

*КАНЕЦ ДРУГОЙ ЧАСТКІ*

---

**МАКАР ПАСЛЯДОВІЧ**

# СТАРОЕ ГУМНО

Заткнуўшы за пояс сякеру, Якаў Галынец шырака ступіў з двара на вуліцу. Потым спыніўся, дастаў з кішэні капшук з тытунём, кавалак газеціны. Сіні мяккі дым лёгкімі істужкамі ўскруціўся ўгору.

Галынец глянуў на калгасны двор. Выпрастаўшы драўляныя крыллі, яшчэ адпачывалі пасля ўчарашняй напружанай работы чатыры жняяркі. З-за выстраеных у адзін рад параконных калёс аглядала шырокую вуліцу зяленагаловая сіласарэзка. Конныя граблі намерыліся праткнуць зямлю сваімі адбеленымі стальнымі ікламі. Ля маўклівых бочак з газай паслухмяна стаяў „Інтэр". Трактарыст Антось Бортнік паіў яго газай з вядра.

Больш нікога не ўгледзеў Галынец на калгасным двары. Было яшчэ рана. Сонца толькі пачынала падымаць сваю санлівую галаву з-за далёкага леса. Па выгане, над рэчкай Пінай, яшчэ плаваў цяжкі шэры туман. Толькі па ўзгорках празрыстым, як шкло, было паветра. Срэбным яркім агнём займалася раса на таполях і бярозах. Круціліся над хатамі шызыя галубы, трапятала на азяродзе хвастом, лаючыся з вераб'ямі, стракатая сарока. Спакойна і густа сінела чыстая ад хмар бездань неба. Патроху спакайнела ўсё ў Галынцавай душы.

Пастаяўшы яшчэ з хвіліну, ён накіраваўся да Бортніка.

— Чаму-ж гэта вы сёння так рана прыперліся?—спытаў той, адкручваючы ад карбюратара фільтр.—Мо' яшчэ і не паснедалі?

Галынец махнуў рукой.

— Ліха няхай яго возьме з тым снеданнем! Такі гармідар узнялі, што ледзь ногі вывалак. І ўсё з-за гэтага паганага гнілля. Аж сорам казаць...

Бортнік дапытліва глянуў на Галынца.

— Кажа, не хапай, не лезь першым. „Яшчэ злосць спаганяць будуць. Няхай другія пачынаюць. Кажа, лёганька раскідаць, але як цяжанька яно будавалася"... А калі сваё наперш пачаў трыбушыць—зноў бяда.

Трактарыст нічога не зразумеў з гэтага тлумачэння. Хацеў нешта сказаць, але Галынец дыбаў пасярэдзіне вуліцы пад канец вёскі. Потым абярнуўся і крыкнуў.

— Калі будуць прыходзіць мае будаўнікі, дык усіх адпраўляй да Хаўстовічавага гумна. Я туды і іду.

Як толькі пачаў набліжацца Галынец да Хаўстовічавых будынкаў, яго рашучасць пачынала патроху спадаць. Сцены

Хаўстовічавых будынкаў былі схаваны за шчыльнай агароджай з дошак. Толькі шырокія бакі крутых стрэх узняліся над агароджай. За хатай даспявалі на пругкіх галінах дрэў папяроўкі і сапежанкі. Зашыліся ў лісцё зялёнабокія вінёўкі. Ва ўсім гэтым: у прасторным садзе, у стрэхах, нават у цяжкай шчыльнай браме была нейкая падкрэсленая самаўпэўненасць і сытая непатрывожаная самастойнасць. Калі Галынец, грукнуўшы брамаю, ступіў на вялікі двор, кудлаты руды сабака загыркаў на яго сіплым зрывістым брэхам.

— Які ты яшчэ, Вожык, дурны!—крыкнуў на яго Галынец.— Суседзяў не пазнаеш. Эх, гад ты печаны!

Вожык прыветна завіляў хвастом і пацягнуў за сабою да будкі зачэплены за грубы напяты дрот ланцуг. Ля мураванага склепа корпаліся свінні. Узбіўшыся на плот, моташна драў горла чорны певень.

— Мужык дома?—спытаў Галынец у бабы, якая выткнула галаву з сянец, каб паглядзець, хто прышоў.

— Недзе вышаў,—адказала тая і хуценька знікла ў прорве дзвярэй.

Галынец увайшоў у хату.

— То-ж я прышоў выконваць учарашнюю пастанову,—пачаў, прымасціўшыся на заслоне.—Падмурак ужо выцамантавалі, паклалі вянок падрубаў, паставілі шулы новыя. Цяпер дрэва на сцены трэба прыдабыць... Дык сход учора пастанавіў...

Хаўстовічыха пляснула ў дзежку лыжку, якою налівала блін на скавараду, узялася рукамі за крутыя бакі.

— Каб не вы, дык і сход не дадумаўся-б да гэтага, —ледзь не крыкнула.—Я ведаю. Усероўна як падкопы якія робіце, дзядзька Якаў. Век у згодзе ў суседстве жылі, а цяпер не дай божачка і не судзі, як яно пашло...

— Пры чым тут я?—паспрабаваў Галынец адвесці ад сябе аднаго гэты наскок.—Не я адзін... Многія там рукі падымалі...

— Няпраўда! Чаму-ж усе не прышлі, а вы адны толькі? Чаму так раненька? Чаму спярша па нашае дабро? Ёсць-жа ў вас, ёсць-жа ў Леўдзікавых, у Зенчыкаў, у Бандуры. У кожнага ёсць...

— Пашла-паехала!—дыхнуў Галынец.—Не бойся, усіх у адну кучу змосцім. Усім лад дадзім. Учарашняя пастанова, што закон. Ніякіх суперакаў не павінна быць. І ты яшчэ кажаш, чаму раней за сваё гумно не браўся? Ідзі глянь! Усё развярнуў. Абы прычапкі другім не было. Хоць усё тое гнілле на адзін воз можна згрузіць...

Хустовічыха ад такой нечаканасці аж знямела. Падлога здалося ёй, закруцілася пад нагамі.

— Дык вы ўжо раскідалі? Калі-ж справіліся?

— Досвітам устаў. Баба яшчэ спала. Ведаў, што будуць упікаць каторыя несвядомыя, пасылаць адзін да аднаго. Дык я і рашыў, каб прычапкі не было. На якое ліха мне цяпер тое гумно? Усё чыстым зернем з калгаса атрымліваю за сваю работу.

Ён глянуў на яе, збянтэжаную, і падумаў ужо, што цяпер не будзе доўгае гаворкі. Самы моцны козыр быў у яго руках. Што-ж знойдзе цяпер хто супроць яго, калі ён не толькі словам, але і неадкладнай справай пацвярджаў сваю ініцыятыву.

— А я не дам!—раптам ускіпела Хаўстовічыха.—Далібог-жа не дам! Такія грошы патрацілі, а цяпер нейкі чорт лысы будзе карыстаць.

Галынец устаў з лаўкі.

— Дык гэта і я па твойму чорт лысы? Ну і загадала ты мне, суседка, загадку. Быў чалавекам, пакуль не прышоў за гэтай справай у тваю хату, а цяпер на табе: „чорт лысы!", ды яшчэ на твае заруся. На якое ліха мне яно?

Ён больш нічога не сказаў і моўчкі вышаў на двор. У сярэдзіне зноў узнялася прыкрасць ад гэтае сваркі. Але злосці не было. Ён глянуў праз сад на адчыненыя ў гумне вароты і накіраваўся туды.

Густы з'едлівы пыл валіў з гумна, як дым з ёўні. Чуваць было як нехта шумна варушыўся ў сярэдзіне будынка, плёваўся і харкаў. Часта ад нейкіх вострых udaраў уздрыгвала страха.

Галынец ступіў у душны змрок будынка і спярша нічога не разабраў, хто і што тут робіць. Потым, калі вочы трохі прызвычаіліся да змрока, згледзеў Сымона Хаўстовіча. Стаяў ён ля сцяны на табурэціку і торкаў па парадку чатырохраговымі віламі ў страху. Страха трэслася ад удараў, шэрыя камякі пылу, якія за многія гады начапляўся за салому і латы, скручваліся ўніз.

Галынец выскачыў на двор, калі востра і няўцерпна заказлытала ў носе горасць. Ледзь стрымліваючыся, адышоў далей ад дзвярэй і чмыхнуў. Адзін раз, другі. Тады раптам спыніўся шум у гумне. Хутка паказаўся замурзаны Хаўстовіч. Рудая яго барада і вусы пачарнелі.

— А-а, гэта ты...—пачаў ён аціраючы рукавом твар.—Та-ж тут гарохвін трохі асталося, што летась на працадні атрымаў... Трэба трохі свінням падаслаць. Крануў іх цяпер віламі—усё закурылася дымам.

Гаварыў і скоса, з-пад пасунутага на вочы казырка, глядзеў на Галынца: ці дае яму той веры? Але Галынцоў твар быў абыякавым і непраніклым. Тады, супакоіўшыся, Хаўстовіч усміхнуўся.

— І ўсё мышы з'елі! На пацяруху змалолі, каб яны павыдыхалі. Каб авёс, а то гарохвіны...

За садам, па вуліцы Антось Бортнік ужо кіраваў на поле грукат і клопатнае чохканне напоенага стальнога каня. Прызыўна звінеў буфер на калгасным двары. Ля выгану грымеў у кузні цяжкім молатам Яўхім Малах. Узрушана заіржаў на канюшні жарабок Няптун.

Хаўстовіч неяк раптам асеў, унурыўшыся поглядам у зрытае свіннямі гумнішча. Твар, здалося Галынцу, пачарнеў яшчэ больш. Па губам загуляла нервовая дрыготка.

— Шкадуеш?—спытаў брыгадзір, падаўшыся трохі наперад. І паспачуваў.—Я ведаю, век збіралі ўсе: дзед, бацька, сам. Думалі крэпасць вялікую ладзіць. Плотам высокім гарадзілі, каб хто і вокам не пакваліўся, што ў сярэдзіне. Думалі на век усё. Ажно нічога няма. Дзмухнула бура і ўсё рассыпалася. Гэта толькі від, што стаіць. А яно—рассыпалася.

— Чаго кпіш?—глухім голасам бумкнуў Хаўстовіч.—Кажаш адно, а думаеш другое. Мяне не падманеш.

— Каб я маніў, дык бы ты бег за мною,—спакойна адказаў Галынец і, слізнуўшыся поглядам міма разгубленага Хаўстовіча, пачаў пералічваць колькі пакладзена бярвён у сцяне.

— Няўжо сёння будзеце бурыць?

— Старшыня казаў, што цяпер каляд не чакаюць. А ты як думаў?

— Я нічога не думаў.

— Быў-жа ўчора на сходзе, чуў? Калі прагаласавалі, дык адступлення ўжо не можа быць. Так казаў старшыня,—закон.

Галынец спадзяваўся, што Хаўстовіч, як і яго жонка, пачне ўпікаць. Але Хаўстовіч больш не абазваўся; толькі цяжка ўздыхнуў, павярнуўся да гумна, зачыніў дзверы і павольна пашоў на двор.

Брыгадзір з хвіліну пастаяў нерухома, потым расчыніў дзверы, узяў табурэцік і, выцягнуўшы з-за пояса сякеру, пачаў меціць бярвенне. Стрыжнёвая смольная сцяна гулка грымела ад частых udараў. З падрубаў пырскала рудая парахня.

— Каб табе хто так па галаве загрукаў,—аж падскочыла ля печы Хаўстовічыха, счуўшы Галынцову работу. Схапіла, раз'юшаная, чапялу і рынулася на двор.

— Не чапай,—перагарадзіў ёй дарогу мужык.—Яшчэ з калгаса выкінуць за разбой. Няхай сабе стараецца актывіст такі. Мо' да чаго і дастараецца... Баюся я толькі: хаця-б скрутак той не трапіў яму ў рукі. А можа яго мышы з'елі?

На вуліцы за брамаю пачуліся галасы, тупат. Чалавек з дзесяць калгаснікаў уваліліся на двор. Высокі і чарнявы Юрка Наўменак, комсамолец, бліснуўшы маладымі порсткімі вачыма, спытаў у Хаўстовіча:

— А дзе наш камандзір? Яшчэ не прыходзіў?

— У гумне,—буркнуў гаспадар.

— За мною, хлопцы,—падаў каманду Юрка.—Наступай!

Хутка густы і цяжкі, як туман, пыл загойдаўся над старым будынкам. Як ніткі, лопалася зморшчаная ракіта, трашчэлі збуцвелыя паплецiны. Звязаная ў пукі салома, скручвалася шумна на зямлю. Пад'ехаў стары Банадысь, пачаў грузіць яе на параконныя кары.

Праз гадзіну прыбег, засопшыся, Хаўстовіч. Непакойліва нікаючы вачыма па раскрытай напалову страсе, сказаў:

— Старшыня загадаў, каб я вам дапамог...

— Дзе ты таго старшыню сустрэў?—недаверліва спытаў Галынец.—Ён досвіткам у Менск паехаў. Хіба на поезд спазніўся?

Хаўстовіч зашатаўся. Потым замармытаў.

— Учора ўвечары ён загадаў, як са сходу ішлі...

— Калі загадаў, дык памагай. Бяры сякеру, адбівай зашчыткі. Толькі асцярожна, не пакалі дошак. Яшчэ спатрэбяцца на кароўнік.

— Зашчыткі пасля... Калі ўсю страху раскрыем...

Галынец, заняты работай, ужо не абазваўся. Хаўстовіч пастаяў трохі нерухома, тады ўзяў драбіну і прыставіў да таго месца страхі, якое пароў з сярэдзіны вілкамі.

— Эй, ты памочнік!—крыкнуў з другога боку страхі нябачны Навумёнак.—Сюды лезь. Няма чаго поркацца знізу. Трэба разбіраць парадкам.

— Сам гаспадар! Няма чаго мяне вучыць. Я век пражыў, а ў цябе яшчэ маміна малако на губах не абсохла.

— Можа ў мяне такое малако, што яму ніколі не давядзецца ўсыхаць.

— Тады смакчы яго сабе на здароўе.

— Так бы ты і раней сказаў,—згадзіўся Навумёнак і спытаў у Галынца:—Ну, як дзядзька, добрыя яшчэ бярвенні?

Брыгадзір выпрастаў спіну.

— У самы раз. Адзін стрыжань. Не больш, як на палец абалоны. Знізу праўда, вянкі са два спарахнела, шулкі пагнілі. Дык тое адкінем. А ўсё здаровае ўмосцім у новую сцяну. На тым падмурку гэтае дзерава век ляжаць будзе. Не згніе і не збуцвее на тым падмурку.

Ён прыплюшчыў ад гарачага сонца вочы. Адсюль са страхі было відаць яму ўсё поле. Недалёка ад вёскі пластаваў машынаю папар пад жыта Антось Бортнік. За папарам прыветна махалі крыллем жняяркі. Ля густое жоўтае лавы аўсу ўсё квітнела чырвонымі і белымі жаночымі хусткамі, якія нагіналіся і падымаліся над снапамі за густа ўстаўленымі мэндлікамі. Галынцу здалося, што сярод гэтай грамады ён распазнае сваю жонку Юсту. Гэта яна, здаецца, падымае звязаны сноп і нясе яго да мэндліка. На патыліцы матляецца два ластаўчыныя хвосцікі завязанай белай хусткі... Блізка ад гумна млела на сонечнай спякоце лісцё ліпы. Санліва, ледзь чутна шапнула ля вуха пчала...

Ад гэтага віда ўсё нутро старога брыгадзіра перапоўнілася спакоем і вялікай чуласцю. У гэты час ён думаў, што няма на свеце буры, няма ворагаў. Над усей зямлёю пануе мір і цішыня. Успомніўшы сварку з жонкай, нават не паверыў, што была яна ў сапраўднасці сёння раніцай. Крыўда ніколі не западала надоўга ў глыбіню Галынцавай душы. Вось і цяпер ён ніколечкі не крыўдаваў ужо і на Хаўстовічыху, і на мужыка яе. Ну вышла паміж Галынцом і імі нешта падобнае на сварку. Дык што з таго? Пасварыліся і паміраюцца. Галынец нават і не ўспомніць, не ўпікне, што яго абазвалі чортам лысым. Можа тая сама цяпер каецца?

— Васіль, га-а, Васіль,—узрушаным голасам пазваў Галынец Хаўстовіча.—Ты не злуеш на мяне?

І каб падкрэсліць, што ў яго ніколі не было і цяпер няма ніякіх злых намераў, стары хуценька загаварыў:

— Я сваё гуменца сёння досвітам развярнуў. Каб ніхто не гаварыў, што сваё пашкадаваў для калгаса, а на чужое пазарыўся. Нават з-за гэтага з бабай пасварыўся... Каб людзі чаго не выдумлялі. Калі маё гумно не спатрэбіцца на бярвенне, дык хоць для апалу ў сталоўцы скарыстаць можна. Абы вачэй людзям не мазоліла... Дык ты не злуйся на мяне.

— Я на цябе не злуюся,—абазваўся Хаўстовіч.

— То злазь тады. Адыйдзем ад гэтай саломы. Пакурым.

Галынец злез са страхі, за ім нехаця Хаўстовіч Селі воддаль гумна на абернуты вулей. Выцягваючы з кішэні тытун, брыгадзір загаварыў:

— Як ты думаеш, выведзем сцены з дзесяці гумнаў, ці будзе малавата?

— Павінна хапіць...

— І я так мяркую,—шырака махнуў рукою Галынец.—Праўда будыніна важнецкая заснавана, сто метраў удоўжкі, васемнаццаць метраў ушыркі. Туды нават больш як дзвесце кароў можна паставіць. Да халадоў управімся з гэтай работай.

— Захацеўшы можна ўправіцца...

— Управімся. Хлопцы важнецкія падабраны ў маю брыгаду. Маюць гонар. Гэта-ж пазаўчора прыходзіць дэпутацыя з Міран, з калгаса „Зара": Новік Арцём і Зязюльчык Цімох. Выклікаем, кажа Новік, на спаборніцтва вашу брыгаду—хто хутчэй кароўнік збудуе. Дык мае хлопцы на дзесяць дзён карацейшы тэрмін вызначылі. Дармо што ў тых чатыры вянкі паклалі, а ў нас толькі адзін.

— Ці ў вянках справа?

Галынец устаў з вулля.

— Я-ж і кажу, абгонім!

Зноў зазваніў прызыўна на калгасным двары буфер, паведамляючы пра полудзень, пра адпачынак.

Але брыгадзір палез на страху.

— Яшчэ рады са два знімем тады адправімся да місак. Тут недалёчка. Гэта не з поля ісці.

Раптам закрычаў Наумёнак, які арудваў на другім баку страхі:

— Хлопцы, знайшоў нешта! Скрутак нейкі...

Хаўстовіч пабялеў і хуценька пачаў узнімацца ўгору па агаленых латах.

— Давай сюды! Гэта акладныя лісты я хаваў. Забыўся толькі дзе. Думаў што з гэтага боку... Давай!

Наумёнак каўзануўся са страхі ўніз.

— Я пажартаваў...

— А што ты за пазуху засунуў?

— Нічога...

— Аддай,—раз'юшана закрычаў Хаўстовіч, саскочыўшы на зямлю і наступаючы на Наўмёнка.—Аддай, а то галаву разаб'ю!

Усе мужчыны кінулі работу і глядзелі, што з усяго гэтага выйдзе. Толькі Галынец устрывожыўся. Не сыходзячы з месца крыкнуў, каб пачулі на тым баку будынка.

— Юрка, не дзяцінься там! Калі гэта яго, то аддай. Няма чаго выдумляць на рабоце. Няма ў цябе павагі да старэйшых. Яшчэ і комсамолец.

Ухіляючыся ад Хаўсовіча, Наўмёнак бліснуў частымі белымі зубамі.

— Таму што комсамолец, мне і цікава ведаць, што гэта за схованка. Карыснага для дзяржавы і калгаса не хаваюць у страху. Я пагляджу, ці варта яму аддаваць.

Ён павярнуўся спіною да Хаўстовіча, хутка ўзлез на страху, перабраўся на другі бок яе да Галынца.

— Які ты няўважны,—кінуў яму папрок брыгадзір.—Так чалавека даводзіць да злосці. З-за глупства якога. Ніяк не можаш абыйсціся без гэтай палітыкі. Усюды яна табе сніцца. Рабі от работу і ні пра што не думай. Не глядзі на другіх. Абы сам добры быў.

— Няправільна, таварыш Галынец, так думаць. Калі будзеце глядзець толькі на сваю работу, знойдуцца людзі, якія захочуць напэцкаць на вашу галаву.

Галынец гучна зарагатаў.

— Яйца курыцу не вучаць. Як ты мяне наструніш супроць Хаўстовіча, калі ні я, ні ён гэтага не хочам? Мы век у ладзе жылі, не пасварыліся і не пасварымся. Бо не было і няма з-за чаго. Я яму памагаў, ён мне. Ні з кім ты мяне не вымусіш пайсці на нажы.

Памаўчаўшы трохі, зглядзеўшы Хаўстовіча, які нізам абышоў на гэты бок гумна, брыгадзір дадаў:

— Калі што знашоў—аддай. На што табе чужая радасць ці бяда?

— У мяне нічога няма,—паказаў вывернутыя пустыя кішэні, выцяг з-за раменя рубашку Наўмёнак. Глядзіце і за пазухай нічога няма. Я пажартаваў...

Але Наўмёнак зманіў. Гэта згледзеў Галынец па абедзе, калі, як і раніцай, першы прышоў на гумно. Хаўстовіч быў ужо тут. Ён, як і раней, корпаўся ў саломе.

— Палуднаваць ідзі,—пазвала яго праз сад жонка.

— Ты яшчэ не палуднаваў?—здзівіўся Галынец.—Набраў-жа нейкай халеры ў галаву. Кінь ты, калі я тут—ніхто твайго пакунка не чэпіць.

— Тады я схаджу папалудную.

— Валяй.

Бачыць брыгадзір, спешна ідзе загуменнем у зялёным юнгштурмаўскім касцюме Наўмёнак. Насвіствае песню „Наш паровоз вперед летит“.

Бачыць брыгадзір, ідзе Наўмёнак у сярэдзіну гумна, дзе натрэсена пацярухі і пылу са страхі, ідзе ў кут і падымае скрутак. Пачынае развязваць.

— Не руш!—крычыць яму Галынец.—Падай сюды.

— Пагляджу ды падам... Уга што тут робіцца,—раптам аж падскаквае Наўмёнак.—Грошы даўнейшыя. Усе царыцы пазбіраліся. Пятры ды Александры, Кацярыны і Кацярынкі. Тысячы са дзве будзе. Ну і насцягваў крот. А гэта што за ведамасць?

Ён разгарну доўгі ліст паперы і пачаў моўчкі чытаць. Потым усміхнуўся і выйшаўшы на двор, палез на страху да Галынца.

— Падзівіцеся, які ён ваш прыяцель.

Галынец узяў паперу.

Як далёкі з'едлівы шопат, зашавялілася ў галаве:

„Згадзіўся з Галынцом, каб за два пуды жыта яго баба пажынала восем дзён. Жала толькі сем, а на восьмы да паўдня. На маём стале харчавалася. Пяць фунтаў не адроблена. Каб ніколі не забыцца“...

„Кастусь Наўмёнак. Узяў пяць з паловаю фунтаў вінёвак хвораму хлопцу. Не заплаціў“...

— І не плаці!—гукнуў раптам Галынец невядома каму раз'юшаным голасам.—Не плаці гэтаму скуралупу. Яшчэ палавіну хунта, каб яна яму праз бок вылезла!..

Старая забытая крыўда вылезла з старой разбуранай страхі і, нашчэнт зголеная, паказала кукіш Галынцоваму спакою і вялікай чуласці. Лагоднасць да суседа разыйшлася, як дым.

— Пяць хунтаў не адроблена,—глянуў Галынец на Наўмёнка.— Ах, каб табе ў баку рабіла! А хто гумно гэтае табе будаваў, хто хлеў будаваў? Хто ямы для сада некалі капаў?

Вясёлая ўсмешка матнулася па Наўмёнкавых губах. Хітрэцкі прыплюшчыўшы вочы, ён працягнуў руку.

— Дайце, таварыш Галынец, сюды мне ліст. Я завяжу разам з грашыма і аддам Хаўстовічу. На што вам чужое? Вунь ён ужо ідзе сюды...

— Не!—ухіліўся рашуча брыгадзір і, зняўшы шапку, паклаў туды запыленую паперу.—Александраў ды Кацярынак можаш аддаць, а паперку, пазыку яго ўсю, што тут апісана, на калгасным сходзе абгаворым... І як жонка ды сам ён падгаварвалі, каб бабы супроць мужыкоў ішлі, што старыя гумны для новага кароўніка разбіраем...

Гаварыў і падазроным насцярожаным слыхам лавіў блытаны Хаўстовічаў крок.

---

ІЗІ ХАРЫК.

## ПІЛОТ.

Дым. Даль. Імгліць, вірліць прапелер.
Я чую самалёт свой да крыві.
А вочы строгія напружана звужэлі:
Зялёны, пышны пломень—кругавід.

У вочы хлынуў ён віхром паветра,
Ён сэрца гойдае гарачаю бруёй.
Можа сэрца ашалець з імпэта.
На секунду. На секунду. Стой!..

Уніз. Нырэц. І зноў я выплыў знізу.
Так многа неба. Сам я тут адзін.
А на ботах пыл дыміцца шызы,
Што з радзімых я прынёс далін.

Зямля жыве—ужо яна ўспамін мой—
Кінулася, рынулася ў дым.
Успомніць я хачу—успомніць немагчыма,
Ці бачыў я калі такі уздым.

Маё дзяцінства узнімала зрокі
У неба—у пяшчотныя сады.
Праз брамы светлыя і праз вясёлкі
Там плывуць крышталі-гарады.

Я між далоняў сплюшчываў свой голаў—
Хацеў туды, у тыя гарады.
Я сягоння йшчэ не еў нічога,
А там ёсць сытасць, там няма бяды...

Там дрэвы дзіўныя растуць над бірузою,
Румяныя бліны на дрэвах тых...
І голаў мой тумaніўся дрымою
Над ценем, што схіліўся на платы.

Мая зямля, мой голад і юнацтва,—
Мая абмытая ў мяцеліцах агнях.
Раптам песню хтось пачаў спяваць тут
У вышыні спяваю гэта я.

Вось мільгануў абрыс агнёва-яркі
Маёй вышэйшай радаснай зямлі.
Самалёт мой дыхае так шпарка.
Імчыць. Імчыць. Будзённы на кані.

Мая зямля падзей і дзён крылатых,
Дзе злядзіліся і кроў мая і пот.
То сонечны спявае авіятар,
Закаханы ў зямлю пілот.

*Пер. з яўр. мовы*

*З. БЯДУЛЯ*

ЛІНАРД ЛАЙЦЭН.

# БАЦЬКАЎШЧЫНА.

(АПАВЯДАННЕ ПАЛОННАГА).

Пра Кулямётную горку, пра жахі Каляд 1916 г. і студзеньскіх дзён 1917 года я не буду вам зусім казаць, ні сіла стыля, ні глыбіня пачуццяў і думак майго апавядання не заглушаць енкі крыжоў на рыжскіх братэрскіх могілках. Не, не варта цягнуць з глыбіні памяці прадчуванне злога лёсу, якое драпіравалася ў плашч даўгаўскага [1]) патрыятызма; гэтае прадчуванне чулася ў звоне шпор, у ляску шабельных ножан большасці нашых афіцэраў, якія штурхалі жыццё юнакоў у абдымкі смерці, каб пасля шпальты галодных газет змаглі праглынуць па некралогу.

Няма чаго казаць і пра славуты „арганізацыйны камітэт латышскіх стралкоў“ і пра яго алякуноў, апранутых у тогі, пад якімі, растрачваючы ахвяраваныя народныя грошы, цэлымі начамі раз'язджалі ў бліскучых аўтамабілях дамы правінцыяльных і рыжскіх дамаўласнікаў. Шукаючы забавы, гэтыя дамы прывозілі нам на перадавыя пазіцыі рукавіцы, адна з якіх захавалася ў мяне аж да сёнешняга дня.

Усё гэта ў сучасны момант адышло на задні план перад іншымі падзеямі, якія мне застаецца толькі аддаць на суд гісторыкаў чалавечых адносін, захаваўшы з гэтага заблытанага клубка маіх думак толькі адно пытанне, якое ніколі мяне не пакідае: навошта?

Навошта?

Хіба я сам не падобны на гэты пытальнік, скручаны ў барановы рог, змучаны, збіты, якога кідаюць на сцены вечнай турмы жыцця, які траціць надзею прабіць яе наскрозь.

Аднойчы бурны момант пераджыў я, калі ўпаў і застаўся ляжаць пад маім таварышом, які наваліўся на мяне ўсім цяжарам свайго цела і, хлюпаючы і канвульсіўна ўздрыгваючы, заліваў мяне сваёй гарачай, поўнай кіпучага жыццёвага паху крывёй. Гэтая кроў ма' быць, і выратавала мяне ад смерці, бо ў той дзень у плен бралі толькі акрываўленых.

Прывезены ў Мітаву я не мог прыйсці да памяці ад тых змен, што адбыліся са мною, бо да таго часу як мая воля, так і воля цэлага палка была накіравана толькі на адно: яна гнала нас уперад, насустрач жаху смерці, насустрач нейкай іншай волі, якую трэ' было

1) Даўгава—Заходняя Дзвіна.

зламаць, між тым, як цяпер я больш ужо не знаходзіўся ў сферы ўплыва гэтай сілы, бо быў пазбаўлен нават сваёй індывідуальнай волі. Калі перажытыя пад целам забітага таварыша хвіліны выклікалі ў мяне душэўны пералом, то зараз я адчуваў сябе зламаным фізічна,—быў падобным да дрэва, якое павалена навальніцай і ляжыць пад ударамі віхра, бездапаможнае і прыдатнае толькі на дровы. Ужо даўно і не раз я абмяркоўваў і ўзважваў,— як і шмат якія мае таварышы па мукам,—мажлівасць пры зручным выпадку перабегчы да праціўніка, каб пазбавіцца ад гнятучай і поўнай адчаю немінучасці заўсёды тырчэць пад носам у смерці, ці час ад часу кулямі кідаць у яе ненажэрную пасць якога-небудзь немца; аднак ад гэтага крока мяне стрымлівала прадчуванне надыходзячага пералома.

Пра тое, як нам жылося ў Мітаве, і як нашы сучасныя таварышы, нямецкія салдаты, якія ахоўвалі лагер ваеннапалонных, выварочвалі з нашых кішэняў усё, што там было: здымалі пярсцёнкі з пальцаў, сцягвалі з ног боты і перадавалі за гэта праз агарожу калючага дроту па спекулятыўнай цане малюпасенькую булачку хлеба—пра ўсё гэта вядома ад тых з нашых таварышоў, якім пашчасціла ўцячы і ў чоўне праз мора дабрацца да сваіх.

Вялізны цяжар галадоўкі, нібы нерухомы мяшок з пяском, прыгнятаў не толькі нашы пачуцці, думкі, душы, але, здавалася, разліўся ў паветры, па ўсёй прыродзе, прыгнятаючы да зямлі і шчабятанне птушак і карканне варон. О, гэтая брыдотная ўсееўрапейская п'яўка мілітарызма! Яна мільёнамі прысоскаў прыліпла да крывяносных жыл народаў! Капіталістычная сістэма, пад пятой якой мы гібелі без надзеі на вызваленне, гнала нас з горада ў горад і прымушала выконваць катаржныя работы. І вось, нарэшце абадраныя і галодныя мы трапілі ў адзін з лагераў Сярэдняй Нямеччыны, дзе вымушаны былі працягваць свае катаржнае жыццё за агарожай з калючага дроту. Наш вонкавы выгляд нагадваў кляч, прыгнаных на бойню, з жыл якіх нельга нават зварыць добрага клею. За найменшую спробу пратэста нас мучылі, катавалі рознымі спосабамі. Якім багатым матэрыялам уладаў бы пісьменнік, які ўздумаў-бы вывучаць наш быт. У яго не хапіла-б паперы, каб апісаць усё гэта, бо падобная сістэма панавала скрозь. Трэба сказаць, што не толькі ў нашай калючай агарожы нельга было знайсці ні зялёнай, ні сухой травінкі, ці якога небудзь карэньчыка, але наўкол усяе гэтай д'ябальскай агарожы, на колькі маглі толькі захапіць два пальцы самай доўгай рукі, усялякая расліна, якая ледзь вылязала з зямлі, вырывалася і з'ядалася. Тут мы навучыліся не толькі псіхічна, але і ў поўным сэнсе слова фізічна ненавідзець усё, што так ці інакш знаходзілася ў сувязі з пануючым класам; тут арганізм шмат у каго з нас ператварыўся ў своеасаблівую камбінацыю атамаў, якой да таго часу нідзе яшчэ не існавала; гэта была комуна шалёнай нянавісці, для якой вышэйшай радасцю

быцця, задачай і неабходнасцю было—несці смерць усяму буржуазна-эксплаататарскаму ва ўсім свеце.

Калі яшчэ ў Мітаве мы перажылі пералом, дык тут, у гэтай казарме смерці, мы былі паваленымі шмат стагоддзяў і эпох назад дрэвамі, якія ператварыліся ў каменны вугаль, полымя якога сваёй сілай рухае наймацнейшыя машыны: гэтыя машыны бязлітасна размолваюць усё, што ў іх трапляе.

Летам 1918 года мы апынуліся ў Эльзасе, у мясцовасці, пакрытай гарамі і лясамі, дзе ў сонечных далінах спеў вінаград, і дзе нас сустрэла багатая зелень моцных і здаровых дрэў, да пладоў якіх дакрануцца было так-жа небяспечна, як і падняць чырвоны сцяг. Дробная жывёла пасвілася па схілам крутых узгоркаў, пазвоньваючы сваімі званочкамі. Залаціста-зялёныя галоўкі хмелю трымцелі, калыхаліся і наліваліся салодка-горкім пахам для пеністага піва.

Нас, чатырох таварышоў, завялі да ўласніка аднаго з вінаграднікаў. Даручылі збіраць ураджай і араць поле. Нашым жыллём і начлегам была вышка над хлявом, дзе вільготнае паветра аборы, мыканне кароў, глухое сапенне і шум ад рухаў жывёлы здаваліся настолькі прыемнымі і ўзбагачаючымі наша жыццё, што я, загартаваны чалавек, расплакаўся, лежачы на саломе. Мы маглі расціраць паміж далонямі каласы пшаніцы і есці зерне, атрымоўвалі хлеб, кашу, каву з сахарынам і па кроплі малака, а ў нядзелю—нават рыбу, якой відаць забяспечваў нас Рэйн, які працякаў тут недалёка. Але забяспечваў ён нас далёка не з такой ахвотай, з якой ён аддаваў сваё імя ў распараджэнне брыдотнага патрыятызма багачоў.

І ўсё-ж такі куткі і закуткі пад страхаю бельвейлерскага—так звалася сядзіба—хлява са сваім мыканнем, сапеннем і вільгаццю засталіся ў маёй памяці, як лепшы доказ здольнасці адзічэлага жыцця да адраджэння і абнаўлення.

Ні воля, ні багацце, ні магутнасць не могуць зраўняцца з тымі гадзінамі, якімі надзяліла мяне багатае падзеямі жыццё,—не гледзячы на тое, што брама на ноч замыкалася, а варта пільнавала.

Але навошта гаварыць пра гэта?! Такія рэчы зразумелы кожнаму пленнаму, кожнаму зняволенаму...

У нашага гаспадара, якому мы, змучаныя пленныя абраблялі палі, у той час, калі сам ён ледзь не задыхаўся ад сыці, служыла кароўніца-эльзаска. Яна не была асабліва прыгожай,—вось толькі чорныя вочы, цёмныя валасы ды полымя твару надзвычай вабілі да сябе. Яна мела тую жыццёвую сілу, якая адкопвала маю магілу і вырывала мяне з той цемры, дзе я быў жыўцом закапаны. Я перажыў своеасаблівае ператварэнне, падобнае да згарання каменнага вугалю, пасля якога застаецца попел і вуглекіслата, якія неабходны для ўтварэння новага жывога арганізма: гэта быў стары закон абмену матэрый. Я зноў стаў чалавекам, жывым чалавекам, а галоўнае—я свядома адчуваў

сябе істотай у гэтыя ціхія, цёплыя ночы з напоеным вільгаццю паветрам, якое павялічвала асалоду існавання на вышках над хлявом. Але лепш не гаварыць пра гэта: аб жыцці не варта разважаць—трэба жыць!

Але... навошта?

Гэта праклятае „навошта“ зноў пачало непакоіць мяне ў той час, калі нямецкі фронт развальваўся ад рускага і латышскага комунізма і ад танкаў французскіх і брытанскіх фабрыкантаў,—калі захісталіся падпоры самага д'ябальскага пекла, і воля з выглядам здзіўлення пазірала ў дзверы. Ці праяўлялася ў гэтым спадчыннасць, якая перадаецца ад пакалення да пакалення атамамі цела і жывіцца сокам глебы, паветра і жывой прыроды, ці выяўлялася ў гэтым традыцыя прышчаплення з дзіцячых гадоў сям'ёй, школай, асяроддзем, мовай і паэзіяй, ці гэта было проста абурэнне ўспамінаў аб прывычных умовах жыцця,—але мяне ніколі не пакідала падсвядома-таемнае хваляванне, звязанае са словам „бацькаўшчына“. У той час, калі развальваўся еўрапейскі фронт, у мяне ўтвараўся свой псіхалагічны фронт: сутнасць слова „бацькаўшчына“ змагалася з маім абноўленым, дзякуючы эльзаскай сялянцы, „я“. Але нарэшце пачуццё бацькаўшчыны пачало пераважаць і толькі гэтае пачуццё абяцала мне волю. Я дазволіў гэтай сіле настолькі запаланіць мяне, што не мог ужо заставацца там: інстынкт бацькаўшчыны аказаўся мацнейшым за інстынкт кахання; акрамя таго яшчэ падтрымлівала і апраўдвала тое, што ў жанчыне гэты інстынкт быў значна слабей за каханне. Яна пакінула сваю абору, свае даёнкі, з якіх часта потайкам паіла мяне густым, цёплым малаком, кінула нават сваю матку і ўсю гэтую прыгожасць паўднёвай прыроды, каб за мной пайсці на чужыну. Я ў задрыпаным салдацкім шынялі і ў брудных штанах з рудавата-чырвонымі лампасамі пленнага, падобны на неахайнага генерала імперыялістычнай арміі, яна—з торбай за плячамі ў сваей новай паласатай сукні, простая, але поўная сілы,—мы абое а поўначы выступілі ў падарожжа зусім так, як ужо шмат гадоў таму назад прапаноўваў рабіць пясняр волі Гайнэ.

Прайшоўшы Яўрэйскую браму і апынуўшыся ў старой частцы горада Страсбурга, я заўважыў, што за намі нехта сочыць. Ён, відаць, шчыра працягваў выконваць свае ранейшыя абавязкі, не гледзячы на тое, што Нямеччына была ўжо амаль не абвешчана соцыялістычнай рэспублікай. Каля старога кафедральнага сабора з аднэй вежай, старажытнасць і слава якога мяне мала цікавілі, ён перашоў да адкрытага нахабства.

Скончылася тым, што на вагзале ў момант, калі мы збіраліся сесці на адыходзячы цягнік, паміж мной і Аўгіняй вырас жандар, які заявіў, што ваеннапленныя не маюць права браць з сабой нямецкіх жанчын. Зараз было зусім зразумела, што наш пракляты гаспадар Бельвейлера, уласнік кароў і аборы, паклапаціўся аб тым, каб за намі сачыў шпік, які і паклікаў

жандара. Гаспадар лічыў работніцу сваёй прыватнай уласнасцю, якою ён можа распараджацца таксама, як малаком сваіх кароў, як віном сваіх вінаграднікаў. Такім чынам, чалавечая свабода не адышла далей, як пяць-шэсць стагоддзяў назад!

Апошнімі словамі Аўгіні, якія яна кінула наўздагон адыходзячаму цягніку, былі:

— Чакай мяне, чакай мяне!

Гэтыя словы і было ўсё, што засталося ў мяне пасля перажытага няшчасця, словы гэтыя жылі ўсюды,—у цягніку, паравозе, каменным вугалі, дыме, агні, пары, колах, рэйках, васенніх палях, сонечным небасхіле; яны былі канцэнтраваным зместам пачуцця гневу, жадання помсты і расплаты ў маім сэрцы. Чакай мяне! Яшчэ раз жыццё мае было скалечана той-жа сілай, якая праз увесь час душыла, ламала, гнала мяне насустрач смерці, як гнала мільёны істот, такіх самых, як я. Погляд мой нікнуў у чорным бяздонні, і я нічога не бачыў, акрамя немінучага няшчасця. Стройныя і сухія гарады Нямеччыны са сваімі ўпарадкаванымі вагзаламі мяне вабілі менш, чымся сухое лісцё, якое гнаў васенні вецер. Апомніўся я толькі тады, калі ўбачыў роўнядзь палеткаў Курляндыі і будынкі з чырвонымі чарапічнымі стрэхамі, якія хаваліся сярод куп рэдкіх, голых дрэў, і дымам сваіх комінаў навявалі на мяне ўспаміны пра першыя дні вайны, калі я яшчэ быў глыбока пераконан, што павінен узяць зброю ў рукі і памерці за бацькаўшчыну, каб забяспечыць жыццё тым людзям, якія нам, мабілізаваным, так шчыра прапаноўвалі цыгаркі са сваіх сярэбраных портсігараў і не шкадавалі грошай да сярэбранага рубля ўключна.

Штосьці даўно мінулае прабудзілася ў мяне, калі я ўбачыў тую прыроду, часткай якой быў і якую не хацеў аддаць тым, хто вырас сярод іншай прыроды, жыў у іншых будынках, гаварыў на іншай мове. Раптам мяне ахапіў таемны сорам, а за ім прышло і адрачэнне ад Аўгіні, бо я ўбачыў сваіх курляндак— а яны былі прыгажэйшыя, зграбнейшыя за яе. Пачуцце бацькаўшчыны паўстала супроць найпрыроднейшага з прыродных пачуццяў кахання, і з такой сілай, што пад'язджаючы да Рыгі, я пачаў думаць, што маё каханне да чужынкі ёсць дрэнны ўчынак, здрада бацькаўшчыне, якая зневажае мой народ. Спацыруючы па вуліцах Рыгі, я пераджыў найвышэйшую тэмпературу маіх пачуццяў, бо зразумеў усю глыбіню сваёй віны, свайго граху, я не змог захаваць сябе для бацькаўшчыны такім, якім разлучыўся з ёй. Рыга была такою прыгожаю, не гледзячы на адсутнасць колішняга шуму і руху яе на вуліцах, у дамах, магазінах і на Даўгаве. Як можа змяніцца прырода чалавека!

Аднак, у палоне гэтых пачуццяў я быў толькі на працягу першага вечара, калі пакінуў душнае, насычанае пахам фальсіфікаванага тытуну паветра вагона і атрымаў магчымасць дыхаць свежым марскім паветрам рыжскіх вуліц, на якіх ужо былі адзнакі мароза позняй восені—рэдкія лапіны снегу. На Суво-

раўскай і Дэрпцкай вуліцах высока ў паветры развявалася некалькі сцягаў. Важкі чырвоны колер разам з белым рабіў гэтыя сцягі лёгкімі, празрыстымі, што асабліва вызначалася на фоне вячэрняга, цёмна-сіняга неба. Колеры бацькаўшчыны!—я быў захоплен наплывам пачуццяў. Але ўжо на другі дзень у мяне пачалі расплюшчвацца вочы, бо ва ўсім горадзе я бачыў усмешкі толькі на голеных тварах таўстапузых паноў,—бароны таксама прызнавалі бацькаўшчыну і ў купе з компатрыётамі актыўнічалі, між тым. як сымбаль паважанага імі мілітарызма,—постаць нямецкага салдата ў поўным узбраенні сярэднявяковага рыцарства,—узвышалася перад будынкам акружнога суда, як шэрая акамянеласць сусветнай душы.

Калі я ўбачыў усё гэта—прыгожасць Рыгі неспадзявана адбілася ў маіх змучаных мазгах слізкім вырадкам, які ўзнік ад скрыжавання разнастайных гадзін, цэнтр цела якога быў на біржы, а шчупальцы раскінуліся не толькі па ўсіх вуліцах, але і далей па ўсёй краіне, па ўсёй гэтай бацькаўшчыне, якую я яшчэ ўчора ўяўляў сабе такой рамантычнай, такой прыгожай і ажыўляючай пасля ўсіх перажытых жахаў.

Але няхай Рыга застаецца Рыгай! Хіба-ж я не меў бацькі, сясцёр і малодшага брата, які наведваў школу? Працавалі-ж яны на сваёй батрацкай гаспадарцы ў маёнтку і нават заслужылі прыхільнасць кіраўніка маёнткам, які час ад часу прысылаў мне прывітанні ў бацькаўскіх лістах! Калі цягнік набліжаўся да Вендэна, да гэтай канцылярыі ўселатвійскага мяшчанства, маё наіўнае сэрца застукала ўсё больш і больш неспакойна... Я быў так захоплены радасцю звароту дадому, што пачаў ужо забываць самае каштоўнае для мяне,—спадарожніцу майго гора і няшчасця...

Каля лесу і па лагчынах ужо слаўся змрок, калі, хлюпаючы па падмерзлай гразі, я дабраўся праз абору маёнтка да батрацкіх хат, якія раскінуліся на беразе сажалкі, дзе, не гледзячы на позны вечар, яшчэ плюхаліся качкі. Ад сажалкі ішла жанчына з падаткнёнай спадніцай, з каромыслам на плячы. Пейзаж быў амаль такі самы, як і там, у далёкім зараз Бельвейлеры: усё, што мае дачыненне да аборы і гразі, прывычна і блізка мне, і яшчэ зараз здаецца мне, што на свеце ніколі нічога не было, акрамя плюхання качак у бруднай сажалцы, дзябёлай жанчыны з падаткнёнай спадніцай і мёрзлай гразі.

Калі я зайшоў у сені, якія адначасова былі і кухняй, з цемры пачуўся незнаёмы мне голас:—Каго вы шукаеце?—У адказ я назваў імя майго бацькі, якога тут пакінуў некалькі год таму назад. Ягоны ліст, пасланы адсюль, я атрымаў ля каляд. І вось тут я пачуў тое, што з таго часу заўсёды гучэла ў маіх вушах, што як выбух аглушыла мяне. Калі-б за ўсё сваё жыццё я не прывык да падобных udараў і не загартаваўся, дык абавязкова ўпаў-бы непрытомным на падлогу. Што-ж здарылася пасля майго ад'езда, што павінна было здарыцца?

Нічога, акрамя адзіна немінучага ў гэтай машыне барацьбы, у гэтым фатальным млыне, две замест млынара кіруе непакрыты мучным пылам работнік, а запырсканы крывёй грашовы туз, які чатыры гады без упынку малоў і прасейваў нас. Бацька мой быў высланы ў нямецкія лагеры рабоў. Разам з іншымі рабамі ён зрабіў спробу спыніць кола млына і апынуўся паміж жоран. Пра гэта мне паведаміў нечый голас з цемры, які кпіў і здзекваўся з мяне.

Але чамусьці ў гэтую хвіліну я бачыў і адчуваў зусім яскрава абыякавы трэск агню ў печцы, булькание і кіпенне вады ў катле, якое злівалася з голасам незнаёмца, з граззю на дварэ, з падолам падаткнёнай сладніцы. Не гледзячы на ўсё гэта, мне захацелася легчы на падлогу каля агня і спаць усю ноч сярод гэтых булькаючых гукаў, бо быў занадта стомлены і фізічна, і маральна.

Аднак начаваць там было нельга, і я пашоў. Ідучы, я пачаў разважаць, бо хваробай разважання хварэюць усе пленныя і зняволеныя. Я ўсвядоміў, што абставіны павінны былі скласціся толькі такім чынам, а не інакш, што кіраўнік маёнтка, як сапраўдны прадстаўнік свайго класа, павінен быў дзейнічаць у поўнай адпаведнасці з гістарычнымі ўмовамі, не ўступаючы ў супярэчнасць з тымі патрабаваннямі, якія дыктавала яго становішча...

Так я прайшоў вёрст пяць. Адпачываў некалькі разоў, зноў падымаўся і далей валок свае зморадыя ногі. У той жа час думаў пра кухню, дзе палілася пліта, дзе водбліск агня трапятаў на сухіх трэсках і дзе так смачна бурліла ў катле. Я з прыемнасцю зноў апынуўся б на кухні і ляжаў бы там побач з сабакам. Які цудоўны адпачынак для звярнуўшагася на бацькаўшчыну ваякі!

Нарэшце я дабраўся да валасці, дзе павінен быў знаходзіцца камітэт дапамогі ваеннапленным. Пасля доўгага стуку я ледзь дабіўся, каб мяне ўпусцілі ў памяшканне. Пісар заявіў мне, што камітэт збіраецца для разгляду просьб аб выдачы дапамог толькі раз у тыдзень. Пасля заявіў, што мой брат зрабіўся бандытам і бадзяецца па лясах Латгаліі, а сястра зусім кудысьці знікла. Пераканаўшыся ў тым, што я з'яўляюся членам гэтай злачыннай сям'і, пісар праявіў у адносінах да мяне больш зняважлівасці, чым гэта патрабавалася абставінамі, але дазволіў мне, з яўна выяўленай недаверлівасцю, пераначаваць на лаве каля халоднай печы ў пакоі паседжанняў...

Калі я прачнуўся, наўкол як і раней, было ціха і цёмна. Мяне мучыў голад. Я пачаў вобмацкам рухацца ўздоўж сцяны, чыркаў запалку і зараз-жа гасіў яе, каб апраўдацца цемнатой у выпадку, калі-б я наткнуўся на што-небудзь жывое. Нечакана мне ўдалося праз невялічкія дзверы прайсці ў суседні пакоў, які, як відаць, быў кухняй валаснога праўлення. Спыніўся і прыслухаўся, думаў, што пачую дыханне якой-небудзь жывой істоты, але ў пакоі нікога не было. Зноў чыркнуў запалкай,

знайшоўшы невялічкую лучынку, запаліў яе, каб грунтоўней даследваць памяшканне.

Мой галодны позірк адразу заўважыў у кутку буфет і паліцу побач з плітой. Але я быў некалькі расчараваны, калі знайшоў там толькі пустую пасуду, соль, цыбулю, бутэльку і мясарубку. Толькі ў куту паліцы была пакінута ад нейкай вячэры пакрытая цвіллю скарынка ад свінога кумпяка. Калі за драцяной агарожай у Нямеччыне я мог есці любую расліну і траву, дык гэтая сабачая скарынка не было горшай і не пагражала майму загартаванаму страўніку. Я не мог утрымаць сліны і без далейшых разважанняў паклаў у рот і пачаў жаваць скарынку. Аказалася, што цвіль зусім не знішчала прыемнага смаку, які мае запечаны свіны кумпяк.

Я больш нічога не знайшоў у кухні. Прышоў у своя халодны пакой і зноў прысеў на лаву. Мяне ахапіла агіднае пачуццё перажытага прыніжэння: я апусціўся настолькі, што еў водкіды, жыў у поўным сэнсе слова сабачым жыццём! Сабака хоць мае права ляжаць у кухні каля агня, а я зайздросціў яму, бо ў мяне не было іншых праў, акрамя есці потайкам сабачую ежу...

Я працягваў свае пошукі і праз некаторы час убачыў дзверы канцылярыі. Быў вельмі здзіўлен і абрадван тым, што дзверы не былі зачынены на ключ.

У мой твар ударыла цёплае паветра, насычанае пахам старой паперы. Пры дапамозе запалак даследваў усе куткі і пераканаўся, што памочніка пісара няма ў пакоі. Гэтыя паны маюць прывычку, пераняутую імі ад сваіх продкаў, спаць на канцылярскіх сталах. Але самае галоўнае заключаецца ў тым, што ў буфеце я знайшоў вялікі кавалак ліворнай кілбасы, буханку белага хлеба і бутэльку гарэлкі. Усё гэта, відаць, было ўласнасцю старшыні камітэта дапамогі ваеннапленным, ці якога-небудзь з яго членаў, і пакідалася на ўсякі непрадбачаны выпадак. Трэ' было спяшацца і таму, адламаўшы кавалак хлеба і напхаўшы кішэні астатнім я не забыў нават заглянуць і ў кошыкі для паперы. Нарэшце ў шуфлядзе шафы, каля печы, я знайшоў цэлых тры рэвальверы з ярлыкамі, якія сведчылі, што гэтая зброя канфіскавана. Адзін з рэвальвераў аказаўся зусім боездольным наганам з пяцьма патронамі. Якім моцным адчуў я сябе пасля гэтай находкі! Я гатоў быў ваяваць з арміямі ўсяго света—так падзейнічала на мяне ў той момант мая ўдача, якая мела ўплыў на далейшыя мае паводзіны.

Рука моцна сціскала халодную ручка нагана. Я раптам выразна адчуў, што няма ў мяне нічога, акрамя гэтага рэвальвера, што няма ў мяне ні маёмасці, ні радні, ні старых сувязяй з таварышамі, бацькаўшчынай, рэлігіяй, якая пагражае грозным словам царкоўных казанняў. І нявесты ў меня больш не было! З усяго гэтага ўнікала толькі тое, што я вольны, а вольным можа быць толькі той, хто нічога не мае. Мне не было чаго губляць, акрамя сваіх ланцугоў, як сказаў вялікі настаўнік, аднак... Мо'

знішчыць свае жыццё, калі яно ёсць прыватная ўласнасць, ці знішчыць прыватных уласнікаў, каб вызваліць уласнасць? Няма патрэбы расказваць аб падрабязнасцях выканання задуманага плана, бо кожны, каму прышлося хоць раз выконваць нешта падобнае, ведае, што ў памяці найбольш яскрава захоўваецца іменна план, а не дэталі выканання... Помню тое, што ўжо світала, калі я праходзіў міма даўгога фасада карчмы, якая была ўласнасцю маёнтка. Праз вокны кухні батрацкага будынка бліішчэў аганёк, а каля стайні нехта хадзіў з ліхтаром, пры дрыжачым святле якога я выразна бачыў чорную дзюрку на белай сцяне. Здарылася так, што чалавек спыніўся і святло з белай сцяны перакінулася на яго твар і постаць. Дзякуючы гэтаму, я пазнаў гэтага чалавека. Успамінаю яшчэ, што ў гэты момант нехта вышаў з хаты і крыкнуў мне: „Гэй", на што я таксама адказаў такім-жа водгукам. Гэта быў работнік, які ішоў запрагаць коней. Дагнаўшы кіраўніка ён зняў шапку і сказаў:

— Добрай раніцы, пане!

— Добрай раніцы, пане!—адразу-ж за ім паўтарыў тры разы мой рэвальвер.

Спачатку разляцеўся на дробныя кавалачкі ліхтар і ў цемры хлюпнула цяжкае, мяккае цела, пасля нехта пабег. Я запаліў запалку, каб пераканацца ў тым, што дасягнуў сваёй мэты: салома была заліта крывёй; з ілба забітага цягнулася ярка-чырвоная істужка, вочы былі амаль што заплюшчаны; грудзі дрыготна уздымаліся...—і больш нічога, так нібы запалка пагасла...

Я кінуў рэвальвер на цела забітага,—бо ў такіх выпадках лепей, каб зброя засталася на месцы, у крыві свайго ўласніка. Зусім спакойна пакрочыў на бераг той самай сажалкі, уздоўж якой ішоў учора, слухаючы плюханне качак. Я зусім абыякава адносіўся да свайго далейшага лёсу. І гэта азначала, што я быў зусім вольным.

Зараз я мог са спакойным сумленнем чакаць паседжання Камітэта дапамогі ваеннапленным.

Ужо зусім развіднела, калі лёгкімі крокамі ішоў па шашы прэч ад таго месца, сам не ведаючы куды. Але я павінен быў ісці, бо не было і не магло быць для мяне іншага месца, акрамя дарогі. Яшчэ раніцоў з'еў кілбасу, а зараз на абед накіраваўся ў прыдарожную сядзібу. Абеда тут я, зразумела, не атрымаў, бо немагчыма-ж карміць кожнага падарожніка, які праходзіць міма. А тое, што на мне была вопратка салдата, ці ваеннапленнага—не мела ніякага значэння: так мог апрануцца кожны валацуга. Тыя, ад якіх я чуў адмову, мелі рацыю: у іх была сядзіба, жывёла, зямля, хлеб, словам—бацькаўшчына. Тут мне прышлося пашкадаваць аб арыстакратычным гэсце, з якім я кінуў рэвальвер, забыўшы на тое, што знаходжуся ў стане вайны з тымі, у каго ёсць бацькаўшчына, супроць якой я цяпер

павінен быў падняць зброю, з дапамогай якой здабываць сабе ежу, як першабытны чалавек—у барацьбе з прыродай і дзікімі зьвярамі.

Аднак мая першабытная свабода аказалася вельмі кароткай: не дайшоўшы яшчэ да наступнага маёнтка, я павінен быў падняць рукі і здацца ўзброенай сіле бацькаўшчыны. Мяне даставілі ў добрачынны камітэт, які завецца валасным праўленнем, і пасадзілі ў цесную цёмную клетку з кратамі на дзьвярах. На падлозе была салома, падобная да той, на якой я ў першы раз адчуў асалоду адпачынку пад страхой эльзаскага фермера. Я ўспомніў словы, якія тады вырваліся ў мяне: толькі не прагналі-б мяне з гэтай цудоўнай саломы! Хутка я атрымаў і некаторае задавальненне: следчым шпегам і юрыстам я ўпэўнена заявіў, што зрабіў злачынства зусім сьвядома, загадзя яго абмеркаваўшы, грунтуючыся на самай лагічнай сувязі прычын і вынікаў.

Няўжо пасля ўсяго гэтага вы можаце сцьвярджаць, што сам я гэты пытальнік „навошта?“, які з'явіўся на сьвет, каб выявіць асноўныя прынцыпы касмічнай логікі, з дапамогай якіх можна спадзявацца дажыць да таго часу, калі будуць парваны ланцугі, скаваныя з ідэі бацькаўшчыны і буржуазнай маралі, якія душаць нас цяпер,—да таго часу, калі кожны, усьвядоміўшы сваю свабоду, зможа зьліцца з вольным чалавецтвам, калі кожны будзе ўсім, таму што нікому нічога належыць не будзе?..

*Скарочаны пераклад з рускай мовы Я. ДОЎГАГА*

---

ЛІНАРД ЛАЙЦЭН

# СТРАХ ПЕРАД СЦЯГАМ

У лагчыне чыгуначны шлях, на ўзгорку—горад; невялікі горад.

Над горадам два ўзвышшы: царкоўная вежа—ніжэй, фабрычная труба—вышэй.

У гарадскім жыцці таксама ёсць два ўзвышшы: левае, ніжэйшае—гарадскі галава, правае, вышэйшае—уласнік гасцініцы.

Мінула вайна, мінула і рэволюцыя; цяпер засталося толькі скарыстаць вынікі вайны і рэволюцыі: нажывацца, есці і піць, узваліўшыся грудзьмі на нажыву, ежу, піццё. Гэтыя высокія якасці маюць усе патрыёты-буржуа без выключэння. Слава пра іх падымалася над далёкімі палямі і ішла да самага мора, да Рыгі.

Уласнік гасцініцы наведваў гарадскога галаву, а гарадскі галава—уласніка гасцініцы. Кіраўніца жаночай лігі гасціла ў аптэкаршы, аптэкарша—у кіраўніцы. Мяснік паважаў булачніка, булачнік—мясніка.

Цудоўнае для іх было жыццё. Рабочым забаранялася гаварыць пра васьмігадзінны рабочы дзень, бо паліцэйскі агент наведваў крымінальнага чыноўніка, а крымінальны чыноўнік—паліцэйскага агента. Жыць было нядрэнна, падтрымліваючы такую цесную сувязь.

Жыць было-б яшчэ лепей, каб заўсёды не трывожны страх. Страх перад рэволюцыяй. Як?! Страх перад рэволюцыяй. Ці-ж не дзякуючы рэволюцыі настала гэта цудоўнае жыццё—дык адкуль жа страх?

І вось тут узнікае адна вельмі важная акалічнасць—непрымірымая супярэчнасць: добра жылося толькі тым, хто захапіў дасягненні рэволюцыі, адабраў іх ад сапраўдных змагароў за рэволюцыю. Яны ведалі, што рабілі.

Так было ў горадзе на ўзгорку, так было і ва ўсіх іншых гарадах.

Цяпер поўгода, як не дыміла фабрычная труба. Былі беспрацоўныя. Але і царкоўная вежа пакуль яшчэ не дымілася. У горадзе было так ціха, што пры з'яўленні калёс на базарнай плошчы, прыехаўшага з вёскі „шэрага барона“ [1]), зараз-жа прыадчыняліся ўсе вокны, здзіўлена выглядвалі абывацелі са сваімі дочкамі: хто гэта там грукоча?

---

[1]) Шэрымі баронамі называюцца ў Латвіі кулакі-фермеры.

Але аднойчы раніцой горад ахапіла страшная цішыня. Ніхто не грукатаў. Не было чутна нават і крокаў на рыначным пляцы.

У кіраўніцы жаночай лігі—несвоечасовыя роды. Аптэкарша дрыжачымі рукамі шукала на паліцах цыяністы калі, каб атруціцца. З рук мясніка выслізнуў вялікі нож і са звонам зваліўся на падлогу. Булачнік застыў з разяўленым ротам, у той час, калі ў печы гарэла ўся яго ранішняя выпечка. Гарадскі галава і ўласнік гасцініцы нібы скрозь зямлю праваліліся.

Няўжо ўсё гэта было прычынай жуткай цішыні? На вяршыне коміна развяваўся чырвоны сцяг! Чырвоны сцяг развяваўся на вяршыне коміна! Не які небудзь сцяг соцыял-дэмакратычнай партыі, а чырвоны сцяг!

Страшней за ўсё і было тое, што гэта быў не соцыял-дэмакратычны сцяг.

Хто-ж будзе пужацца свайго сцяга?

Раніцой быў вецер і чырвоны сцяг радасна·развяваўся насустрач усходзячаму сонцу.

Першым прыбег паліцэйскі агент. Агляну́ўся наўкол: болей нічога не было, як толькі адзін сцяг. У адносінах да сцягаў у паліцэйскага агента была свая жыццёвая практыка: яны нічога не робяць, іх можна нават браць у рукі.

Ён даў сігнал: зняць, пакуль жыхары яшчэ спяць ранішнім сном.

Начальнік паліцыі распарадзіўся:

— Узлезці! Узлезці наверх!

Былы, ужо сівавусы, царскі жандар першы кінуўся на трубу. Але нічога не вышла; толькі падняў ён вочы ўгору, як старая, выслужыўшая пенсію галава, закружылася.

Тады паспрабаваў малады паліцэйскі. Ён ужо пачаў карабкацца, але раздумаў: дома засталася маладая жонка... а што калі там, каля сцяга ёсць пякельная машына: застанецца ён тады без патомства.

Таму ён злез і з нявінным выразам твару заявіў:—Так точна, не магу!

Агент тым часам дапытваў начнога стоража: як не бачыў? чаму не бачыў? як мог не бачыць? Як гэта можна не заўважыць у месячную ноч чалавека, які лезе па коміне.

— Глупства гаворыш!

Допыт быў запісаны ў пратакол.

Пачалі збірацца людзі. Падыходзілі ідучыя на работу рабочыя. Спыняліся. Пазіралі і ўхмыляліся.

Паліцыя нервавалася: ганьба—яны глядзяць і не могуць зняць сцяга. А калі не зняць, дык і жыць нельга.

Мітусіліся, крычалі, а сцяг развяваўся. Ад яго чуліся гукі, падобныя да стрэла. Зрабілася нават страшнавата. Па спіне забегалі мурашкі. Натоўп усё больш і больш павялічваўся. Падыходзілі бліжэй нават і найбольш баязлівыя. Пачуліся разважанні.

— Зваліць разам з комінам.
— Збіць стрэлам.
— А што, калі ў горадзе бальшэвікі?
— Бальшэвікі, бальшэвікі!
— Выклікаць салдат!
— Пажарных...

Калі ўспомнілі пра пажарных, паліцыя ўстрапянулася. Далі сігнал. З грукатам прыкацілі ў касках пажарнікі і горда выстраіліся камандай.

Але лесніца аказалася надта кароткай, нават да паловы коміна не хапала.

Самы смелы пажарнік пачаў карабкацца, хапаючыся за жалезныя перакладзіны. Лез доўга, асцярожна:

— Смялей, смялей!—падганяў брандмайер.
— Поўбутэлькі і вячэру!
— Тузін піва!—выгукнуў уласнік гасцініцы, праціскаючыся праз натоўп жанчын. Абяцанні ўзрасталі. Абяцалі грошы, павышэнне па службе, узнагароду ордэнам.

Нарэшце ён дабраўся. Уважліва памацаў наўкол рукамі: мо' сапраўды на коміне ўстаноўлена пякельная машына? Адвязаў шнур, якім было прывязана дрэўка сцяга да жалезнага абруча і, узяўшы дрэўка ў зубы, пачаў спускацца ўніз.

Уласнік гасцініцы і мяснік адразу ажылі і з хваляваннем паціскалі адзін другому рукі.

— Я-ж табе адразу казаў, што зняць гэтую анучу зусім не цяжкая справа!

У яго калыхаўся жывот і бліщчэлі вузкія вочы, калі ён, цяжка дыхаючы, гладзіў свае вусы.

Калі пажарнік спусціўся ўніз, мяснік урачыста заявіў:
— Герой, герой! Лачплесіс![1])

Паліцыя аглядвала сцяг і перадавала яго з рук у рукі. Пасля напісалі пратакол, у якім адзначылі даўжыню, шырыню і колер сцяга. Сцяг пакінулі пры справе. Справу разам з рапартам праз спецыяльнага кур'ера адаслалі ў Рыгу—вышэйшаму начальству,

Але людзі... людзі яшчэ доўга не разыходзіліся. Яны стаялі на вуліцы і глядзелі на верх коміна. Ці не з'явіцца там новы сцяг? Гэта было зусім магчыма. Калі ніхто не бачыў, як з'явіўся першы сцяг, дык чаму не можа раптам на тым месцы з'явіцца новы? Чакалі сцяга з большым страхам, чым на яго глядзелі.

Пад вечар, калі сонца схілілася на захад, страх узмацніўся. Што будзе ўначы?!

Уласнік гасцініцы дрыжаў пры кожным званку.

Нарэшце не вытрымаў і пазваніў па тэлефоне:
— Узмацніць паліцыю!
— Няма рэзерваў.

---

[1]) Лачплесіс—легендарны герой латышскага народнага эпаса.

— Выслаць войска для абароны горада!

— Няма рэзерваў.

А што, калі раніцой зноў з'явіцца сцяг?

На світанні зноў прыбеглі людзі паглядзець на комін. Мяснік заявіў, што ўласнымі вачыма бачыў на коміне новы сцяг. Аптэкарша цэлы дзень не адводзіла вачэй ад вакна, якое выходзіла на фабрыку. Поп вышаў з крыжам супакоіць і падбадзёрыць народ. Сцяг, чырвоны сцяг быў і застаўся ў горадзе. Было заснавана таварыства садзейнічання зняццю чырвонага сцяга. Яны асвяцілі свой сцяг, загналі ў дрэўка дваццаць пяць залатых цвікоў і панеслі праз горад з музыкай і з біскупам на чале.

Нічога...

Нарэшце звалілі вялікі комін.

Нічога.

Страх не праходзіў.

І не пройдзе.

Бо яны ведалі, што рабілі.

*З латышскай мовы*
*пераклаў ЯН ДОЎГІ.*

Ал. КУЧАР

# ПАСЛЯКАСТРЫЧНІЦКАЯ ТВОРЧАСЦЬ ЗМІТРАКА БЯДУЛІ

Змітрок Бядуля сустрэў Кастрычніцкую рэволюцыю з варожых нацыяналістычных пазіцый. Гэта і зразумела, калі прыгадаць, што і да рэволюцыі ён быў выразнікам буржуазна-нацыяналістычнае ідэалогіі. Ідэя „адзіна-нацыянальнай“ бацькаўшчыны, нашаніўская буржуазна-кулацкая тэорыя адзінства беларускага народа—знайшлі выразнае адлюстраванне ў творчасці пісьменніка. Гэтае ідэалагічнае „крэдо“ ў творчасці Змітрака Бядулі афарбавана і апранута ў вопратку містыкі і сімвалізма. Зборнік імпрэсій „Абразкі“, які вышаў далёка да Кастрычніцкае рэволюцыі, поўны містычнага жаху перад жыццём. Самыя назвы імпрэсій характарызуюць іх сэнс: „Нуда мая“, „Плач пралесак“, „Прытуліся ка мне“. „Прытуліся ка мне, дзяўчынка каханая, бо сонейка заходзіць, бо цені гусцеюць каля млына, над возерам устае, быццам белая воўна, пахучы туман“.

„А мо‘ і праўда, што ў розных там замчышчах крыштальных ваююць паміж сабою рыцары дня і рыцары ночы.

„А мо‘ і праўда, што на пурпурных хмарках ручайкамі льецца чырвоная кроў.

„А мо‘ і праўда, што ў цёмнай хмызе русалкі з доўгімі валасамі пяюць цяпер песні захада? Нешта казачнае бачу я ў багатых колерах неба...

„У гэты самы час тку я са смутку свайго карону для шаўковых валасоў тваіх. Здаецца, нашуся з сабою куды-та далёка за рэчкай, за хмызняком“.

У творчасці Змітрака Бядулі жыццё, прырода выступаюць напоўненымі таемнымі казачнымі жахамі, рэчаіснасць ёсць бессэнсоўная, якую мы не толькі не можам пазнаць, але ад якой павінны ўцякаць, як ад нечага страшнага. Чалавек не толькі не здольны змагацца, перамагаць, перабудоўваць жыццё, а наадварот, душа яго самога, чалавека, загачана брудам, і таму яго роля і прызначэнне не перабудоўваць свет, а „ачышчаць сваю душу ад бруду“.

„Як дзяцел асіну дзяўбець, так мае кволыя грудзі напоўнены горам. Ці такі праўда, што душа мая загачана, нібы заваліўшаяся студня? Ці такі праўда, што светлая новая крынічка не знойдзецца ўжо для мяне?“

Ідэя ўцякання ад рэчаіснасці ў таемны свет мар і фантазій кладзе свой адлюстровак на ўсе аб'екты творчасці пісьменніка. Навакольнае жыццё, рэчы, з'явы прымаюць адпаведны выгляд кволасці, лёгкасці,—нібы яны сабраліся разам з пісьменнікам „адляцець" у ўяўны „надземны свет". Для прыкладу можна ўзяць імпрэсію са зборніка „Абразкі"—„Ля вапеннай гары". Там рабочыя капаюць вапну, цяжкія каменні. І вось ва ўяўленні Бядулі гэтыя цяжкія каменні, якія падкідваюць рабочыя, здаюцца лёгкімі „пярынкамі", што гатовы ўзняцца і паляцець. Так свой светапогляд Змітрок Бядуля пераносіць на ўсе з'явы і ідэі.

Уяўнае ўцяканне ў надземны свет асабліва яскрава выяўляецца ў творчасці пісьменніка за час вайны. Успрыймаючы соцыяльныя з'явы, як вынік нейкай надземнай існасці, Бядуля бяссільны зразумець іх, бяссільны супроцьставіцца ім. Ён даходзіць да своеасаблівае агоніі; характэрным у гэтых адносінах з'яўляецца верш „Шатан смерці".

Стоячы на пазіцыях буржуазнага нацыяналізма, спалучаючы нацыяналізм з ідэалізмам, містыкай, папоўшчынай, Змітрок Бядуля натуральна сустрэў варожа надыход Кастрычніцкае рэволюцыі. Між іншага, гэта былі пазіцыі характэрныя не толькі для аднаго Бядулі. Буржуазна-нацыяналістычная беларуская інтэлігенцыя ўся так сустрэла Кастрычніцкую рэволюцыю. Гэтая буржуазная і прадажніцкая інтэлігенцыя, якая праз „Нашу Ніву" абвяшчала, што яна аднолькава шчыра будзе служыць і „мужыку і пану", якая падтрымлівала сталыпіншчыну, кулацтва,—бачыла ў Кастрычніцкай рэволюцыі свайго ворага і аб'ядналася вакол белагвардзейскіх і інтэрвенцкіх „урадаў" на змаганне супроць дыктатуры пролетарыята. Беларуская нацыяналістычная, кулацкая інтэлігенцыя, якая марыла пра сваю „самастойнасць", „незалежнасць", аб'яднала вакол сябе ўсе найбольш прадажныя і здрадніцкія элементы, каб непасрэдна і зброяй, і праз друк весці змаганне супроць пролетарскае рэволюцыі.

У Змітрака Бядулі на гэтым этапе містыка, пасівізм, якія панавалі ў ранейшай творчасці, уступаюць месца канкрэтнасці, актывізму. Мастацтва як „хараство", якому раней пакланяўся Бядуля, уяўляецца цяпер яму вострым мячом для барацьбы супроць пролетарскае рэволюцыі, за інтарэсы буржуазіі. Возьмем яго верш „Тры сцежкі" (надрукаваны ў „Вольнай Беларусі"). У гэтым вершы Бядуля раскрывае для беларускага селяніна тры сцежкі:

„Адна—на захад—да Варшавы.
Другая на усход—да Масквы.
А трэцяя...
... далёка, да самага сонца".

Бядуля заклікае свайго „селяніна" ісці ўласнай сцежкай і сцерагчыся сцежкі, якая вядзе да Масквы, бо яна, Масква:

Грубай, галоснай лаянкай кліча.
Кулак яе сціснуты, біцца гатова.
Ганяе ўсіх пад цар-звон на паклон.

Гэта пісалася праз паўтара месяцы пасля таго, як рабочы клас, сумесна з рэволюцыйным сялянствам, выгнаў капіталістаў і памешчыкаў. У той-жа час Бядуля піша мастацкія фельетоны, у якіх паказвае пролетарскую рэволюцыю ў вобразе „Сваволі“: „Гарбатая, з доўгім сінім носам, з чырвонымі вачыма, з доўгімі касцістымі рукамі, з пазурамі войстрымі на пальцах... у гідкіх анучах“.

Пролетарскую рэволюцыю Бядуля малюе ў вобразе „пекла“, гераічны рабочы клас—у вобразе „чэрцей“, „гарачай хеўры“, якая, убачыўшы чалавека ў чыстых людскіх вопратках, крычыць на яго: „буржуй!“ і „раздзірае яго на кавалкі“.

І 1918 годзе Змітрок Бядуля рабочы клас і большэвіцкую партыю абзывае „чырвонымі рыцарамі ў соцыялістычных забралах дзеля блізіру“, а на самай справе „мо' быўшымі ўгалоўнымі праступнікамі ці ворадзінікамі“.

Бядуля ў спецыяльным артыкуле (газета „Вольная Беларусь“) бярэ на сябе місію памірыць буржуазію з пролетарыятам, сялянствам. Ён „растлумачвае“ сялянам і рабочым, што тагочасныя іх эксплаататары і прыгнятальнікі—гэта іх сыны і браты, якія вышлі з „цёмнага і працавітага народу ў людзі“, і што паміж імі—рабочымі сялянамі і іх „сынамі“—буржуазіяй і памешчыкамі і буржуазнай інтэлігенцыяй—не трэба ставіць сцяны нянавісці, як гэта робяць, ненавісныя тады Бядулю, большэвікі. Бядуля спадзяецца, што гэта сцяна нявавісці хутка рухне і разваліцца. Артыкул „Народ і інтэлігенцыя“ канчаецца абвінавачваннем рэволюцыі за тое, што яны „разбурае“,—па словах Бядулі,—„бярэ, рабуе дабро“. Большэвікі абвінавачваюцца ў смяротным граху: „яны разбілі народ на дзве часткі: на „таварышоў“ і „буржуяў“.

З 1917 году аж да 1922 г. Змітрок Бядуля сваю актыўную барацьбу супроць пролетарскае рэволюцыі вядзе з лагера буржуазнай нацыяналістычнай контррэволюцыі. Ён супрацоўнічае ў буржуазна-нацыяналістычных газетах „Вольная Беларусь,“ „Звон“ і інш. Цэлы шэраг твораў Змітрака Бядулі ў той перыяд напісаны на рэлігійныя матывы і тэмы. Вялікай сілай пашаны да рэлігіі гучыць яго верш „Хрыстос васкрос“, надрукаваны ў „Вольнай Беларусі“.

Пасля канчатковае перамогі пролетарскае рэволюцыі на франтах грамадзянскай вайны, пасля таго, як рабочыя і сяляне ачысцілі Беларусь ад нямецкай і белапольскай акупацыі, Змітрок Бядуля, застаючыся на пазіцыях буржуазнага нацыяналізма, пачынае іншымі метадамі і спосабамі папулярызаваць свае погляды і настроі.

У краіне, разбуранай імперыялістычнай і грамадзянскай вайной, франтамі і акупацыямі, пачынае аднаўляцца, адбудоўвацца народная гаспадарка. Пускаюцца ў ход фабрыкі і заводы, аднаўляецца разбураная сельская гаспадарка. Пачынаецца нябачны ў гісторыі рост культурнага ўзроўню працоўных.

Уводзіцца новая эканамічная палітыка, якая дала некаторую мажлівасць для роста і ажыўлення капіталістычных элементаў у горадзе і ў вёсцы.

Буржуазныя нацыяналісты, у тым ліку і Змітрок Бядуля, зразумелі ўвядзенне новай эканамічнай палітыкі, як перараджэнне рэволюцыі і такім чынам пачалі працягваць у літаратурнай творчасці і ў сваёй дзейнасці старыя нацыяналістычныя погляды і настроі. 1921-22 г. г.—асабліва плённыя ў творчай дзейнасці Змітрака Бядулі. У гэтыя гады ім створана, бадай цалкам, кніга „Пад родным небам“, „На зачарованых гонях“, цэлы шэраг іншых паэм і навел.

Нацыяналістычная рамантыка ў Змітрака Бядулі на гэтым этапе мае як і раней форму містычнасці. Пісьменнік увесь у палоне мінуўшчыны. Праўда, і сучасны яму лад ён разглядае, як лад, які „адраджае“ старое. У паэме „Беларусь“ ён стварае зусім выключны рамантычны арэол вакол „мінуўшчыны“ Беларусі. У рэлігійным экстазе ён запэўняе, што сам „госпад бог хадзіў па беларускай зямліцы“. І ў госпада бога яна, „беларуская зямліца“ з'яўляецца самай выбранай і лепшай:

Сам Госпад-Бог хадзіў тут па зямліцы,
Усюль зіхцяць—відаць яго сляды.
Па тых слядох красуюцца капліцы,
Па тых слядох брыдуць у даль Дзяды.

Беларусь ва ўяўленні Бядулі—гэта містычны і таемны край:

Тут кожны крок абвеян казкай сівай,
Што ручаёк—жалосных спеваў жмут,
Шурпаты цень на лузе ці на ніве—
Нязнаны дух або таемны цуд.

Такім чынам цяга да містычнага ператварэння рэчаіснасці ў Бядулі настолькі вялікая, што нават ручаёк, або крок, або цень на лузе ці на ніве—гэта ўсё „нязнаны дух або таемны цуд“.

Пролетарская рэволюцыя, яе пераможны ход, нічога радаснага не абяцае буржуазнаму нацыяналісту Бядулю—таму ўсе свае надзеі ён пакладае на царска-феадальную мінуўшчыну Беларусі. Яму таму і сняцца „адвечныя скрыжалі роднае зямлі“, якія „хаваюць нашы скарбы, носяцца над краем“. Ён трызніць пра гуслі, якія яму пакінуў „баянаў сын“ і якія ён атрымаў у спадчыну праз восем стагоддзяў. Яшчэ „адна кветка“ трызніцца яму, гэта „Скарына, які з'явіўся пад сонцам полацкіх капліц“. Трызніць ён і пра „Літоўскі статут“ пад замкам Гедэміна“.

Усе вершы і вобразы вершаў абвеяны выключна-рэакцыйнымі дачыненнямі да рэчаіснасці, папоўшчынай, містыкай, рэлігійнасцю. Бядуля стварае рэлігійна-рамантычны культ мінуўшыны. У гэтым сэнсе можна ўпэўнена сказаць, што кніга „Пад родным небам“ з'яўляецца наскрозь рэакцыйнай і варожай нам кнігай.

Нават, так званая прырода-апісальная лірыка Бядулі, якая нацдэмаўскімі контррэволюцыйнымі крытыкамі тыпа Чаржынскага лічылася „пазбаўленай ідэалогіі“, і яна прасякнута рэлігійнай рамантыкай, ідэалізацыяй мінулага феадальнага Беларусі.

От узор такога „прырода-апісальнага“ верша „На прадвесні“. Ён пачынаецца з сакавіка, з малюнка цёмнага бору, але гэта толькі ў першай страфе. У другой-жа Змітрок Бядуля піша:

Крактаў лядок—па ім ішоў Ярыла ціха,
На зімніку старым ляглі яго сляды.
Над ім лунаў прамень агнёвою арліхай,
За ім ішлі-брылі прыслужнікі Дзяды.

І гэтак бадай усе вобразы кожнага верша поўны рэлігійнай міфалогіі і містычнасці. Цікава прасачыць параўнанні, метафары, увасабленні. Нават вобраз да навальніцы узяты з рэлігійнага арсенала:

Заводзіць сваё аллялюйя
Нязнанае ціхае зроду.
. . . . . . . . . . . . . .
Агнёвымі сыпле снапамі
І свету прыносіць загубу.

Культ русалак, ведзьмаў, лясуноў пануе ў абсалютнай большасці вершаў гэтага зборніка. Русалка, уся яе прывабнасць абяцае паэту такую „рамантычна-містычную асалоду“:

Дзень за днём, дзень за днём рыне ў шлях,
Ночка пойдзе імглістай хадзьбою;
Зажалобіцца жудасны страх,
Будзе крыжам вісець над табою.

Для выяўлення ідэалагічнага і класавага твару Змітрака Бядулі таго перыяда вельмі характэрнай з'яўляецца паэма „Зачараваны край“, напісаная пісьменнікам у 1922 г. Гэтая паэма на „самабытна“-беларускім матэрыяле палескае міфалогіі уваскрашае, па сутнасці, рэлігійныя біблейскія казкі пра тое, як бог стварыў свет. Трухляцінай і мастацкім убоствам вее ад гэтых доўгіх і нудных апісанняў „творчых“ мажлівасцяй „пана бога“ і яго памочнікаў:

Быў нямы Божы свет, нібы камень-скала,
Быў нямы даль-абшар над вадою;
Цішыня, як мара, вандравала, плыла,
Шлі гады так, капа за капою.
Ў алтарных палёх Бог на небе сядзеў,
Галубіную кнігу чытаў ён.
З глыбі вод у гару злы нячысцік глядзеў
І змяіную кнігу трымаў ён.

Аднак ідэйна ў нацыяналістычным багажы Змітрака Бядулі гэтая паэма мела важнае значэнне. Досыць прыгадаць, што яна

была напісана за некалькі год да таго, калі сатырык К. Крапіва напісаў такую выдатную і простую сатыру на біблію. Крапівова сатыра адносіцца такім чынам і да нова-яўленае „самабытнае“ беларускае бібліі Бядулі на матэрыяле палескае кулацкае міфалогіі. З'яўленне „Зачарованага краю“ ставіла ў тупік нават нацдэмаўскую крытыку, да таго відавочна была рэлігійна-містычная сутнасць гэтага твора. Нездарма Чаржынскі пробаваў ратаваць твор тым, што ў ім, бачыце, „ёсць элемент народнай іроніі“, і гэта нібыта „звязвае паэму з нашай сучаснасцю“. Трэба сказаць, што іронія, калі яна нават і ёсць у некаторых частках паэмы, дык яна далей іроніі над дурным палешуком і паганым чортам не ідзе, „святы бог“ застаецца ў старане. Не даводзіцца гаварыць тут пра нахабнае сцвярджэнне Чаржынскага, што паэма звязана з сучаснасцю.

Змітрок Бядуля ў гэты перыяд імкнецца „бесстаронне“ паказаць старога дзеда з паэмы „На хутары“, а па сутнасці ідэалізуе яго. У гэтай паэме Бядуля, акрамя таго, што ідэалізуе хутарскую гаспадарку, разам са старым дзедам, ён *выступае* яшчэ за старыя формы жыцця, супроць машыны і супроць новае культуры.

Аднак усё тое, што намі разгледжана, з'яўляецца толькі састаўнымі часткамі тае асноўнае ідэі, тых асноўных прынцыпаў, якія праводзіць на гэтым этапе сваёй творчасці Змітрок Бядуля.

Гэтыя асноўныя ідэі і прынцыпы з'яўляюцца прынцыпамі буржуазнага нацыяналізма. Бядулю трэба давесці, што беларускі народ нібыта мае нейкую „сваю“ „асаблівую“ гісторыю, не звязаную з гісторыяй іншых народаў і краін. І даводзіць ён пачынае аж ад стварэння на аснове народнай кулацкай міфалогіі арыгінальнае „беларускае бібліі“. Яму трэба давесці, што беларускі народ мае нібыта такія скарбы, якіх не маюць іншыя народы, што беларускія сяляне не любяць нібыта тэхнікі, а любяць старасветчыну і інш. У гэтых доказах ён так далёка заходзіць, што ўкладае ў вусны селяніна абсалютна фальшывыя словы, пра тое, што ў старыя часы, у часы прыгону, людзі хоць без яды, але сыцелі з працы. Вось што кажа селянін:

Неяк людзі былі трывалейшыя,
Здаравеў аж ад працы народ;
А я быў такі многа здальнейшы,
То даўненька, таму ўжо шмат год.
Гарапашнік сыцеў тады з працы.
Яшчэ ямчэй, як ад сала амаль;
Аслабеў наш мужык, трэ' прызнацца
З тых часоў, як убраўся ў паркаль.

Трэба яму давесці, што беларускі селянін, які „любіць“ старасветчыну, не любіць, нібыта, усяго небеларускага і, асабліва,

маскоўскага, і праз вусны старога аўтар нападае на ўсё рускае, якое „апаганьвае“ Беларусь:

А цяпер то гармошка-паскуда
Сваёй полькай даводзіць да слёз,
Скуль з'явілася гэта заблуда.
Ну й гасцінец маскаль нам прынёс.

Усе гэтыя фальшывыя аргументы разам з самабытнай русалкай, лясуном і містыкай, Бядулю патрэбны на тое, каб апраўдаць нацдэмаўскую контррэвалюцыйную тэорыю, што і пасля рэвалюцыі ў Беларусі ішло „адраджэнне“ буржуазна-памешчыцкае Беларусі. І Бядуля піша пра гэта даволі проста і адкрыта ў паэме «Баларусь»:

І край магіл, той край, дзе жыў Скарына,
Зноў парадзіў прарокаў і байцоў:
Ідуць-брыдуць, бы Нёман з месца рынуў,
Бы грамада узброеных касцоў.

Такім чынам надзеі на „адраджэнне“ буржуазна-памешчыцкай Беларусі Бядуля ўскладвае на нацыяналістычную інтэлігенцыю, гэтых „прарокаў“ і „скарынавых сыноў“, якія павінны край „адрадзіць“ і „адраджаюць“ яго:

Васкрослі зноў багі сівых калядаў,
Ратай ім спеў кідае на агонь.

Так Змітрок Бядуля з буржуазна-нацыяналістычных пазіцый марыў пра адраджэнне буржуазнае Беларусі пасля замацавання Кастрычніцкае рэвалюцыі. Ён выступаў тады з адкрыта-контррэвалюцыйнымі лозунгамі і заклікаў не арыентавацца на савецкі ўсход, ён прарочыў гэтай сваёй буржуазнай Беларусі:

Сама, сама адзначыш свае межы,
Без дапамог няпрошаных дзядзькоў
Ты забярэш, што да цябе належыць,
Маць-Беларусь, спакон глухіх вякоў.

Не збыліся прароцтвы нацыяналістычнай контррэвалюцыйнай інтэлігенцыі. Воляй рабочых і працоўнага сялянства Саюза рэспублік, воляй ленінскай партыі інакшы шлях і інакшыя мэты былі вызначаны Савецкай Беларусі—шлях сацыялістычнага будаўніцтва, а мэта—пабудова сацыялізма.

Поспехі савецкай сістэмы дзяржаўнага ладу і гаспадаркі не маглі, зразумела, не быць заўважанымі Змітраком Бядулем. Гэтак сама, як пісьменнік не мог не заўважыць тыя вялікія змены, якія адбыліся за час Кастрычніцкай рэвалюцыі як у горадзе, так і на вёсцы,—не мог ён не заўважыць рэвалюцыйнага энтузіязма сярод працоўных мас як у змаганні з знадворнымі ворагамі і акупантамі, так і ў мірным будаўніцтве па аднаўленні народнай гаспадаркі, у будаўніцтве культуры.

Некаторыя дэталі гэтых падзей адлюстраваны Зьмітраком Бядулем як у рэалістычных апавяданнях з зборніку „На зачарованых гонях“, так і ў вершах і паэмах „Чырвона-чорная жалоба“, „З сказаў буры і віхораў“ і „Чырвоны каляндар“. Але гэтыя творы, бадай, нічога не мяняюць у нацыяналістычных поглядах аўтара, а толькі паказваюць, што тыя грандыёзныя падзеі, якія адбыліся ў краіне, не маглі не знайсці свайго хоць і частковага адлюстравання ў творчасці пісьменніка.

Мы ўжо гаварылі вышэй, што нацыяналістычныя і містычныя ідэі з кнігі „Пад родным небам“ Зьмітрака Бядулі апрануты ў рамантычнае адзенне. Рамантычнае і незвычайнае захапляе Бядулю і ў рэволюцыйным змаганні пролетарыята і сялянства супроць сваіх ворагаў. Разгорнутая імпрэсія „На зачарованых гонях“ цалкам звязана з сімвалічнасцю мінулае творчасці пісьменніка. У ёй—усё таямнічае і незвычайнае, у ёй усё гіпербалічнае і незвычайнае. „На зачарованых гонях“—гэта апавяданні пра тое, як на „пакутныя“ і „паднявольныя“ „зачарованыя гоні“ прышла „воля“. Прычым, сімвалічнае тут усё: ад зместу да мастацкіх вобразаў, пейзажаў і параўнанняў. Выключнае, анемістычнае адухатварэнне прыроды. Вось, напрыклад, пейзажны малюнак:

„На зачарованых гонях,—піша Бядуля,—нібы тры адвечныя вартаўніцы, шушукалася тройца зграбных стромкіх хвоек. Нібы карагодніцы, якія во-во пусцяцца ў скокі, хвойкі рухалі зялёнымі, пругкімі рукамі-лапкамі. Смаглай жывой звярынаю з дрэва і залеза саха ўядалася глыбока ў глебу“.

Зьмітрок Бядуля стварае жахлівы вобраз гэтага „зачарованага краю“, дзе стогн і гора, дзе пан здзекуецца бязлітасна над селянінам,—голага закапвае яго ў муравейнік, дзе ўся зямля прапітана і крывёю і пакутай. Але і тут вобразы Зьмітрака Бядулі застаюцца ў вялікай часці вобразамі яго твораў з кнігі „Пад родным небам“. Вось прыклад рамантычнае гіпербалічнасці, характэрнай для мінулай творчасці Бядулі:

„Гарачы кісель льецца з высотаў уніз. Сонцаварны дзень. Зачарованыя гоні во-во растопяцца ад гарачыні, як сала на патэльні“, або:

„Чорнай дзяругай вісіць вясенняя ноч над зямлёю.“

Асноўным-жа з'яўляецца тое, што Зьмітрок Бядуля ў гэтым творы бачыць Кастрычніцкую рэволюцыю толькі, як збаўцу селяніна ад памешчыцкага і феадальнага ўціску, а не як рэволюцыю, якая скінула прыгнёт памешчыкаў, капіталістаў і кулакоў.

Усе вобразы твора носяць характэрны адбітак сантыментальнасці, містычнай кволасці. З усяе кнігі твор „На зачарованых гонях“ найбольш кампазіцыйна раскіданы і не пераканальны, на ім ёсць адбітак рытарычнасці вершаў Зьмітрака Бядулі перыяда „Буралома“.

Калі раней Бядулю захаплялі казачныя і містычныя сілы прыроды і ён у экстазе кідаўся ў містыку, канцэнтраваў на ёй сваю творчую увагу, дык у зборніку „На зачарованых гонях“ ён канцэнтруе сваю ўвагу на руйнуючым баку рэволюцыі. Рэволюцыю Бядуля прызнае ўжо фактам, але ён паказвае яе толькі як стыхію ў змаганні супроць памешчыкаў. Змаганне сялянства супроць паноў яго цікавіць толькі як разбурэнне старога „памешчыцкага“. Гэта мы бачым у імпрэсіі „На зачарованых гонях“ і асабліва—яскрава ў апавяданні „Панскі дух“. Пісьменнік паказвае, як анархічная сялянская стыхія разбурае маёнтак, паліць маемасць, знішчае нават кнігі. Бядуля паказвае як на крыкі некаторых герояў апавядання:

„Кнігі, кнігі возьмем, дзяцей па іх вучыць будзем“—адказваюць:

„Не трэба нам панскіх кніг... там панскі дух... там сам д'ябал сядзіць. Усё агнем пусцім, каб пылу і пораху не засталося.“

Будаўнічага, творчага боку рэволюцыі Бядуля, пакуль што, не бачыць і не хоча бачыць. Рамантычная ўзнёсласць прымушае Бядулю захапляцца малюнкам расправы рэволюцыйных сялян у апавяданні „На балоце“ над здраднікам і панскім прыслужнікам Бавельчыкам.

Тут трэба проста адзначыць, што апавяданне „На балоце“ адно з нямногіх апавяданняў Бядулі гэтага перыяда, дзе паказан момант рэволюцыйнага змагання супроць польскіх акупантаў. У ім шчырая нянавісць аўтара да панскіх прыслужнікаў і сімпатыя да партызанаў. З боку кампазіцыйнае будовы гэты твор насычаны дынамічнасцю, багаццем фактаў і падзей, патрэбнай інтрыгай. Аднак і ў гэтым творы жыве сімвалічная вобразнасць мінулае творчасці Змітрака Бядулі. Вось пейзажны вобраз:

„Пад кожным пнём, ля кожнага карча туліліся старадаўнія казкі аб лясунах і русалках. У лесе яны здаваліся праўдзівымі. Нібы во-во яны тут былі, толькі з прыходам сюды людзей і жывёлін яны схаваліся па далёкіх кутках гушчару, перакінуліся ў птушак, у вілаватыя пнішчы. Вось нядаўна яны разгульвалі ў хмельна-пахкім багуне, качаліся ў пухкіх коўдрах моху“...

Ці-ж гэтае сімвалічнае ператварэнне рэчаіснасці ў пейзажы не ёсць нацыяналістычнае абагатварэнне „самабытнае“ прыроды, ці-ж яно не ёсць працягам тых вобразаў, якія ёсць у Змітрака Бядулі ў кнізе „Пад родным небам“.

Ставячы вышэй усяго рамантычны подвіг, Бядуля з любоўю стварае вобраз непакорнага і мужнага селяніна Лявона ў апавяданні „Дванаццацігоднікі“, які не захацеў пакінуць зямлі, з якой ён зросся, і адпомсціў за сваю асабістую крыўду, за забраную ў яго панам зямлю. Пры тым, Бядуля, як і дзед Лявон, шчыра верыць, што гэтая багатая „кутніцкая“ вёска Такароўшчына была-б шчаслівай у пана, каб адно пан быў больш літасцівы. Пісьменнік нават ідэалізуе ўзаемаадносіны паміж мужыком і панам, паказваючы на прыкладзе Такароўшчыны, што пры добрых панах сяляне могуць быць багатымі і шчаслівымі. Усё

гэта вынікала ў Змітрака Бядулі з захаплення хутарской, кулацкай гаспадаркай.

Бядуля заўсёды быў вялікім майстрам навелы. І трэба сказаць, што на высокім мастацкім узроўні знаходзяцца многія яго навелы з зборніка „На зачарованых гонях". Яны вылучаюцца ясным сюжэтам, дынамічнасцю і багатымі падзеямі, арыгінальнасцю ў распрацоўцы тэмы. Частка празаічных твораў Змітрака Бядулі напісана ў рэалістычным стылі, і гэтыя творы праўдзіва адлюстроўваюць ці асобныя моманты прыгнёту ў дарэволюцыйнай вёсцы, або асобныя дэталі пафасу змагання ў совецкі час.

Пераможны рост соцыялістычнага будаўніцтва зрабіў некаторы уплыў на ідэёвую пераробку пісьменніка, і вось у 1923—24 г. ён прабуе ў творчасці часткова адыйсці ад буржуазнага нацыяналізма. Другая справа, што ён гэтага не мог не толькі т а д ы зрабіць, а і далёка пазней. Пад уплывам перамог нашае рэволюцыі Змітрок Бядуля прабуе пісаць цэлы шэраг новых вершаў, аднак з тае прычыны, што аўтар не парваў з пазіцыямі буржуазнага нацыяналізма,—вершы гэтыя рытарычныя, дробязныя, з налётам лефаўскае фразеалагічнае паэзіі. Возьмем, напрыклад, новую рэдакцыю паэмы „Беларусь". Нават у новай „Беларусі", напісанай у 1923 г., „адраджэнцам" беларускага народу Бядуля па нацыяналістычнаму выстаўляе нейкага „надкласавага" „песняра і вяшчуна народнага".

З вямой тугі, з глухой недагаворкі
Гуслярскіх струн будзіўся наш ратай.
У ночны час паэт глядзеў на зорку,
Вучыў любіць ён вукрадкам свой край.
Аднак народ пяўца свайго уцаміў—

канчае Бядуля.

Чамусьці „Беларусь" і ў гэтай паэме разглядаецца як адзіная бяскласавая нацыя, якая складаецца выключна з „мазаля". Старая сістэма вобразаў цягне пісьменніка да вершаў перыяда „Пад родным небам". Нейкі „казачны" герой устае на вызваленне Беларусі, прычым неарганічнасць гэтае ўяўнае перабудовы Бядулі відаць з таго, што ён механічна пролетарскія перамогі падстаўляе пад тыя рэлігійныя вераванні, пра якія ён у першым зборніку вершаў гаварыў з вялікай пашанай:

Замест Каляд, Акцябр адзначыў эру.
Сусветны май наш пролетарскі фэст.
Замест „святой" часоў паганскай веры
Здабылі мы комуны маніфэст.

Старыя біблейскія вобразы катуюць пісьменніка, яны проста праследуюць яго. І вось у паэме пра смерць В. І. Леніна „Чырвона-чорная жалоба" ўжыты такія параўнанні, якія не толькі не характарызуюць Леніна, а заплямліваюць вобраз Ільіча:

Кожны край па-свойму веліч яго ставіць:

Ленін—Канфуцы,
Ленін—Буда,
Ленін—Майсей,
Ленін—Хрыстос,
Ленін—Магамет,
Ленін—Напалеон,
Ленін—Бісмарк,
Ленін—Вашынгтон і т. д.

Зразумела, што гэта не толькі няправільны паказ сутнасці правадыра прыгнечаных свету, а паклёп на яго.

Паэма „з сказаў буры і віхуры"—рытарычная, у ёй зноў-жа ўжыты зусім ненатуральныя, у параўнанні з тэмай і матэрыялам паэмы, казачныя параўнанні. Вось што піша Бядуля:

Нахлынула, нарынула на веча-сход
Сторукае, стоногае
Няведамае племя.
І раптам—анямела, ацвярдзела,
Мохам абсцілалася.
Смалою абурштынілася.
Засталася на векі вечныя стаяць.
У пушчу-лес,
У лес з ваўкамі, ягадамі і грыбамі,
Казкамі дзядоў.
З труканнем берастовай трубы
Дзівацкіх пастухоў,
А мо' не лес –
Коміны падземных фабрыкаў.
Вылезлі як дождж уверх з глыбі
Пячэр агнёвых, з падзямелля,
Свішчуць, свішчуць.

Гэта напісана пра партызанскае змаганне на Беларусі. Напісана ў сімвалічных фарбах і з традыцыйным, улюбёным нацыяналістамі дзедам, які апавядае казкі пра „беларускіх волатаў". Акрамя таго вобразы партызан у гэтым творы апаганены вобразам прастытуткі Марыны, якая ніякага дачынення да паэмы на гэтую тэму не можа мець.

Выключная абстрактнасць, рытарычнасць, жанглёрства словам характарызуюць паэму. Вось як паказваецца горад:

Казка з каменя і сталі,
Горад у зморшчынах глыбокіх, гулкіх вуліц,
У павуціне дротаў, у рогаце машын
У маланках агнявіцах-электрычнасці
У хмельных скоках самаходаў і трамваяў—
Нервова п'яны і вар'яцкі горад кіпеў жыццём.

Уся штучнасць, якая відаць ва ўсіх творах таго перыяда, пры захаванні ўсяго арганічнага, старога, нацыяналістычнага вобразнага матэрыяла,—гаворыць пра тое, што Змітрок Бядуля

і на гэтым этапе заставаўся на пазіцыях буржуазнага нацыяналізма. Ці-ж не характэрна, што ў „Чырвоным календары" пісьменнік з пазіцый нацыяналістычных захоплены кулацкай сялянскай гаспадаркай, якая на яго думку павінна расквітнець пры совецкай уладзе. Ён моліцца на гэтага „волата-селяніна",—багатыра вёскі:

І рыцар міру, рыцар тлустай глебы
Спявае песні пры снапах у полі,
Нядаўна толькі кінуў дружку-стрэльбу:
На попелішчах будаваці трэба
Новую сялібу на раздолі.
Спявайце песні ў свята творчай працы,
То—свята розуму, то—свята адпачынку.
Хай кожны ў родным полі, у роднай хаце
Падлічыць новае свае багацце
Пасля мінулых царскіх злоучынкаў.

Буржуазна-нацыяналістычную літаратуру заўсёды характарызавала фетышызацыя мастака і мастацтва, наданне нейкае выключнае сілы мастаку, як адзінаму збаўцу народа ад гора, які адзін толькі можа выратаваць краіну. Гэта характэрна для многіх твораў Янкі Купалы („Прарок", „Забытая скрыпка"), Коласа (паэма „Сымон-музыка" і інш.).

Для Змітрака Бядулі мастак—гэта зусім выключны культ; для яго (Бядулі) ўсякае мастацтва свяшчэннае, незвычайнае, рамантычнае, „божественное". Гэтыя ідэёвыя погляды ўсялілі Бядулю натхненне стварыць выключную навелу „Велікодныя яйкі"—пра хлапчука мастака, які сваёю крывёю маляваў велікодныя яйкі. Эпіграфам да гэтай навелы ўзяты словы Ніцшэ: „Я люблю толькі тое, што фарбована крывёю". Апавяданне „Бондар" створана таксама з велізарнай мастацкай сілай. Там проста прапаведваецца, што для таго, каб тварыць нават звычайны саматужны выраб, але тварыць па-мастацку, на чалавека павінна найсці вялікае, бадай святое, мастацкае натхненне. Вось што піша пра мастацтва бондара Данілы, Змітрок Бядуля:

„Трэба ахмялець ад гэтых думак: цела павінна гарэць як у агні, тады толькі пачаць работу і так працаваць, каб рук і плеч не чуць, каб галава кружылася, каб сэрца млела, каб пот цурком ліўся і не ведаць гэтага. Трэба забыцца аб усім на свеце і толькі адчуваць і бачыць усёй істотай адно шчасце, што азарае чалавека залатымі праменнямі".

Тут ёсць выразнае ідэалістычнае разуменне сутнасці мастацтва, не падначаленага грамадскаму жыццю, не падначаленага, бадай, і розуму чалавека. Чалавек павінен анямець і павінен працаваць па нейкаму „божьему наитию".

Трэба, зразумела, памятаць пра тое, што гэтыя творы маюць пэўную каштоўнасць не толькі таму, што яны па-майстэрску напісаны, а таму, што, акрамя ідэалістычнага, нацыяналістычнага погляду на ролю і сутнасць мастацтва, гэтыя творы паказваюць,

як дарэвалюцыйны, царска-памешчыцкі лад душыў і не даваў права на развіццё сапраўднаму народнаму таленту.

Але ў даным выпадку нас цікавіць тое, што лінія фетышызацыі мастацтва, якая выражана ў ранніх творах пісьменніка, знайшла сваё адлюстраванне і ў такім буйным творы Змітрака Бядулі, як аповесць „Салавей“ (1927 г.)

## II.

Аповесць „Салавей“ распрацоўвае вельмі цікавыя і мала даследаваныя праз мастацкую літаратуру старонкі жыцця прыгоннага сялянства на Беларусі і ў прыватнасці існавання і жыцця прыгонных тэатраў.

Бядулю ўдалося паказаць асобныя старонкі жудаснага прыгнёту і катавання, якія чыніліся памешчыкамі над сялянамі. Жудасныя здзекі, якія пан Вашамірскі робіць над селянінам Каспарам, над маткаю Зоські, гвалты і катаванні над прыгоннымі дзяўчатамі,—усе гэтыя бакі прыгоннага жыцця правільна адлюстраваны Змітраком Бядулем.

Не дзіва, што сялянства ў такіх умовах даходзіла да роспачы, да адчаю: кідалася на панскіх гайдукоў, забівала некаторых, а больш сталыя і свядомыя элементы прыгоннага сялянства ішлі ў лясы, арганізоўваліся ў паўстанчыя атрады і помсцілі панам.

Панам дапамагалі ў рабаванні сялянства служкі рэлігіі. Яны не горш за памешчыкаў здзекуюцца над сялянствам, шальмуюць, абіраюць іх. Не дзіва, што помста сялянства ідзе не толькі на паноў, але і ксяндзоў, папоў. У аповесці з выключнай яркасцю паказана, як самадурства пана Вашамірскага трымае ў страшнай беднасці тысячы прыгоннага сялянства. Пан Вашамірскі надумаўся стварыць тэатр з прыгоннікаў. Для гэтай мэты выпісваюцца знаўцы справы з Францыі, бяруцца на здзекі і катаванні з прыгоннікаў дзесяткі дзяўчат і хлапцоў, узвялічваюцца падаткі. Слова „генеральная рэпетыцыя“ прыводзіць у жах усё навакольнае сялянства. Гэта значыць, што падаткі яшчэ больш павялічваюцца, катаванні павялічваюцца, мукі актораў-сялян—з якіх імкнуцца выбіць мужыцкі дух,—павялічваюцца. Уся ваколіца стогне, сяляне збіраюцца ісці ў цімакі. Пан Вашамірскі наладжвае баль. Гэта зноў-жа адклікаецца стогнам па ўсёй ваколіцы.

І на гэтым фоне—гадаванец прыроды, сам горды дух прыроды—Салавей, які не хоча нікому пакарыцца, не хоча быць „панскім салаўём“.

Пану тэатр з прыгоннікаў абрыдаў, ён хоча завесці ў сваёй ваколіцы лепшых коняй, ніж у іншых паноў. Тады маральна і фізічна пакалечаныя людзі-акторы перарабляюцца ў канюхоў. Але ёсць мяжа панскім здзекам. Цімацкія шайкі ўсё больш растуць, і от аднойчы наступіў дзень помсты. Цімакі-паўстанцы на чале з чорнабародым Язэпам і Салаўём ідуць паліць маёнтак.

Салавей здзекуецца над панам, а затым маёнтак падпалены: ксяндзоў і паноў адпраўляюць „да пана бога“.

„Праз некалькі хвілін пасвятлела на дзядзінцу — піша З. Бядуля.—З усіх будынкаў маёнтка шугала полымя. У падпале прымалі ўдзел і ўсе прыгоннікі пана. Вецер рос. Галавешкі, цэлыя снапы агню перакідаліся ў паветры з даху на дах, ляцелі агнёвымі птушкамі. Будынкі панскага маёнтка трашчэлі. З вокнаў высоўваліся чырвоныя языкі полымя. Тым часам загарэўся і парк. Корчылася лісце, вугліліся вершаліны дрэў. Сотні залатых кудзерцаў мігаліся па дрэвах, пераскаквалі маланкавымі дугамі-вясёлкамі адразу на многа сажняў угару, потым выглевымі лапамі шорхаліся па зямлі, паўзлі прыгінаючыся.

„—Генеральная рэпетыцыя—смяяўся Каспар, пакалечаны мінулай зімой на лютым марозе па загаду пана“.

Гэтай анархічнай стыхійнай помстай сялянства і канчаецца аповесць „Салавей“.

Прычым, усе падзеі ў аповесці паказаны не шаблонна, а арыгінальна, па-новаму і ў надзвычай цікавай і захапляючай форме.

Аднак, маючы на ўвазе гэтыя правільныя моманты ў паказе прыгонніцтва на Беларусі, мы павінны падыйсці да асноўнага і вырашальнага: якім светапоглядам асветлены ўсе гэтыя падзеі. І тут мы бачым, што Змітрок Бядуля, які ў гэты перыяд сваёй творчасці стаяў яшчэ на нацыяналістычных пазіцыях (1927-28 г.г.), і асвятляе мінулае прыгоннае Беларусі з пункту гледжання буржуазнага нацыяналізма. Расстаноўка класавых сіл перыяда прыгону на Беларусі—зроблена Змітраком Бядулем па нацыянал-дэмакратычнай схеме. Усе паны і служкі культа-прыгнятальнікі—палякі, наадварот, усе прыгнечаныя і эксплаатуемыя—беларусы. Іменна, буржуазны нацыяналізм зачыніў вочы Бядулю на гістарычную праўду. Для апраўдання нацыяналістычнай тэорыі адзінства і бяскласавасці беларускае нацыі ён пайшоў супроць гістарычнае праўды і тым самым у аснову сваёй аповесці палажыў няправільную ідэю. Паказальна, што нават шляхта ў Змітрака Бядулі паказваецца выключна польская. Беларускай шляхты, як і беларускіх прыгоннікаў ён не бачыць і не хоча бачыць. От напрыклад, шляхціч Завішша па ўсяму вобліку—тыповы прадстаўнік беларускае шляхты, і пісьменнік, каб не „запляміць беларускі народ эксплаататарамі“, надае яму рысы заядлага польскага патрыёта. Вось як разважае шляхціч Завішша.

„Загубяць яны рэч Паспалітую, загубяць,—буркнуў Завішша свайму суседу,—паны—дурным гонарам і распустай, а ксяндзы—фальшам і хцівасцю“.

Змітрок Бядуля, паказваючы прыгонніцтва на Беларусі, пайшоў па таму шляху, які нацыяналісты прапаведвалі ў сваіх мастацкіх творах: украінскія—у „Кармелюку“, беларускія—у „Кастусю Каліноўскім“.

Другі сур'ёзны ідэйны недахоп у аповесці „Салавей", які вынікае з першага і звязаны з першым, ідзе ад ідэалізацыі мастака і мастацтва ў ранніх творах Змітрака Бядулі.

Калі па-сапраўднаму прыгледзецца да фігуры Салаўя, дык мы пабачым, што анархічны бунтар Салавей па сутнасці помсціць за загубленую сваю каханку Зоську, а галоўным чынам за права мастацтва быць незалежным ад улады не толькі пана, а каго-б толькі не было, незалежным ад усякае ўлады. Іменна гэта ідэалістычнае разуменне сутнасці мастака і мастацтва, незалежнага ад улады, якое прапаведвалася беларускай буржуазна-нацыяналістычнай літаратурай, знайшло свае адлюстраванне ў аповесці „Салавей". Змітрок Бядуля прызнае за Салаўём права на мастацтва „незалежнае", якое ідзе адно ад самае прыроды і павінна належаць прыродзе:

„Хлопчыка апанавалі колеры і гукі—піша Змітрок Бядуля.— Усімі пачуццямі ўбіраў у сваю істоту вакольнае. Увесь свет быў як у гняздзе ў яго сэрцы для яго-ж".

Гэта мастацтва, „незалежнае" ад людзей, толькі для самога мастака, за якое змагаецца Салавей, і з'яўляецца стымулам у паказе Бядулі, які штурхае Салаўя выступіць супроць пана, пайсці да цімакоў, каб паліць і нішчыць панскія маёнткі.

Традыцыі рамантызму вельмі моцныя ў аповесці „Салавей". Гэтыя традыцыі штурхнулі З. Бядулю на супроцьстаўленне мінулага, гістарычнага—сучаснаму. Паказальна-ж, што пісьменнік, які ў аповесці „Салавей" прыязджае ў совецкую гаспадарку, ні слова не сказаўшы пра яе, шукае старога дзеда, які апавядае яму гісторыю далёкага мінулага. Прычым паказ гэтага мінулага, як мы ўжо высветлілі, такі, што ён не можа дапамагаць у нашым цяперашнім змаганні.

Рамантычная ўзнёсласць, а часткова і таямнічасць адчуваецца ў вобразах і сказах аповесці. Вось рамантычнае апісанне спева салаўя:

„Тады здаецца, што зоркі падаюць у хмызняк і звіняць срэбрам і шклом. Тады здаецца, што салаўіная песня застывае на лузе кроплямі расы, дыяментамі радасных слёз."

Як толькі аўтар прыязджае ў былыя панскія палацы, таямнічасць і казачнасць паўстаюць перад ім, ўваскрашаюцца вобразы кнігі „Пад родным небам".

„Мне пачало здавацца,—піша пісьменнік,—што, я, папаўшы ў панскі куток васемнадцатага веку, сам праймаўся настроямі мінулага часу... Я нібы адышоў ад самога сябе і наяве пачаў бачыць сны. Мітусіліся цені на сценах. У маім уяўленні яны пачалі прымаць людскія постаці. Я быў ахмелены паўзмрокам пакоя".

Гэтая рамантычная ўзнёсласць, у спалучэнні з нацыяналістычным светапоглядам, якраз і ахмяліла З. Бядулю мінуўшчынай, не дала яму магчымасці разабрацца і правільна аналізаваць

суадносіны класавых сіл у час прыгону, прымусіла яго затушаваць, схаваць ад чытача і вобраз беларускага памешчыка і вобраз беларускай шляхты.

Такім чынам ясна, што З. Бядуля пасля перамогі Кастрычніцкае рэволюцыі на працягу ўсяго аднаўленчага перыяда застаецца на пазіцыях буржуазна - нацыяналістычных. З гэтых пазіцый ён і ўспрыймае наша соцыялістычнае будаўніцтва. З пазіцый нацыяналістычных ён, успрыймае соцыялістычнае будаўніцтва. З пазіцый нацыяналістычных ён успрыймае ўвядзенне НЭП'а ў краіне як перараджэнне і змагаецца разам з буржуазнымі нацыяналістамі за „адраджэнне" буржуазнай Беларусі. Становячыся выразнікам і абаронцам капіталістычных элементаў, што атрымалі, праўда абмежаваныя, мажлівасці для свайго росту на базе НЭП'а, ён не бачыць і не хоча бачыць, што і ў гэтыя часы аднаўленчага перыяда ідзе змаганне супроць кулацтва і абмежаванне іх эксплаататарскіх мажлівасцей, ідзе рост соцыялістычнай прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Толькі ў некаторых сваіх творах Бядуля праўдзіва адлюстраваў асобныя дэталі совецкай рэчаіснасці, грамадзянскай вайны. Гэта было вынікам некаторага ўплыву на пісьменніка перамог нашай краіны.

## III

Пераход ад аднаўленчага перыяда ў народнай гаспадарцы да перыяда соцыялістычнай рэканструкцыі праходзіў праз магутнае развіццё прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Уся краіна пакрылася буйнымі новабудовамі, гігантамі фабрык і заводаў. Інтэнсіўнае развіццё прамысловасці і будаўніцтва выклікала нябачны энтузіязм рабочых і сялянскіх мас. Пачынаецца ўдарніцкі рух—змаганне за тэмпы і якасць працы, за выкананне першае пяцігодкі ў чатыры гады. Праца ў СССР, па выдатнаму выразу правадыра рабочых і сялян тав. С т а л і н а, становіцца „справай гонару, мужнасці, адвагі і геройства".

Змяняецца твар старой вёскі. Масавы рух асноўных мас сялянства па шляху калектывізацыі, поспехі СССР у галіне соцыялістычнага будаўніцтва—актывізавалі класава - варожыя, кулацкія і нэпманскія элементы ў супраціўленне магутнаму соцыялістычнаму наступу. Актывізаваліся і буржуазна-нацыяналістычныя элементы. Дыверсіямі, контррэволюцыйнымі арганізацыямі, шпіянажам імкнууся класавы вораг, кулацтва сарваць наша соцыялістычнае будаўніцтва.

Рабочы клас пад кіраўніцтвам ленінскай партыі разграміў капіталістычныя і кулацкія элементы, дамогся велізарнейшых перамог у соцыялістычным будаўніцтве, у асноўным ліквідаваў паразітычнае кулацтва на базе суцэльнай калектывізацыі.

Перамогі совецкае ўлады, разгром кулацкіх элементаў, выкрыццё нацдэмаўскай контррэволюцыі ў БССР,—стварылі

пералом у поглядах і настроях старой тэхнічнай, навуковай і літаратурнай інтэлігенцыі, у тым ліку і ў настроях тае літаратурнай інтэлігенцыі, якая ў мінулым творчасцю змагалася супроць пролетарскае рэволюцыі, а цяпер, ачнуўшыся ад нацыяналістычнага чаду, з жахам глядзела на свае мінулыя справы і жадала шчыра стаць на абарону спраў пролетарскае рэволюцыі. Гэта і адбылося ў настроях і творчасці такіх пісьменнікаў, як Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля.

Два томы рамана „Язэп Крушынскі" ілюструюць той паступовы пералом у поглядах Змітрака Бядулі, які намеціўся ў 1929-30 г.г. Праз гэты раман ярка відаць уся хісткасць, уся няўпэўненасць, з якой Змітрок Бядуля адыходзіў ад сваіх старых поглядаў і настрояў. Ярка відаць, як Змітрок Бядуля, які стаіць яшчэ на нацыяналістычных пазіцыях у першым томе рамана (напісаны ў 1928 г.), прыходзіць да абароны прынцыпаў інтэрнацыяналізма ў другім томе рамана, напісаным у 1932 г.

„Язэп Крушынскі"—гэта раман пра кулака-драпежніка, які сапраўды дзейнічае „ціхай сапай", які апутаў сваімі кулацкімі ніцямі ўсю ваколіцу; гэта раман пра кантрабандыста і эксплаататара, які трымае ў сваім палоне вёскі Дразды і Дзятлы; раман пра чалавека, які ўзгадаваны контррэволюцыйнай прышчэпаўскай палітыкай насаджэння хутароў; гэта раман пра чалавека, які аб'ядноўвае вакол сябе кулацкія элементы вёскі на змаганне супроць вясковых актывістаў, на шкодніцтва ў комуне, на агітацыю супроць калектывізацыі. Язэп Крушынскі скарыстоўвае ўсе, што можа, для сваіх мэт, ён трымае цесную сувязь з папом, пралазіць нават у сельсовет і інш.

Такім чынам у цэнтры рамана стаіць кулак Язэп Крушынскі.

Змітрок Бядуля, асабліва ў другой кнізе рамана, паставіў за мэту паказаць, як кулацтва вёскі з'яўляецца базай для дзейнасці нацдэмаўскай контррэволюцыі. Беларуская контррэволюцыйная арганізацыя лічыць сваёй базай для дзейнасці—кулацтва. Яна падтрымлівала ідэйную і практычную сувязь з кулакамі. Кулацтва было прыводным рэмнем нацыянал-дэмакратаў—гэта яно „труціла" студні па дырэктыве нацдэмаўскай інтэлігенцыі, гэта яно падпальвала комуны, труціла комунарскіх коней. Яно, кулацтва складала актыў нацдэмаўскай контррэволюцыі, у адрозненне ад „этнаграфічнай масы", якой з'яўлялася бедната і серадняцтва для нацыянал-дэмакратаў. Змітрок Бядуля імкнецца паказаць у рамане „Язэп Крушынскі" адзінства ідэёвае, соцыяльнае, адзінства тактыкі і дзейнасці ў кулацтва і нацыянал-дэмакратаў. І гэта з'яўляецца зусім правільным, бо ніхто іншы, як КП(б)Б у сваім паслядоўным і бязлітасным змаганні супроць нацдэмаўскай контррэволюцыі, магла, зрываючы маскі з нацдэмаў і нацапартуністаў, паказваючы іх інтэрвенцкі твар, разаблачаць іх, як выразнікаў ідэалогіі кулацтва. Мы тут не павінны забываць указанне, зробленае сакратаром ЦК КП(б)Б тав. Гікало

ўвосень 1932 г., калі ён разглядаў актывізацыю нацдэмаўскіх элементаў на фронце літаратуры і тэорыі, як простае выражэнне кулацкай актывізацыі і супраціўлення хлебанарыхтоўкам.

Такім чынам у рамане „Язэп Крушынскі" паказваецца дзейнасць кулака ў сувязі з дзейнасцю буржуазных нацыяналістаў. Язэп Крушынскі вядзе сваю работу непасрэдна па даручэнні кіраўнікоў нацдэмаўскай контррэволюцыйнай арганізацыі—розных „маршалкаў" Лапоўскіх, Саколічаў і іншых „міністраў", якія ў рамане з'яўляюцца правобразамі заклятых ворагаў совецкае ўлады, нацыянал-фашыстаў Ігнатоўскіх, Лёсікаў, Цвікевічаў, Ластоўскіх, Прышчэпавых і інш.

Кулак Крушынскі дзейнічае не адзін. Кулакі Слуп і Бочка, Макар Пархамчук, Балаховец Троська, айцец Дзімітры—былы белы афіцэр—вось праз каго Язэп Крушынскі праводзіць сваю палітыку.

Правільна ў рамане прадажніцкая дзейнасць нацыянал-дэмакратаў звязваецца з надзеямі на крывавыя справы вядомага бандыта „мазырскага героя"—Булак-Балаховіча (хаця пра гэтае ў кнізе больш гаворыцца, чым паказваецца).

Тут нацдэмы выступаюць у сваім сапраўдным выглядзе—пагромшчыкаў і катаў беларускіх працоўных мас.

Змітрок Бядуля, асабліва ў другой кнізе рамана, паказвае разгром, раззбройванне нацыянал-дэмакратыі. Паказваюцца дадатныя вобразы комуністаў, вясковых актывістаў і інш. Комуністы Мікола Ярэмчык, Малеўскі, Сакалоўскі, вясковыя актывісты Драчык, Змітрок і іншы.

Такім чынам раман „Язэп Крушынскі" ставіць за задачу раззброіць кулацтва і яго ідэолагаў буржуазных нацыяналістаў—паказаць іх драпежны інтэрвенцкі твар. Тэма вельмі вялікая і ўдзячная для сапраўднага совецкага мастака нашага часу.

Але паміж першай кнігай рамана „Язэп Крушынскі", якая напісана ў 1928 г., і другой яго кнігай, якая напісана ў 1931-32 г., ляжыць ідэёвая прорва. Бо першая кніга рамана ствараласяя чалавекам, які рабіў першыя крокі ў адыходзе ад нацыяналізма, а па сутнасці яшчэ абодвума нагамі стаяў на пазіцыі буржуазных нацыяналістаў, а другая кніга—пісьменнікам, які канчаткова парваў з нацдэмаўшчынай. У першай кнізе рамана Змітрок Бядуля глядзіць на рэчаіснасць вачыма чалавека, які або ідэалізуе кулака Язэпа Крушынскага, або які хоча ставіцца да Язэпа Крушынскага нейтральна (а па сутнасці пападае ў палон да кулака). У другой кнізе пісьменнік глядзіць на рэчаіснасць як чалавек, які шчыра жадае смерці Язэпу Крушынскаму і ненавідзіць яго.

Але пяройдзем да разгляду першае кнігі рамана.

У першай кнізе рамана Язэп Крушынскі ў паказе Змітрака Бядулі—гэта вясковы фальварковец, прышчэпавец, так званы „культурны гаспадар", які чым можа „дапамагае" аднасельчанам,

наладжвае „культурную работу“ на вёсцы, і адначасова—кантрабандыст і драпежнік. Пра яго, Крушынскага, раённае начальства выключна добрых поглядаў; барадатыя рэдактары „Беларускай Вёскі“ друкуюць яго партрэты, у газеце „Совецкая Беларусь“ хваляць яго „культурную работу“. Ён, Крушынскі, змог нават стварыць вакол сябе арэол „рэволюцыянера“ і „партызана“.

Вёска Дразды і Дзятлы ў паказе Змітрака Бядулі класава адзіныя, не дыферэнцыяваны. Адно „любіцель шчырасці“ з вёскі Гайдачаны Драчык не мае вока на Язэпа Крушынскага. Рэшта сялян у паказе Змітрака Бядулі задаволены яго дзейнасцю. Гэтая хлуслівая, а па сутнасці нацыяналістычная расстаноўка класавых сіл у аднаўленчы перыяд на вёсцы, вынікае ў Змітрака Бядулі з хлуслівае нацыяналістычнае ўстаноўкі на працэсы класавага змагання ў вёсцы. Вось што піша Змітрок Бядуля пра класавае распластаванне ў вёсцы Драздах і Дзятлах:

„Праўда, пасля Кастрычніка,—піша ён,—пачаўся быў у ваколіцы падзел на багатых і бедных... Але класавае пачуццё ў іх не мела патрэбнага развіцця. На гэта былі розныя прычыны і перашкоды. Мудрагельны сплецены ланцуг крэўнасці... быў гэтаму аднэй з галоўных перашкод“.

Не дзіва, што, выходзячы з адмаўлення класавага змагання ў вёсцы, Бядуля сваркі, бойкі ў вёсцы, якія заўсёды маюць пэўны класавы сэнс, лічыць „мастацтвам для мастацтва“:

„Калі глянуць глыбей,—піша пісьменнік,—дык яшчэ па-за гонарам хаваўся галоўны дурнап'ян вечных боек паміж двумя плямёнамі. Назваць гэта можна хіба мастацтвам для мастацтва, змаганнем для самога змагання“.

У паказе Змітрака Бядулі Крушынскі ў першай кнізе рамана гэта дабрачынца, які дбае пра ўсё насельніцтва, які ад свайго хутара надзяляе пароўну Драздоў і Дзятлоў зямлёй, які змагаецца нібыта за „бяскласавы“ лад на вёсцы. Вось што піша Бядуля:

„Сельсовет знаходзіўся пад яго ўплывам увесь час. Крушынскі стараўся даваць усім заробкі, як і чым толькі мог. Ён стараўся выхоўваць у беднякоў пашану да грошай. Толькі тады яны перастануць быць беднякамі. Але каб наладзіць добрабыт роўны для ўсіх, зноў-жа патрэбны грошы. Для гэтай справы варта і трэба папрацаваць. Дзеля такой важнай соцыяльна-эканамічнай мэты ўсе спосабы магчымы“.

У чым шкоднасць такіх разваг пра пабудову на вёсцы „бяскласавае рэспублікі“? Шкоднасць іх у тым, што Бядуля ў рамане так паказвае жыццё Драздоў і Дзятлоў, паводле якога можна зрабіць вывад, што Крушынскаму такі ўдалося стварыць сваю „бяскласавую рэспубліку“, і адно Гайдачаны, якія не ўвайшлі ў гэтую рэспубліку, прабуюць падымаць галасы супроць Крушынскага. У першай кнізе рамана, акрамя раздзелаў, дададзеных у другое выданне з другой кнігі, мы не бачым класавага змагання на вёсцы, мір і спакой: няма ні беднякоў, ні серадаякоў-

ні кулакоў. Праўда, гэтага якраз і дамагаецца Крушынскі, і Бядуля, як мы бачым, сумысля ці нехаця, сваёй першай кнігай дапамагае стварыць арэол „бяскласавасці“ вакол „рэспублікі“ Крушынскага.

„Крушынскі абкружыў сваю „маленькую рэспубліку“ мяжою сакрэту. Калі ўсё будзе наладжана тут паводле яго плана, калі роўнасць паміж людзей ваколіцы будзе даведзена да ідэала, тады ён паднясе „сваю рэспубліку“ ў падарунак совецкай уладзе.

„Яго рэспубліка“ будзе маленькаю мадэллю вялікай рэспублікі будучыны,як маленькая мадэль новай машыны, новай вынаходкі“.

Такім чынам наіўны Бядуля верыць у тое, што Крушынскі шчыра працуе на карысць совецкай улады.

Толькі той чалавек, які безнадзейна паграз у багне нацыяналізма,мог даходзіць да такой ідэалізацыі кулака Крушынскага, як гэта мы бачым у малюнку касьбы Драздоў і Дзятлоў:

„Касьба ў Крушынскага,—піша Бядуля,—была кожны раз святам для Драздоў і Дзятлоў. Тут табе і смачная яда з выпіўкай, і добрая плата чым хочаш—збожжам, грашмі. Яны свае лужкі няскошанымі пакідалі, а з вялікай ахвотай ішлі з косамі і граблямі ў Курганішча. Праца заўсёды адбывалася пры паднятым настроі. Спявалі песні, перакідваліся жартамі, і адчувалі сабе не як на падзённай рабоце, а нібы ў гасцях“.

Хто-ж, калі не сам аўтар дапамагае Крушынскаму стварыць думку, што ён, Крушынскі, будуе „бяскласавую сялянскую рэспубліку“. Усё гэта паказвае, што Змітрок Бядуля стаяў яшчэ моцна на пазіцыях кулацка-нацыяналістычных у 1928 г.

Справы Язэпа Крушынскага папулярызаваліся.

„Беларуская вёска“ друкуе артыкул з яго партрэтам.

„Язэп Крушынскі,—пішацца ў гэтым артыкуле,—прымае ўдзел у грамадска-культурным жыцці... з'яўляецца сябрам сельсовета і розных культурных арганізацый ваколіцы. Гаспадарка Курганішча носіць характар культурны і з'яўляецца прыкладам для вакольнага насельніцтва.“

Змітрок Бядуля ідэалізуе кулака Крушынскага і ў дзіцячыя гады, надае яму неўласцівыя рысы сімпатыі да бедных і пакрыўджаных і нянавісці да багатых. Вось, што піша аўтар:

„Чамусьці Язэпку болей спадабаліся злосныя і вострыя вочы людзей з падворку, чым рахманыя і спакойныя—кватарантаў галоўнага корпуса з вуліцы“.

Ідэалізацыя ўсяго беларускага і непрыязнь да небеларускага мае месца ў гэтай кнізе Змітрака Бядулі. Так, паказваючы ворага і падхаліма Алалоўніка, ён галоўным грахом яго лічыць тое, што той „не ўмее выгаварваць „г“ па беларуску“ і замест „це“ кажэ „те“, і што той не любіў „беларускай сялянскай газеты „Наша Ніва“.

Дрэнна наогул у першай кнізе паказаны нацыянал-дэмакраты. Ды пра іх, бадай, нічога ў першым томе няма. Ёсць шарж на

тое, што наццэмы да смешнага захоплены старасветчынай. Але ў кнізе мы маем такія моманты, дзе сам аўтар па-нацыяналістычнаму захапляецца так званымі „помнікамі старасветчыны"—курганамі:

„Часамі над курганамі кугатала сава. Засмяецца дзіка, дзіка па-вар'яцку, заплача жаласна, жаласна па-дзіцячаму, і давай плысці над курганамі на растапыраных крыллях. А калі месяц бываў поўны, круглы і ярка жоўты, як да чырвана нагрэтая скаварада, тады пад яго бледным водблескам плаваў на курганах цень савы, соваўся ціха і хутка..." Запісваліся на грудзях зямлі галасы поўначы".

Часамі ў першай кнізе рамана „Язэп Крушынскі" Бядуля апускаецца і да ўзроўню фальшывага сялянскага прымітывізма старога Цупрука, тады ён разам з Цупруком пачынае іранізаваць над нашымі мэтамі. Вось што ён гаворыць вуснамі старога Цупрука пра соцыялістычную будучыню:

„Нейкія тарарахтары будуць поле араць, а селянін толькі паглядай ды пагулівай, ды люльку піпкай. Такія фокусы таксама ў байках дзеюцца"...

Хто супроцьстаўлены ў першай кнізе Язэпу Крушынскаму? „Шукальнік шчырасці"—Антон Драчык, які з'яўляецца проста дзіваком. Ён ніяк не ўлічвае абстаноўкі і лезе на ражон. Ён нават у старыя часы толькі для шчырасці падаў прашэнне прыставу, дзе вылаяў прыстава, як толькі мог. Яго ўсе б'юць, ён-жа бараніцца нават нічым не можа.

Рабфакавец Мікола Ярэмчык, які падаў заяву на Крушынскага, што той кантрабандыст толькі пасля таго, як у кантрабандзе пачалі вінаваціць Ярэмчыкава бацьку Цупрука. Вось, бадай, і ўсё. Зразумела, што гэтыя людзі не могуць быць супроцьстаўлены моцнаму і хітраму ворагу Язэпу Крушынскаму. Зусім няправільна паказвае Змітрок Бядуля фігуру авантурыста Шапавалава. Гэтая таямнічасць і авантурнасць, якая створана ў рамане вакол фігуры Шапавалава, зусім лішняя. Таксама, як прынцыпова няправільным з'яўляецца паказ селяніна „Льва Талстога". „Леў Талстой", які сімпатызуе Крушынскаму, былы пісар прыстава „аб'ектыўны летапісец" паказваецца пісьменнікам як удзельнік соцыялістычнай пераробкі вёскі. І, зразумела, дрэннае ўражанне ствapae Цупрук—вобраз традыцыйны, прыдуркаваты і наіўны.

У агульных палітычна-няправільных палажэннях аўтара ў першым томе рамана выключэнне робяць дзве главы, уведзеныя ў другое выданне першай кнігі з другой кнігі рамана—„Летапіс вёскі Гайдачан" і „Завярцелася, закруцілася". Дзве главы, якія напісаны ў 1930 годзе, зусім па-іншаму асвятляюць суадносіны класавых сіл на вёсцы ў аднаўленчы перыяд. З Чырвонай арміі вяртаюцца вясковыя актывісты Хведар і Змітрок, якія пачынаюць весці работу за арганізацыю калгаса. Паказваюцца, акрамя Крушынскага, кулакі Гаробчык, Фалькевіч, Суніца, якія падпальваюць малочнае таварыства і намерваюцца забіць Драчыка.

Паказальна, што Змітрок Бядуля выяўляе здольнасці тонка паказваць рысы кулацтва. Вось што ён піша пра ўзаемаадносіны беднаты і кулацтва на вёсцы:

„Не было ніводнага выпадку, каб вяскоўцы з хутаранамі разам радаваліся, або разам сумавалі. Калі хочаш ведаць, хто з кім у прыязні, якія людзі злучаны ў адну масу, глядзі хто з кім разам радуецца, хто з кім разам сумуе... І вось паміж вяскоўцамі і хутаранамі было з адваротнага боку: шчасце адных было горам другіх, гора адных—шчасцем другіх“.

Дзівішся, адкуль у Бядулі ад фальшывай „бесстароннасці“ ў мінулым з'яўляецца ўменне цяпер палітычна аналізаваць факты. Калі кулакі прыбілі актывіста Драчыка—Змітрок Бядуля праз летапісі „Льва Талстога“ заўважае:

„Язэп Крушынскі заўсёды любіць (і ўмее) заграбаць жар чужымі рукамі. Ён вельмі рад, што з Антосем Драчыкам так здарылася паміма яго і на яго, Крушынскага, карысць“.

Змітрок Бядуля, такім чынам, канчаткова ацверазеў ад нацдэмаўскага чаду толькі ў 1929—30 г., калі комуністычная партыя выкрыла ўсю контррэволюцыйную сутнасць нацдэмакратызму і нанесла яму сакрушальны ўдар. У гэты перыяд, у самы разгар заўзятай барацьбы партыі і пролетарыята супроць буржуазна-кулацкага нацыяналізма і ствaралася другая кніга рамана „Язэп Крушынскі“, якая з'яўляецца першай сур'ёзнай і сапраўднай спробай творчай перабудовы Змітрака Бядулі і якая заслужана лічыцца адным з лепшых твораў сучаснай беларускай совецкай літаратуры.

Гэта кніга пралівае зусім іншае святло і на пэўныя моманты з першай кнігі рамана „Язэп Крушынскі“.

У другой кнізе рамана „Язэп Крушынскі“ Змітрок Бядуля раззбройвае не толькі нацдэмаў, але і свае мінулыя ідэёвыя нацыяналістычныя погляды і свае мінулыя прыёмы і метады творчасці. Другі том рамана „Язэп Крушынскі“—гэта кніга пра агідны твар, крывавы шлях і крывавыя справы беларускага кулацтва і нацдэмаўскай контррэволюцыі.

Не дзіва, што працягваючы тыя падзеі, якія адбыліся ў першай кнізе рамана, аўтар вельмі часта непаслядоўны, малюе зусім новыя характары, дае новыя характарыстыкі тым-жа людзям, якіх мы ведаем зусім іншымі ў першай кнізе рамана. Даруем гэта аўтару. Падыходзячы з новым светапоглядам і новымі ўстаноўкамі да сваіх герояў, ён кожнаму з іх стараўся даць яркую класавую характарыстыку і пэўнае месца і ролю ў класавым змаганні. Не дзіва, што „дабрачынца“ Крушынскі з першага тома рамана тут выступае ва ўсёй агіднасці свайго звярынага кулацкага твару. Не дзіўна таму, што пашляк і халтуршчык Цярэшка з першай кнігі рамана, у другой кнізе выступае як стары нацыяналістычны зубр ад літаратуры. Не дзіўна, што нявінныя пошлыя банкецікі ў халтуршчыка Цярэшкі—у другой

кнізе рамана выступаюць як контррэволюцыйныя патаемныя сходы нацдэмаўскай арганізацыі з „маршалкамі“, „міністрамі“ і інш.

Не дзіўна, што класавае змаганне, ад якога і знаку, бадай, няма ў першай кнізе, цяпер на вёсцы паказана нязвычайна абвостраным і суровым (праўда, у гэты перыяд і ў краіне класавае змаганне набыло незвычайна вострыя формы).

Актывізаваліся і дадатныя героі ў змаганні супроць кулацтва. Дарэмна мы-б упікалі аўтара за гэтыя неадпаведнасці і супярэчнасці ў яго кнізе. Гэта супярэчнасці ў самым светапоглядзе Змітрака Бядулі, супярэчнасці працэса перараджэння яго светапогляду з нацыяналістычнага ў савецкі.

Змітрок Бядуля з вялікім веданнем фактаў паказвае дзейнасць нацыянал-дэмакратаў на Беларусі, як у часы нямецкай і польскай акупацый, так і пры савецкай уладзе. Правільна паказвае Змітрок Бядуля, што беларуская нацыянал-дэмакратыя, як у дні Кастрычніцкае рэволюцыі, так і ў дні нямецкай і польскай акупацый, блакавалася з рознымі белагвардзейскімі ўрадамі і акупантамі на змаганне супроць пролетарскай дыктатуры. Пра гэта ў рамане гавораць самі нацыянал-дэмакраты:

„Пані Мар'я,—піша Бядуля,—з надзвычайнай асалодай успамінала ўсіх „выдатных“ гасцей: „маршалкаў“, „радаўцаў“ „нацыянальных камітэтаў“ і „сакратарыятаў“, генерал-маёраў і лейтэнантаў з „Беларускай вайсковай камісіі“ пры белапольскай акупацыі“ ды іншых „дзяржаўных мужоў“, якія прапанавалі розным белагвардзейскім урадам, розным дзяржавам таваpaабмен з Беларуссю, каб тыя толькі дапамаглі „выратаваць краіну ад большэвіцкай анархіі“.

Змітрок Бядуля правільна паказвае, што нацдэмаўская контррэволюцыя ўбірала ў свае шэрагі ўсё агіднае і прадажніцкае.

Бядуля паказвае, як „маршалкі“ і „міністры“ імкнуцца стварыць сваю армію, але беларускія рабочыя і сяляне не ідуць за гэтымі прадажнымі імперыялісцкімі сукамі. Ніхто не хоча ісці ў нацыянальнае войска:

„Ёсць генералы,—піша Змітрок Бядуля,—лейтэнанты, ад'ютанты, камандуючыя арміямі, ёсць вайсковыя статуты, песні, а няма салдат: нацыянальная трагедыя... Аднаго вярбоўшчыка сяляне біць хацелі. Сябры „нацыянальнага“ камітэта „бандытамі“ называюць беларускую моладзь. Гэтыя „бандыты“ тым больш небяспечныя, бо не рабуюць сялян, а нападаюць на братніх жаўнераў, братняга Пілсудскага“.

Беларускія нацыянал-дэмакраты ў час белапалякаў паказаны ва ўсім іх прыгастве—яны выступаюць натхніцелямі і арганізатарамі банд Булак-Балаховіча (хоць за вялікую памылку аўтара трэба лічыць, што ён пра гэтыя крывавыя справы нацдэмаў

і Балаховіча адно гаворыць, а не паказвае іх), забойцамі беларускіх партызанаў, рабочых, сялян.

Выключную актуальнасць у змаганні на цяперашнім этапе супроць нацыяналістычнай контрэволюцыі мае паказ нарады, якая адбылася ў нацдэмаў перад адступленнем белапалякаў. Вось што гаворыць на гэтай нарадзе „маршалак“:

„Наш святы абавязак не паддацца ворагу. Чырвоны вораг ужо ля варот Менска. Наша зброя—святыя ідэі незалежнасці... Кожны з нас пазіцыя. Кожны з нас армія. Кожны з нас фронт. Беларускі народ... Пасля,—піша Бядуля,—адбылася сакрэтная нарада, на якой было пастаноўлена каму застацца тут, а каму ехаць разам з палякамі“.

Ці-ж вопыт змагання пролетарскай дыктатуры супроць нацыянал-дэмакратаў не паказаў, што іменна там, у Заходняй Беларусі нацыянал-фашысты Луцкевічы, Астроўскія, правакатары Міхайлоўскія, Мятла дзейнічалі ў згодзе і па аднаму плану з прыслужнікамі дэфензівы, якія знаходзіліся ў Совецкай Беларусі,—Ігнатоўскімі, Ластоўскімі, Лёсікамі, Цвікевічамі.

Змітрок Бядуля правільна і з мастацкай глыбінёй паказвае як буржуазныя нацыяналісты, што засталіся ў Совецкай Беларусі, вядуць скрытую работу супроць совецкай улады. Іхнія метады і планы—адзіныя з заходня-беларускімі нацыянал-фашыстамі. Яны ўзгадняюць сваю тактыку з тактыкай Луцкевічаў. „Маршалак“ герой рамана гаворыць:

„Я атрымаў вестку адтуль. Антон з нашай тактыкай цалкам згодзен... Апрыкрылі маскі,—гаворыць „прэм‘ер“—ух, як апрыкрылі. Душымся ў іх... Ух, як пальецца кроў... Я лічу, што нам трэба арганізаваць людзей зараз-жа“.

Такім чынам інтэрвенцыя была адзінай стаўкай нацыяналістычнай контррэволюцыі. Крэў мільёнаў працоўных была ім нішто. Вось пра што марыць Антон Цярэшка, нацыяналіст ад літаратуры, які чакае на партфель міністра асветы:

„У ціхім пакоі слаўся пад суфітам сіняваты дым „міністэрскіх“ папярос. Ад палітычнай нарады, якая тут адбылася, пад выглядам сямейнай балюжкі, шумела ў галаве. Такія „канвенты“ рабілі на яго кожны раз глыбокае ўражанне. Выглядала нібы „сябры“ „канвента“ сапраўдныя гаспадары Беларусі“... што яны: „Узмахнуць бел-чырвона белым сцягам. Уздрыгнецца зямля ад тупату ног „сапраўднага беларускага народу“, тады Булак-Балаховіч скліча веча-сход. Зазвіняць званы смаленскія, полацкія, віцебскія, чарнігаўскія“...

„І „гаспадары“ часта гаварылі:

„— Некалькі шыбеніц?—Якое гэта мае значэнне пры перабудове дзяржаўнага ладу?

„— Культура?—Захад Еўропа. Зруйнаваныя фальваркі, маёнткі зноў адбудуюцца“.

Вось мары беларускай контррэволюцыі, якая хацела ісці да свайго панавання, апіраючыся на крывавага бандыта Булак-Балаховіча. Змітрок Бядуля ў другой кнізе рамана зусім правільна паказвае, што так званая акадэмічная канферэнцыя па рэформе правапіса па сутнасці з'яўлялася злётам буржуазна-нацыяналістычнай контррэволюцыі.

У паказе Змітрака Бядулі буржуазныя-нацыяналісты арганізуюць свае ячэйкі на вёсцы, уцягваючы туды кулацтва. Нездарма „маршалак" кажа, што такія людзі, як Язэп Крушынскі—іхняя адзіная апора, што трэба Крушынскага папулярызаваць, рабіць выстаўкі экспанатаў яго гаспадаркі. Маршалак проста дае настаўленне кулаку Крушынскаму труціць коняй, паліць комуны, забіваць вясковых совецкіх актывістаў:

„Дык вось трэба старацца, каб людзі баяліся комуны, як чумы. Як гэта рабіць? То там коні дохнуць, то гумно гарыць, то... ды самі не лыкам шыты. Бо інакш і каля вас наладзіцца комуна. Вы свой чалавек, і я вам кажу шчыра, што думаю. Арганізавацца трэба, вось што.

„— Робіцца гэта ў нас, але кожны сам па сабе.

„— Трэба арганізавана рабіць".

Так буржуазна-нацыяналістычная контррэволюцыя арганізоўвала кулацкія групоўкі на вёсцы.

Тым часам кулацтва на вёсцы абнаглела, пачаліся падпалы комун, атручванне коней і інш. Класавае змаганне стала абвостраным. Малюнак сустрэчы кулака Пархамчука з былым балахоўцам Троськам зроблены выключна мастацкі, і тут Бядуля зусім не баіцца палітычнай ідэёвае схемы. Сапраўды, у гэтым малюнку ўсё нібыта пабудавана схематычна: кулак Пархамчук, „падкулачнік" з комуны Троська, які па даручэнню кулакоў труціць коней. Аднак-жа Бядулю ўдалося, як сапраўднаму майстру, разгарнуць у рамках гэтай ідэйнай схемы глыбокія мастацкія вобразы. У аднэй главе перад намі паўстае ва ўсёй сваёй нянавісці на совецкую ўладу кулак Пархамчук і балаховец Троська. Глава пабудавана як самастойнае, закончанае апавяданне з сюжэтам і інтрыгай. Асабліва глыбокім і інтрыгуючым з'яўляецца момант, калі балаховец Троська, атрымаўшы 50 далараў, каб патруціць комунарскіх коней, вяртаецца, каб вырваць у свайго-ж „брата" Пархамчука яшчэ 50 далараў.

„— Чаго вярнуўся?—пытаецца Пархамчук.

„— Ціха...—у шэптах Тroські страх,—там людзі, са стрэльбамі... Драчык і Калістра... Пархамчук затросся.

„— Сюды ідуць?

„— Можа і сюды... Ведаеш маю да цябе сімпатыю. Ты недумай, што я вораг совецкай улады і комуны, я хацеў выпрабаваць, што ты за птушка. Вось Калістра і Драчык будуць сведкамі, які фокус праз мяне ты хацеў выкінуць у комуне. Я і тваю пудэлачку паказаў. Яны заўтра на курыцы папробуюць".

І толькі ў канцы главы чытач даведваецца, што „груган гругану вочы не клюе“. Проста Троська хацеў грашовай прыбаўкі.

Каларытна і мастацка - пераканальна паказана ў рамане жыццё комуны, малюнкі змагання з класавымі ворагамі. Змітрок Бядуля паказвае, як кулакі на вёсцы падхапілі прышчэпаўскую палітыку насаджэння хутароў. Незвычайна пераканальна і глыбока паказана, як прышчэпаўскія кулацкія пасёлкі захапілі ў свой палон былога чырвонаармейца Хведара. І як ён перарастае ў кулака, Псіхалагічна праўдзіва паказана кулацкае перараджэнне Хведара. Гутарка Хведара—і то стала зусім іншай, больш павольнай і памяркоўнай:

„Калі гаварыў з кім-небудзь,—піша Бядуля,—дык стараўся абдумваць, абмяркоўваць і адшліфоўваць кожнае слова, каб яно было вострым і гладкім, багатым па сэнсу. Дзеля гэтага паміж словамі заўсёды ён рабіў маленькія перапынкі, замаскаваныя клейкім і расцягненым гмыканнем. Гмыканне прышчапілася да яго гутаркі“. Ідэалам Хведара цяпер становіцца кулацкі добрабыт і спакой:

„Новая хата Хведара пахне свежай смалою. Вокны вялікія, шмат сонца, шмат святла. У хаце ўсё новае, бліскучае. На стале ў кутку каля сцяны купка кніжак і газет. Задаволена глядзіць муж на жонку. Нібы пасля буры ў моры дабраўся да ціхай прыстані. Вось угледзеў, што абрус нярoўна ляжыць на стале—направіў. На падлозе газета—падняў, злажыў акуратненька і на месца.

Гэты былы „актывіст“ цяпер эксплаатуе сам беднага і хворага селяніна, ставіць ад сябе таго ў кабальную эксплаататарскую залежнасць.

Яскрава і пераканальна Бядуля паказвае гібель Язэпа Крушынскага і іншых кулакоў, тыпу Пархамчука, Слупа, Бочкі. Правільна пісьменнік падкрэслівае нерашучасць сялянства ў пераходзе на новыя калектыўныя формы землекарыстання (вобраз селяніна Яўхіма, які ўвесь час цвердзіць: „боязна неяк“ і інш.) Нарэшце калектывізацыя перамагла, біта была палітыка Крушынскіх, айца Дзімітрыя—былога белага афіцэра.

Больш ярка ў другой кнізе рамана паказаны Мікола Ярэмчык, наборшчык Сакалоўскі, сакратар ячэйкі інстытута, якія вядуць змаганне супроць нацыянал-дэмакратаў і пры дапамозе пролетарскай грамадскасці раззбройваюць іх. Аднак, трэба тут проста сказаць, што Змітраку Бядулю не ўдалося стварыць ніводнага яркага і магутнага вобраза большэвіка. Гэта ўсё людзі дробныя і нязначныя. Яны нават у паказе Бядулі разгублены перад нацыяналістычнай актывізацыяй. Няма тут у рамане ніводнага вобраза сапраўднага, мужнага большэвіка нашага часу які-б разбіваў нацыянал - дэмакратаў ушчэнт. А колькі-ж на справе такіх выдатных герояў-большэвікоў, мужных і прынцыповых, было ў часе нашага змагання ў совецкай Беларусі супроць нацыя-

налістычнай контррэволюцыі. Бядуля не змог выкарыстаць гэтыя вобразы для свайго рамана, ён іх не ведае, не вывучыў. І тым самым зрабіў буйны палітычны промах. Таксама ён не змог выкарыстаць такія-ж вобразы большэвікоў вёскі ў паказе калектывізацыі. Ні Драчык, які лезе там, дзе не трэба, на ражон, ні рабфакавец Мікола,—такімі большэвікамі не з'яўляюцца. Гэта паказвае на тое, што З. Бядуля дрэнна вывучае і ведае дадатных людзей і герояў нашага часу.

Дрэнна Бядуля паказаў ролю партыйнай арганізацыі як у разгроме нацыянал-дэмакратаў, так і ў калектывізацыі вёскі. Пры чым у паказе нацыяналістычнай контррэволюцыі З. Бядуля дапусціў дзве важныя і прынцыповыя памылкі. Як вядома, шлях і справы нацыянал-дэмакратаў—гэта крывавы шлях: яўрэйскія пагромы і катаванні Булак-Балаховіча і яго банды—гэта іх, буржуазных нацыяналістаў, дырэктывы і справы, катаванні і расстрэлы працоўных акупантамі таксама рабіліліся пры іх падтрыманні і садзейнічанні, дзесяткі ахвяр у фашыстоўскіх турмах—гэта таксама іх рук справы. Змітрок Бядуля пра гэта гаворыць у другой кнізе рамана, але не паказаў крывавага шляху і спраў нацдэмаў. Ад гэтага шмат губляе яго кніга.

І другое, Змітрок Бядуля упусціў адзін з вельмі важных момантаў у паказе нацыянал-дэмакратаў: іх нянавісць да пралетарскай Масквы—гордасці і сцягу сусветнага пралетарыята, і да працоўных другіх нацыянальнасцей, іх жаданне абасобіцца, замкнуцца ў сваю „самабытную“ скарлупу. Як адмоўнае, трэба адзначыць імкненне пісьменніка да ідэалізацыі традыцыйных вобразаў старой беларускай літаратуры: гэта прыдуркаваты па сутнасці селянін Цупрук і „праведнік“ „Леў Талстой“. Асабліва непераканальна гучыць канец кнігі, дзе Цупрук заяўляе, што ён, бачачы ўвесь працэс калектывізацыі, просіць прыняць яго ў большэвікі. Бядуля нават не зразумеў, што такія людзі як Цупрук (нацыяналістычны вобраз беларускай літаратуры), не патрэбны партыі, што яны ў партыю нават прыняты ніколі не будуць.

Кніга Змітрака Бядулі ўяўляецца як вельмі паслядоўнае і падрабязнае апавяданне пра справы буржуазных нацыяналістаў. З гэтага пункту гледжання многія раздзелы кнігі гучаць як аўтарская самакрытыка. Аднак у Бядулі няма вельмі важнага: вялікага гневу мас, вялікага гневу і страснай нянавісці аўтара да гэтых нацыяналістычных крывавых гандляроў лёсам працоўных Беларусі. Гэты магутны гнеў, сіла партыі, рабочага класа павінна была спапяліць, знішчыць нацыяналістаў.

Пра мастацкія асаблівасці рамана „Язэп Крушынскі“.

Раман напісаны, у сваёй аснове, рэалістычна, па свайму мастацкаму і агульна-культурнаму ўзроўню прадстаўляе вялікае дасягненне беларускай савецкай літаратуры. Зразумела, што другі том рамана, які ёсць сапраўды вялікім творам савецкай

літаратуры, стаіць на непараўнальна вышэйшым ідэйным і мастацкім узроўні, ніж першы том рамана, які яшчэ створаны з нацыяналістычных пазіцый.

Змітрок Бядуля добра валодае мастацтвам паказа дэталі, цікава будуе сюжэт, уводзіць багата момантаў, якія інтрыгуюць чытача, прымушаюць яго з неаслабнай увагай сачыць за развіццём падзей у творы. Пісьменнік герояў свайго твора паказвае не шаблонна, а ў кожнага з іх знаходзіць свае асаблівыя рысы твару, вачэй, адзення, характару, ставіць яго ў незвычайныя ўмовы, якія інтрыгуюць і цікавяць.

Вазьмеце асноўных герояў твору, і вы ўбачыце, што кожны з іх па свойму індывідуалізаваны, мае сваё асаблівае, што адрознівае яго ад іншых (Крушынскі, Драчык, „Леў Талстой“).

Мы на гэта звяртаем увагу таму, што мастацтва пабудовы сюжэта, цікавай інтрыгі, стварэнне апавядальнага твора ў сапраўдным сэнсе гэтага слова стаіць перад усімі, бадай, беларускімі совецкімі пісьменнікамі. Змітрок Бядуля ярка паказвае чалавека, у некалькіх радкох выяўляецца яго характар, паводзіны, рысы. Адным чынам, мы можам канстатаваць, што мастацтвам апавядальнасці, развіцця падзей, сюжэта, інтрыгі—Змітрок Бядуля валодае як сапраўдны майстар. І гэта дало яму мажлівасць стварыць вялікае эпічнае палатно, якім з'яўляецца раман „Язэп Крушынскі“. У рамане „Язэп Крушынскі“ багата ёсць ад бядулевых навел з „На зачарованых гонях“. У рамане многія главы прадстаўляюць нават закончаныя навелы, але звязаныя ў адно адзінай сюжэтнай лініяй.

Калі мы прыглядаемся да тых адмоўных рыс у мастацкім метадзе і прыёмах Змітрака Бядулі, якія асабліва выявіліся ў першым томе яго рамана, дык перш за ўсё мы бачым, што рамантызм, нават авантурызм, пагоня за забаўнасцю збівае Бядулю на творчы метад буржуазнае літаратуры. У некаторых мясцінах твора фельетоннасць і памфлетнасць, або дробная бытаўшчына даведзены да апагею, прычым метадам фельетоннасці і памфлетнасці аўтар развівае пэўную схему. Гэта, напрыклад, адносіцца да паказу Драздоў і Дзятлоў, дзе азначэнні людзям, у духу старых літаратурных традыцый, даюцца прыблізна такія:

„Дразды ў большасці былі высокія, ценкія, цёмнавалосыя і каравокія, а Дзятлы—невысокія, плячыстыя, русавалосыя і сінявокія“.

А вось прыклад такога фельетоннага і несур'ёзнага паказу „племянной“ варожасці паміж Драздамі і Дзятламі:

„Два брахуны (адзін Дзяцел, другі Дрозд) вялі цяпер між сабою слоўны турнір:

„— Ты цецярук.

„— А ты мышыны хвост.

„— Контррэволюцыянер.

„— Ад такога чую.

„Не кулакамі і не каламі біліся яны. Языкі—самая прыстойная зброя. Дразды і Дзятлы падбухторвалі да лаянкі сваіх брахуноў".

Гэтакая штучнасць, несур'ёзнасць і павярхоўнасць вельмі шкодзіць мастацкасці твора. Пагоня за інтрыгай дала ў рамане найбольш штучны вобраз летапісца „Льва Талстого". І не такі штучны сам „Леў Талстой," як залішне шаржыраванымі і штучнымі з'яўляюцца яго летапісі і іх стыль. Але і сама гаворка „Льва Талстого" да немажлівасці шаржыравана:

„Вось мой альбом. Вазьмеце з сабою ў Менск. Друкуйце там. Тоісь я хацеў сказаць не друкуйце. Гэта значыць перадайце там у рэдакцыю. Так. Можа што надрукуюць. А я цяпер вельмі заняты. Тоісь баба мая вельмі занятая. Гэта значыць, што баба лаецца."

Такая нежыццёвасць і штучная мова, якой аўтар надзяляе „Льва Талстога" не адпавядае жыццёвай праўдзе. На вялікі жаль і ў другой кнізе рамана—„Летапісі" „Льва Талстога", якія напісаны пра вельмі сур'ёзныя падзеі з класавага змагання на вёсцы, зроблены ў такім-жа шаржыраваным і несур'ёзным стылі.

Фельетоннасць і памфлетнасць мы маем і ў такім дыялагу, які развіваецца паміж „Львом Талстым" і яго жонкай:

„Жонка мужу:

„— А каб ты скіс, памяло сівое.

„Каню:

„— Но, падла.

„Мужу:

„— Што цябе абыходзіць, гультай, дурань ты набіты.

„Каню:

„—Гэй, ты-ы-ы-ы. Ваўкарэзіна", і т. д.

Фельетоннасць і памфлетнасць ёсць нават і ў другой кнізе рамана пры паказе сур'ёзных ворагаў пролетарыята, як нацыяналдэмакраты. Раней чым аўтар паспее развіць вобраз нацдэма, ён імкнецца яго высмеяць у дробязях, вельмі часта прапускаючы галоўнае ў яго інтэрвенцкім твары.

Аўтар культывуе ў мове яго дзейных герояў (асабліва вясковых) слоўны прымітывізм. Гэтым найбольш багаты ў рамане Цупрук, праз якога пісьменнік проста прыніжае разумовы ўзровень селяніна. Напрыклад Цупрук кажа: „раратар" замест аратар, „кусамол" замест комсамол і інш.

Змітрок Бядуля ў адным месцы другой кнігі рамана зусім дарэчы высмейвае некаторых беларускіх пісьменнікаў, якія ў соты раз апяваюць традыцыйнага пастушка і жалейку, а між іншым сам праз вобраз Цупрука скочваецца да гэтае самае традыцыйнае жалейкі. Гэта ёсць канкрэтнае выяўленне правінцыяльнае абмежаванасці, якая ёсць яшчэ ў творчасці Бядулі.

Пагоня за „увеселительностью", забаўнасцю прыводзіць пісьменніка да таго, што ён у раман увёў, зусім не дарэчы, прыгодніцкую гісторыю з Мятловым-Шапавалавым, прыгодніцкія

і ненатуральныя адносіны паміж Мэрай і Крушынскім, Крушынскім і Рахмількам.

Цікава, што аўтар, вельмі часта адпіхваючыся ад схемы, шукаючы новых форм выяўлення, прыходзіць якраз да схемы. Так здарылася з характарыстыкай Драздоў і Дзятлоў. Пісьменнік імкнуўся ў паказе іх адыйсці ад схематычнасці, а на справе прышоў да яе.

У мастацкім сэнсе асноўная розніца паміж першай і другой кнігай рамана заключаецца ў тым, што ў першай кнізе, у адпаведнасці з ідэёвым замыслам аўтара не канцэнтраваць увагу на соцыяльна-шкодным абліччы Крушынскага, уся, бадай, увага аддаецца романтычна-прыгодніцкай гісторыі Шапавалава, Рахількі, пустой пісаніне „Льва Талстога“, фэльетонным апавяданням пра бойкі Драздоў і Дзятлоў, нікчэмным балюшкам у Цярэшкі. У другой-жа кнізе такіх момантаў значна менш (хоць яны і тут ёсць), асноўная ўвага канцэнтруецца на падзеях класавага змагання ў вёсцы і горадзе, нават „летапісі“ „Льва Талстога“, замест ранейшых пустых і бессэнсавых разваг пра „папізм“, пачынаюць адлюстроўваць класавае змаганне на вёсцы і змаганне за калгасы.

Мастацкія прыёмы ў другой кнізе больш сцісла і ярка характарызуюць падзеі рамана.

Змітрок Бядуля проста і па-мастацкі сціпла будуе свой вобраз. У ніжэй прыведзеным малюнку відаць, як пісьменнік глыбока схоплівае „цені паміраючага дня“:

„Колеры пачынаюць бляднець, вянуць і губляюцца ў шчылінах. Сімфонія фарбаў адыходзіць у далечыню, на многа-многа міль, губляецца недзе ў прасторах, дзе, відочна для вока, жыве ранейшым жыццём. Сонца сканала“.

У рамане „Язэп Крушынскі“ ёсць некалькі зусім выключных радкоў, дзе мы адчуваем усю пагібель і смяротную агонію нацыяналістычнай контррэволюцыі. Цярэшка—нацыянал-дэмакрат, які крадзе нават „даверлівасць дзяцей“, выходзіць у горад. Ён бачыць:

„Вось мільгануў адзін мур на Совецкай, чырвонаармеец на варце. У Цярэшкі задрыжэлі калені“.

У вобразе мужнага і слаўнага чырвонаармейца на варце нацыяналістычныя контррэволюцыянеры бачаць сваю пагібель, бо „Не спіць большэвіцкая варта!“

Раман „Язэп Крушынскі“ (другі том рамана) разбурае трацкісцкую тэорыю дыстанцыі, што „толькі на адлегласці ад падзей можна стварыць сапраўдны мастацкі твор“.

„Язэп Крушынскі“ створаны ў самы разгар змагання супроць буржуазнага нацыяналізма.

Але раман „Язэп Крушынскі“ не вычэрпвае тэмы пра беларускую нацыяналістычную контррэволюцыю, а толькі пачынае яе распрацоўку, пры тым з вялікімі памылкамі і зрывамі. Совецкія пісьменнікі павінны працаваць над тэмай пра нацыяналізм

і ўхіл у бок буржуазнага нацыяналізма цвёрда памятаючы словы нашага правадыра т. Сталіна, што

„Сутнасць ухіла да мясцовага нацыяналізма заключаецца ў імкненні абасобіцца і замкнуцца ў рамках сваёй нацыянальнай скарлупы, у імкненні затушаваць класавыя супярэчнасці ўнутры сваёй нацыі... у імкненні не бачыць таго, што збліжае і злучае працоўныя масы нацыянальнасцей СССР, і бачыць толькі тое, што можа іх аддаліць адзін ад другога.

„Ухіл да мясцовага нацыяналізма адлюстроўвае незадаваленне аджываючых класаў раней прыгнечаных нацый рэжымам дыктатуры пролетарыята, іх імкненне абасобіцца ў сваю нацыянальную дзяржаву і ўстанавіць там сваё класавае панаванне."

„Небяспека гэтага ўхілу заключаецца ў тым, што ён культывуе буржуазны нацыяналізм, паслабляе адзінства працоўных народаў СССР і грае на руку інтэрвенцыяністам".

Трэба таксама памятаць указанні т.т. С. Касіора і П. Постышэва на апошнім пленуме ЦК КП(б)У і пастановы пленумаў ЦК КП(б)У і ЦК КП(б)Б пра тое, што мясцовы украінскі і беларускі нацыяналізм, які змыкаецца з інтэрвенцкімі імперыялістамі, з'яўляецца ў маштабе УССР і БССР галоўнай небяспекай на цяперашнім этапе.

Толькі з пазіцый пролетарскага інтэрнацыяналізма можна правільна паказаць крывавы шлях і крывавыя справы беларускай нацыяналістычнай контррэволюцыі.

26/XII 1933 г.
Менск.

---

І. ПЛАШЧЫНСКІ

# ТВОР, ЯКІ НЕ ХВАЛЮЕ

„Мастацтва, бяручы ў рэчаіснасці матэрыялы, узводзіць іх да агульнага радавога, стварае з іх стройнае цэлае".

Бялінскі.

Аманал—матэрыя вялікай выбуховай сілы. Слова „аманал", як назва твора, гучыць у поўным сэнсе інасказальна, міжвольна чакаеш у названым гэтак творы паказа чагосьці вялікага, соцыяльна напружанага, што прыводзіць да выбуха. Але і „аманал" не заўсёды дае спатрасальны выбух. Я маю на ўвазе паэму Куляшова „Аманал".

НЭП у горадзе, вёска ў аднаўленчы і рэканструкцыйны перыяд, актывізацыя класава-варожых элементаў, калгаснае будаўніцтва—вось што імкнуўся паказаць у сваім творы Куляшоў. Нельга адмаўляць, што „Аманал" стаіць у поўным сэнсе вышэй за папярэднія творы Куляшова. У гэтым творы Куляшоў бадай упершыню свядома паспрабаваў паказаць рэчаіснасць у яе класавых супярэчнасцях. Класавыя супярэчнасці пісьменнік бачыць у горадзе і ў вёсцы часу НЭП'а, ён ставіць іх у цэнтр сваёй увагі і ў рэканструкцыйны перыяд, у час калгаснага будаўніцтва. Пісьменнік ставіцца да людзей не як біялагічных істот і толькі, а акрэслівае іх воблік, як воблік класавы, па свайму падкрэслівае класавы характар чалавечых паводзін і дачыненняў. У паасобных выпадках ён гэта робіць з належнай мастацкай пераканальнасцю. Варта, як прыклад гэтага, прыгадаць сцэнку ў хаце кулака Худа. Эксплаататарская сутнасць кулака тут паказана хоць і коратка, але праўдзіва, пераканальна, у выразна рэалістычным плане.

Падкрэсліваючы ўсю важнасць такога пісьменнікавага дачынення да рэчаіснасці, мы павінны паставіць пытанне: як класавыя яе супярэчнасці пісьменнік раскрывае, ці здолеў ён схапіць асноўнае, найбольш тыповае, каб найпаўней адлюстраваць гэтую рэчаіснасць, якім чынам ён гэта паказвае, наколькі высокай ёсць яго творчая культура, што з'яўляецца аднэй з асноўных умоў для стварэння поўнацэннага класава-каларытнага мастацкага твора?

Калі ў „Аманале" ёсць рад нядрэнна зробленых мясцін, да некаторай ступені мясцін каларытных, то ні ў якім разе гэтага

нельга сказаць пра ўвесь твор цалкам. Першае ўражанне, якое пакідае „Аманал"—гэта павярхоўнасць, а пад час і наіўнасць, пэўная штучнасць у паказе рэчаіснасці і людскіх паводзін. Узяўшы матэрыял шырокага соцыяльнага размаха, паэт не здолеў стварыць твора, вартага гэтага матэрыяла. У паэме не выпуклена стрыжнёвая тэма, вакол якой разгортвалася-б дзея, гэта значыць, што „Аманал" не мае выразнай адзінай сюжэтнай лініі, таго, што знітоўвае паасобныя часткі ў непарыўнае мастацкае цэлае.

Куляшоў супроцьставіць старому свету, з ягонымі людзьмі, новы свет, паказвае прадсмяротную актывізацыю струхлелага старога і яго бяссілле затрымаць поступ перамогі рэволюцыі, па свойму паказвае людзей, якія павінны ўвасабляць перамогу рэволюцыі, але ўсё гэта паказваецца вельмі не глыбока, аднабакова.

НЭП у горадзе Куляшовым успрыймаецца, галоўным чынам, як гандляр і крама, вакол чаго і канцэнтруецца галоўная пісьменнікава ўвага. Праўда, ніякае паэтызацыі і цягі да гэтага свету няма, ён адмаўляецца пісьменнікам з яго тупой абмежаванасцю і рэстаранным чадам. Але няўжо НЭП вычэрпваецца гандляром, піўнымі і крамай? У „Аманале" занадта скупа і бледна сказана пра поступ рэволюцыі ў час НЭП'а. Прычым, рэчаіснасць гандляра занадта ўжо вабіць да сябе ўсіх людзей і невядома чаму. Носьбітам новага ў гэты час з'яўляецца адзіны вобраз, ды і то вельмі неакрэслены, як вобраз, вобраз якогасьці Юнака, які нямаведама чаму таксама прыходзіць у піўную да гандляра, з якім гандляр раптам пачынае сяброўскую гутарку, просіць напісаць хроніку яго продкаў. Совецкая рэчаіснасць, а не нэпманская, у паказе горада адчуваецца вельмі слаба. Паказ прыхода НЭП'а абмяжоўваецца канстатацыяй факта, ды і то праз вобраз мяшчанскай супакойнасці:

Пасля рос гул розны:
Пачыналіся другія спевы...
І ўжо мірна
  Раніцою
    спявалі пеўні... (падкрэслена мною—І. П).

Рэстаран з крыкамі „хлапчукоў" пастаўлен на першым плане, засланіў ад пісьменніка больш важнае—паказ творчай работы пролетарскай рэволюцыі, пра што гаворыцца толькі паасобнымі і вельмі агульнымі словамі, накшталт наступных:

Але мінаючы вёрсты,
Цягнікі пачыналі жыць,
Дзе прасека рэек ляжыць
Праз сляпыя абшары воспы.

Ніякай прычыннай сувязі з'яўлення НЭП'а ў ходзе пролетарскай рэволюцыі ў „Аманале" не адчуваецца, ягоны сапраўдны соцы-

яльны сэнс не ўскрываецца, без чаго нельга паказаць праўдзіва і глыбока самога НЭП'а, убачыць больш важнае, ніж піўная і крама.

Што да паказа вёскі, то тут ёсць больш акрэсленасці, выразнасці, няма тае раскіданасці і бессувязнасці, што ёсць у першай частцы паэмы, дзе паказваецца горад. Класавая барацьба ў калгасе—тэма другой часткі „Аманала". Добра, што Куляшоў убачыў класавую барацьбу ў калгасе, імкненне класава-варожых элементаў разваліць калгас, што супроцьставіў гэтаму барацьбу комсамольцаў і калгаснікаў за калгасны лад, але дрэнна тое, што Куляшоў не паказаў калгаснай гаспадаркі ў яе ўмацаванні, у яе гаспадарчым росце, у большай выгаднасці для працоўнага селяніна, ніж аднаасобная гаспадарка (вядома, сродкамі паэзіі, а не развагамі і вылічэннямі-эканамічнага трактата), дрэнна, што не паказаў выростання новага чалавека, чалавека калгаснага ладу—дрэнна таму, што ўсё гэта неабходна было для больш глыбокага паказа самой класавай барацьбы, якая ў „Аманале" паказана ўсё-ж павярхоўна. Пісьменнікаву ўвагу прыкавалі розныя развагі, падчас зусім непатрэбныя, бо нехарактэрныя, людзей варожага свету. Павярхоўны-ж паказ дзейнасці класавага ворага ў яго социяльным адыходзе, паказ барацьбы двух светаў, які мы маем у „Аманале", не падкрэслівае з належнай сілай усёй дужасці пераможнай хады рэволюцыі, дужасці калгаснага руху наперад.

Характэрная асаблівасць „Аманала" заключаецца ў тым, што развіццё рэчаіснасці, паводзіны людзей, іх узаемадачыненні паказваюцца без прычын, што іх параджаюць, гэта значыць не ўскрываецца социяльная логіка развіцця з'явы. Вайсковы комунізм, НЭП, ліквідацыя капіталістычных элементаў у горадзе і вёсцы, калгаснае будаўніцтва—усё гэта так ці інакш закранаецца ў паэме, але бытуе без належнай сувязі паміж сабою. Вось чаму перад чытачом і не паўстае рэчаіснасць у сваім руху. Гэта-ж самае мы маем і ў дачыненні да людзей, вобразы якіх не ведаюць паступовага разгортвання, якое паглыбляе іх, уносіць пэўныя новыя якасці, якія былі яшчэ невядомы чытачу з першага з імі знаёмства. Вобразы-персанажы падаюцца ў „Аманале" без такога развіцця.

Куляшоў нібы знарок апускае так патрэбную абумоўленасць, і таму не можа не прыходзіць да адмоўных вынікаў. Таму і не выпадкова, напрыклад, маса калгаснікаў паўстае перад намі ў „Аманале", як штосьці бязвольнае, бязлікае і стыхійнае, гэта значыць скажаецца сапраўднасць. Я маю на ўвазе паводзіны калгаснікаў з п'яніцам Чыркам і іхняе дачыненне да кулака Жыгнера, які пралез у калгас на работу рахункавода. Спачатку калгаснікі ідуць за Чыркам, патрабуючы ад праўлення калгаса грошай, бо інакш не пойдуць на работу і нават паломяць трактары (дзе гэта магло быць, як масавае з'явішча?), а пасля раптам крута паварочваюць у процілеглы бок і галасуюць за высылку Жыгнера, як шкодніка. Незразумела і першае і другое, бо невя-

дома, што іх штурхнула да Чыркі і чаму яны раптам „разгадалі“ Жыгнера, невядома што кіруе іх паводзінамі. Калі-б пачыталі калгаснікі гэтую сцэнку, то яны, мабыць, не пахвалілі-б аўтара за залішне „вольныя“ ягоныя адносіны да масы калгаснікаў.

Апусканне прычын, што абумоўліваюць чалавечыя паводзіны, узаемадачыненні, робіць іх нечаканымі, ненатуральнымі. Зусім, напрыклад, невядома якім чынам настаўнік зняверыўся ў рэвалюцыі, скончыўшы жыццё самагубствам, якім чынам старшыня калгаса і сакратар комсамольскай ячэйкі Якубовіч дайшоў да „апекі“ класавага ворага Жыгнера, а пасля раптам „зразумеў“ яго кулацкую сутнасць і адкаснуўся ад яго. Незразумела гэта таму, што ў сваіх сродках барацьбы з калгасам Жыгнер занадта просталінейны, нават наіўны, што кідаецца ў вочы з першага кроку яго паводзін. Вось чаму Якубовічавы словы да Жыгнера:

> Я з р а з у м е ў у с ё. Я стаў над вашым (падкрэслена мною—І. П.)
> разбітым карытам,
> Над вашым хутарскім кулацкім шчасцем...
> Яно мне не трэба,
> вы мне яго не пазычайце!
> Я пайду разам з хлапцамі капаць фасфарыты.—

гучаць без належнай сілы, бо паўтараю, Жыгнер занадта просталінейны ў сваіх учынках, каб іх не разумець з першага з ім знаёмства. Вось чаму Якубовіч не разумеў Жыгнера не таму, што не мог разумець (Жыгнера вельмі добра разумелі ўсе радавыя комсамольцы), а не разумеў таму, што так захацеў аўтар, і слова „зразумеў“ гучыць у даным выпадку як наіўнасць аўтара, як фальш у вуснах Якубовіча.

Рэчаіснасць у „Аманале“ паўстае ў штрыхах, сэнс якіх не заўсёды ясны, і якія не складаюць вялікай рэалістычнай карціны, а складаюць хутчэй не зусім даапрацаваны імпрэсіяністычны эскіз у рамантычным тоне.

У „Аманале“ няма колькі-небудзь поўнага, шырока распрацаванага тыповага соцыяльнага характара, які-б захапляў і вабіў да сябе сваімі дужымі імкненнямі, прымушаў-бы жыць яго жыццём, разам з ім хвалявацца і імкнуцца, або, наадварот, які-б сваімі ўчынкамі выклікаў глыбокае абурэнне і нянавісць. І гэта таму, што далей павярхоўнага занатавання паасобных рыс чалавека, паасобных яго якасцей Куляшоў не ідзе, што ён не разгортвае перад чытачом жыцця сваіх герояў, не паказвае іх глыбінь перажыванняў, не стварае складаных (не ў сэнсе цяжкасці разумення) дачыненняў паміж людзьмі. Героі Куляшова без унутраных супярэчнасцяй і канфліктаў, якія прымушаюць чалавека пакутваць, падаць, падымацца і ўпарта крочыць наперад, або падаць і валіцца ўніз, у балота соцыяльнага згібення і смерці. Пісьменнік-жа закрануў калгаснае будаўніцтва, гэта значыць закрануў працэс перароблкі свядомасці селяніна, дробнага ўласніка ў свядомага работніка соцыялістычнай будоўлі, а гэты

працэс перараробкі—працэс вялікай соцыяльнай напружанасці і супярэчнасці, не закранаючы якога нельга паказаць і ўсёй велічы калгаснага будаўніцтва.

Возьмем усіх дадатных герояў. Яны так агульна, так эскізна занатаваны, мы іх так мала ведаем у штодзённай шырокай рабоце, у іхніх думках, пакутах, хваляваннях і імкненнях, у іхніх індывідуальных асаблівасцях, так мала ведаем, што няма ніякіх падстаў гаварыць пра іх, як пра тыповыя характары, бо няма гэтых характараў. Вядома, што комсамолец вельмі тыповы і характэрны для нашага часу герой. Але-ж акрамя таго, што комсамольцы меркавалі наладзіць дыспут з баптыстамі, заклікалі калгаснікаў ісці на работу, калі іх справакаваў Чырка, і што яны хочуць адкапаць фасфарыты—мы нічога больш пра іх не ведаем. І зразумела, апусціўшы паказ калгаснага будаўніцтва, самыя рознастайныя турботы калгаснікаў, у тым ліку і комсамольцаў і толькі ў вельмі агульных рысах спыніўшыся на азначаных момантах, Куляшоў не мог даць шырокага вобраза комсамольца. Ён убачыў і выпукліў маладую энергію комсамольцаў, але не паказаў яе ў багацці штодзённай работы, у думках і глыбінных хваляваннях. Няма ў „Аманале" і ніводнага вобраза калгасніка, паказа нага ў працэсе роста, у вызваленні яго ад традыцый, ад усёй спадчыны дробна-уласніцкага свету, гэта значыць няма паказу нараджэння новага чалавека, якога гадуе і выхоўвае калгасная рэчаіснасць, які па новаму разумее, што такое жыццё, і які па новаму да яго дачыняецца. У „Аманале" замест вобразаў калгаснікаў ёсць толькі паасобныя і вельмі абежныя іх рысы. Таксама няма ў „Аманале" і ніводнага вобраза партыйца, г. зн., што Куляшоў зусім абмінуў пытанне партыйнага кіраўніцтва соцбудаўніцтвам.

Калі ж звярнуцца да людзей процілеглага соцыяльнага лагера, то і тут прынцыпова вышэйшага, якасна новага, што да спосабу іх паказа, у паэме няма, хоць яны займаюць у творы даволі значнае месца. Бадай усе яны не выклікаюць да сябе адносін, як да сур'ёзнай класава-варожай сілы. Галоўныя персанажы гэтага лагера—гандляр, кулак Худ і Жыгнер. Найбольш удаўся вобраз кулака Худа. Кароткая сцэнка ў яго хаце пераконвае ў сваей праўдзівасці і якраз дзякуючы рэалістычнаму тону малюнка, чаго бракуе ў дачыненні да гандляра і асабліва ў дачыненні да Жыгнера, што робіць іх вобразы менш мастацкаадчувальнымі. Асабліва Жыгнер здзіўляе некаторымі сродкамі сваёй барацьбы з рэволюцыяй. Ён адным з галоўных сродкаў сваёй барацьбы з калгасам выбраў агітацыю супроць трактароў за электрычныя плугі, якія скора прыдуць, і таму трэба прадаць трактары і абрабляць поле коньмі, чаго, як не дзіўна, ён і дасягнуў. Ён імкнецца разваліць працдысцыпліну ў калгасе і робіць гэта рукамі недалужнай істоты —п'яніцы Чыркі, над якім смяюцца і самі калгаснікі, але раптам чамусьці ідуць разам з ім, вераць яму, патрабуючы грошай у праўлення калгаса, а не—дык будуць паломаны трактары. Такія спосабы барацьбы класавага ворага,

а яны выстаўляюцца ў паэме як галоўныя, не пераконваюць у сваёй праўдзівасці, не з'яўляюцца тыповымі, а паказваюць толькі, што пісьменнік далёка невыстарчальна ведае жыццё, або свядома стварае ненатуральныя палажэнні і ўзаемадачыненні паміж людзьмі, таму і непераканальныя, нетыповыя. Барацьба кулака з калгасам справа тыповая, але-ж яна становіцца барацьбой толькі дзякуючы пэўным сродкам, якія падкрэсліваюць яе тыповасць.

Адным з адмоўнейшых момантаў „Аманала" з'яўляецца тое, што людзі тут паказваюцца па-за іх бытавой абстаноўкай і нават па-за іх шырокай штодзённай дзейнасцю, што надало-б ім паўнату, пэўныя індывідуальныя рысы. Я ўжо гаварыў пра гэты недахоп у паказе комсамольцаў. Не менш важным з'яўляецца і паказ у гэтым-жа плане класавага ворага, каб выкрываць яго манеўры, найчасцей вельмі хітрыя, і праз гэта самае вучыць, як трэба з ім змагацца. У Куляшова паміж людзьмі лініі простыя, без складанага пераплёта, кампазіцыя вобразаў схематычная, яны без унутраных канфліктаў.

Куляшоў вельмі мала вывучыў узяты ім для паказа кавалак жыцця. Веданне жыцця, уменне скампанаваць у мастацкае цэлае, адабраць і разгарнуць найбольш тыповае, даць рэалістычна проста і разам з тым глыбокі малюнак—вось чаго бракуе „Аманалу". Таму гэты твор ні ў якім разе не можа прэтэндаваць на колькі небудзь мастацка поўнае адлюстраванне класавага змагання і людзей. Тут ёсць толькі паасобныя добра зробленыя месцы, якраз найбольш рэалістычныя, як напрыклад, сцэна ў Худавай хаце. Але такіх прыкладаў у „Аманале" не вельмі шмат. Найбольш характэрны для гэтага твора рамантычны налёт у паказе рэчаіснасці, паводзін, учынкаў і ўзаемадачыненняў людзей, якія часта ўспрыймаюцца як дзіўныя і неправдападобныя якраз з прычыны падачы іх у рамантычна-штучным плане. Неправдападобнасць, якая падчас пераходзіць у наіўнасць, вельмі адчуваецца ў „Аманале". Непраўдападобнымі і да пэўнай ступені штучнымі з'яўляюцца паводзіны Жыгнера, яго сродкі барацьбы супроць калгаса, паводзіны настаўніка, тон ягоных развважанняў у час сустрэчы з паміраючым Міколам, узаемадачыненні паміж Жыгнерам, яго дачкой і Якубовічам, паказ суда над Жыгнерам, раптоўнасць развважанняў гандляра з Юнаком пра напісанне хронікі ягоных продкаў. Пачынаючы ад гандляра і канчаючы дачыненнямі дзеда да трактара—на ўсім ляжыць пячатка рамантыкі, некаторай штучнасці як вынік асноўнай аўтаравай установкі—установкі на арыгінальнасць. Жаданне быць арыгінальным—наскрозь пранізывае „Аманал", перш за ўсё гэтым кіруецца пісьменнік у адборы матэрыяла, у спосабе яго кампаноўкі. Але, ствараючы непраўдападобныя і падчас штучныя сітуацыі і дачыненні, Куляшоў, закранаючы пытанні вялікага соцыяльнага сэнсу, застаецца бяссільным намаляваць карціну тыповага, абагульняльнага значэння. Куляшоў, напаўняючы канкрэтным зместам, скажам, класавае змаганне

вакол калгаса, паказаўшы ягоныя сродкі, стварыў малюнак далёка нетыповага, няпоўнага, бо ўзяў найменш рэальнае, што да самага класавага змагання. Таму яно і не носіць той абвостранасці і глыбіні, якім з'яўляецца ў сапраўднасці. Або вось яшчэ прыклад. Куляшоў закрануў вельмі цікавую з'яву—жаданне гандляра апісаць яго продкаў, як пакутнікаў за рэвалюцыю, гэта значыць імкненне паставіць мастацтва на службу сваіх *класавых* інтарэсаў. З'ява тыповая. Але з прычыны нечаканасці і нават ненатуральнасці дачыненняў гандляра да Юнака, нейкай іх раптоўнасці, з прычыны залішняй рамантыкі—гэта з'ява не паўстае на ўвесь свой рост, успрымаецца як непраўдападобнае і наіўнае ў гандляровым імкненні ўтрымацца ад наступа рэвалюцыі. Рэч сапраўды арыгінальная, але, пазбаўленая рэалістычнага плана паказа, траціць сваё абагульняльнае значэнне.

Усё гэта азначае, што Куляшова рамантыка, якая перарастае ў алегарызм у значнай ступені шкодзіць рэалістычнаму фону твораў Куляшова. Наўрад, напрыклад, можна лічыць за тыповую з'яву дзедавы дачыненні да трактара, бо ў іх не адчуваецца ўласцівай селяніну практычнасці, бо яны паказаны ў занадта рамантызаваным і эстэтызаваным тоне.

„Аманал“ нельга назваць выразна сюжэтным творам. Сюжэтная лінія больш акрэслена вызначаецца толькі ў другім раздзеле. Кампазіцыйна „Аманал“ зроблен слаба. Асабліва ў першым раздзеле вельмі часта няма ніякае сувязі паміж строфамі і часткамі, ёсць шмат нечаканых пераходаў аднаго да другога, што робіць малазразумелай гэтую частку, пазбаўляе яе так патрэбнай яснай прастаты. Тут ёсць шмат строф, якія можна было-б з поспехам выкінуць, і абсалютна нічым не парушыўся-б строй першай часткі. Невыразнасць сюжэтнай лініі абумовіла адсутнасць арганічнай сувязі паміж двума раздзеламі паэмы, якія паміж сабою звязаны толькі вонкава. Куляшоў, як і шмат якія з нашых пісьменнікаў, не надаў вобразу-персанажу належнай кампазіцыйна-сэнсавай ролі, не стварыў для яго належнага фону дзейнасці. Механістычнасць, раскіданасць дае сябе вельмі адчуваць, што да кампазіцыі „Аманала“, як вынік адсутнасці агульнай для ўсяе рэчы дзеі. Куляшоў закрануў паасобныя моманты рэчаіснасці, выхапіў пэўныя моманты людскога жыцця, але не стварыў агульнай каларытнай дзеі, дзеі напружанай, багатай перапетыямі развіцця, кульмінацыйнымі момантамі, нарастаннем, без чаго не можа быць хвалюючага твора. У Куляшова малюнак не развіваецца, не выростае паступова і арганічна, а механічна складаецца, што не можа даць гэтым малюнкам арганічнай закончанай цэльнасці. Гэта ізноў-жа ёсць вынік невыстарчальнага асваення ўзятай для паказа ў „Аманале“ рэчаіснасці, гэта значыць, выходзіць з ідэёвай няспеласці, слабасці паэта.

Некалькі слоў пра рытм і мову „Аманала“.

Рытміка „Аманала“ карэнным чынам адрозніваецца ад рытмікі твораў іншых паэтаў. Правы былі тыя таварышы, якія гаварылі, што Куляшоў парушае межы паміж паэзіяй і прозай. У „Аманале“ ёсць шмат мясцін, якія пазбаўлены стройнай рытмічнай арганізацыі, спецыфікі рытма паэзіі. Вось прыклад:

Ведаеце, часамі сніцца,
Ляціць на зямлю агністая планета,
Вось яна апанавала неба...
ўрываецца ў шыбы, вакяніцы...
Тады ў цябе сэрца падае, падае...
Ты адчуваеш—
блізіцца канец нашага света...
Ты стаіш, як статуй,
і вочы твае шкляныя расчынены:
У цябе яшчэ нічога не зроблена,
Ты яшчэ не ведаеш,
што такое дзяўчына,
Ты яшчэ адзін раз хочаш пабачыць
дожджык земны дробны...

Такіх прыкладаў можна было-б прывесці вельмі шмат. У гэтым парушэнні паэтычнага рытма змяшчаецца адна з галоўных асаблівасцей „Аманала“. Праз такое парушэнне рытма паэзіі Куляшоў выходзіць за межы паэтычнай творчасці. Такое парушэнне рытма паэзіі, зніжэнне яго да звычайнай празаічнай гутаркі, інакш не можа ўспрыймацца, як дысананс, паколькі пераходзіць, бадай што, у галоўную асаблівасць паэтычнай творчасці, а не становіць толькі прыватнага адступлення, паасобнага элемента, які можна ўводзіць у паэтычным творы. Адступленне ад традыцыйнага рытма трэба вітаць, але калі паэт у гэтым адступленні траціць адчуванне меры, тады арыгінальнасць успрыймаецца як непатрэбнае арыгінальнічанне. „Аманал“ цяжка чытаецца, як паэтычны твор рытмічна гучыць часта непаваротліва.

Кажуць, што Куляшоў вучыцца ў Багрыцкага, наследуе яму. Шкада, што ніхто з прыхільнікаў гэтага не патурбаваўся сказаць, у чым канкрэтна гэта выражаецца. Зусім правільна адзначае Зелінскі, што Багрыцкі „весь в ритмических качаниях“, і ў гэтым адна з галоўных асаблівасцей паэзіі Багрыцкага, чаго ні ў якім сэнсе нельга сказаць пра „Аманал“ Куляшова, як адзін з буйнейшых яго твораў.

Такі рытм „Аманала“, які, да рэчы кажучы, зніжае эмацыянальную напружанасць, непасрэдна звязан з характарам мовы. Мова „Аманала“ надзвычайна празаічная, не вызначаецца асаблівай вобразнасцю, маляўнічасцю, у ёй вельмі мала метафар, эпітэтаў, параўнанняў і іншых выяўленчых мастацкіх сродкаў, багатых фарбамі жыцця. Вельмі дрэнна тое, што часамі вобразнасць носіць штучны, надуманы характар. Выразнейшым прыкладам гэтага можа служыць пачатак паэмы, дзе Куляшоў малюе зімовы пейзаж, малюнак якога наскрозь штучны, без нівод-

вага сочнага жывога вобраза. Вось прыклад гэтае штучнасці, якая так перашкаджае быць паэту простым і даступным для шырокага масавага чытача:

Месіку
колкі вецер
аблізаў шчокі,
Ён вісеў
над ліхтарамі
электрычнай эпохі
Падбітым вокам,
мёртвым бальмом сляпога.
Было месіку
вісець студзённа
Аднаму ў небе,
як у карыце:
Край не паўдзённы—
снягі—ноч, край люты.
І ні балачыны, каб закрыцца,
І, ані вакна капітанавай каюты,
Расчыненага ў зоравыя тропікі,
Куды ён не раз
падымаўся па трапу...
Тут такая напачатак
ноч трапіла—
Аж паэты, недапісаўшы радка,
ставяць кропкі...
Лютаўскія ледзянеюць тропы.

Канчаецца „Аманал" выкрыццём выбуха на Данбасе, арганізаванага інжынерам-сынам Жыгнера. Гэта заключная сцэна павінна як-бы непасрэдна, у літэральным сэнсе слова, апраўдаць назву самога твора. Але справа не толькі ў гэтым. Пісьменнік хацеў стварыць сацыяльны „выбух", паказаць, як стары свет узрываецца пераможнай хадой рэвалюцыі—у гэтым асноўнае. Такі выбух не адчуваецца, бо рэчаіснасць у „Аманале" паказана без належнай ідэёвай глыбіні і мастацкай сілы.

Вельмі дрэнна, што з боку некаторых нашых таварышоў наглядаецца некрытычны падыход да творчасці Куляшова, імкненне ўсхваляць гэту творчасць, што, акрамя шкоды, нічога іншага Куляшову прынесці не можа. Не ўсхваляць, а крытыкаваць трэба творчасць Куляшова. „Аманал"—вельмі слабы твор, нават для маладога паэта Куляшова, маючы на ўвазе яго здольнасці, і з выключнай выразнасцю гаворыць, як яшчэ шмат трэба працаваць над сабою пісьменніку і ў галіне павышэння свайго ідэёвага ўзроўня, што неабходна для больш глыбокага разумення жыцця, і ў галіне паэтычнага майстэрства, паэтычнай культуры, каб стварыць зразумелы і разам з тым паэтычна-кандэнсаваны, рэалістычны малюнак без залішняга арыгінальнічання, якое так адчуваецца ў „Аманале".

Я. ДОЎГІ.

# ТРЫЦЦАЦЬ ГОД ЛІТАРАТУРНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ ЛІНАРДА ЛАЙЦЭНА

Лінарду Лайцэну—выдатнейшаму пролетарскаму пісьменніку Латвіі споўнілася 50 год з дня нараджэння, з якіх 30 год прыпадае на яго літаратурную дзейнасць.

Нарадзіўся пісьменнік у 1883 г. у сям'і ліфляндскага селяніна-арандатара. Арэндная плата была вялікая. Жылі бедна. Праз некаторы час бацька Лайцэна стаў батраком, і Лінарду з ранніх год прышлося цяжкай працай зарабляць свой хлеб. Летам ён пасвіў жывёлу, а зімой пачаў наведваць школу. Аўладаўшы рускай мовай, Лайцэн захапляецца рускімі класікамі, асабліва Пушкіным. Не маючы магчымасці вучыцца, 17-ці гадовы Лінард паступае рабочым садаводам да аднаго нямецкага памешчыка, дзе працуе тры гады і шляхам самастойнай вучобы павышае сваю адукацыю. У гэты час ён працуе над сваімі дробнымі апавяданнямі і вершамі, якія пачынаюць друкавацца ў тагочаснай радыкальнай латышскай газеце „Peterburgas Avize" („Пецярбургская газета").

Далей Лайцэн працуе рабочым у Рызе ў так званым „Царскім Садзе". У хуткім часе яму ўдаецца паступіць у рэальнае вучылішча ў горадзе Вольмары, але з гэтага вучылішча Лайцэна звальняюць і арыштоўваюць за распаўсюджванне праклаамацый латышскай соцыял-дэмакратычнай партыі. З гэтага часу Лайцэн застаецца ў Рызе, спрабуе пісаць і перакладаць, рыхтуецца трымаць экзамен на званне народнага настаўніка. У 1905 г. Лайцэн экзамен вытрымаў, але пасады настаўніка не атрымаў, бо быў палітычна ненадзейны.

Надыходзіць рэволюцыя 1905 г., якая асабліва бурна разгортваецца ў Прыбалтыцы. Класавыя супярэчнасці на гэтай „окраине" царскай Расіі дасягнулі найбольшага абвастрэння.

„Памешчыцкае землеўладанне мела тут найбольш буржуазны характар, чымся ў якім-небудзь іншым месцы Расіі: маёнткі „баронаў" былі велізарнымі сельска-гаспадарчымі прадпрыемствамі, якія, часам, займалі сотні рабочых. У адпаведнасці з гэтым класавыя супярэчнасці ў вёсцы былі надзвычайна яскравымі: ніякая вёска, нават гурыйская, не была так падрыхтавана

ўсім сваім эканамічным развіццём да соцыял-дэмакратычнай прапаганды, як латвійская. У дадатак да гэтага краіна мела два буйныя гарадскія цэнтры. З іх Рыга належала да ліку буйнейшых прамысловых і пролетарскіх цэнтраў „імперыі“...[1])

Соцыяльнае прыгнечанне працоўных мас Латвіі перапляталася з прыгнечаннем нацыянальным. Царскія чыноўнікі, размаўляўшыя з насельніцтвам праз перакладчыкаў, шырока праводзілі тут русіфікатарскую палітыку царызма.

У час бурных падзей рэволюцыі 1905 г.—Лайцэн у першых радах барацьбітоў за рэволюцыю. Ён кіруе рэволюцыйным рухам на вёсцы, з'яўляецца актыўным членам рэволюцыйнага камітэта.

Рэволюцыя 1905 г. у Прыбалтыцы была толькі звяном ва ўсёй рускай рэволюцыі, а таму далейшае яе развіццё залежала ад суадносін сіл усёй рэволюцыі ў Расіі.

На задушэнне рэволюцыі ў Прыбалтыку з Масквы былі накіраваны адборныя гвардзейскія часці, на чале якіх стаялі мясцовыя нямецкія бароны.

Пачалася крывавая расправа над рэволюцыянерамі. Зарава пажараў, тысячы забітых і замучаных ахвяр рэволюцыі—вось што пакідалі за сабой царскія „устаноўцы парадка“.

Ад карных экспедыцый Лайцэну ўдалося схавацца ў Пскоўскай губерні, дзе ён пад чужым прозвішчам працаваў памочнікам пісара. Увосень 1906 г. Лайцэн выязджае ў Фінляндыю, жыве там каля года. Пасля нелегальна жыве ў Пецярбургу, Рызе і ў іншых гарадах. У 1909 г. Лайцэна арыштоўваюць і садзяць у турму, дзе ён знаходзіцца да 1911 г. У турме Лайцэн знаёміцца з рознымі тыпамі „злачынцаў“, якія ў далейшым знаходзяць шырокае мастацкае адлюстраванне ў яго творчасці. У 1913 г. паступае на гістарычна-філасофскі факультэт Універсітэта Шаняўскага (Масква), дзе вучыцца да 1916 г.

У час імперыялістычнай вайны Лайцэн знаходзіцца пад уплывам нацыянал-шавінізма, з-пад якога пачынае вызваляцца толькі пасля Кастрычніцкай рэволюцыі і потым ужо моцна становіцца на шлях рэволюцыйнай барацьбы пролетарыята.

У 1924 г. на некалькі месяцаў Лайцэн выязджае ў Італію. Тут ён вывучае не толькі мастацкія помнікі далёкага мінулага, але і становішча працоўных мас Італіі. У выніку—кніга апавяданняў „Прыгожая Італія“, якая выдадзена на рускай мове пад назвай „Камнем в окно“ („Прибой“, 1927 г.).

Далейшая літаратурная дзейнасць Лайцэна яшчэ шчыльней увязваецца з яго грамадска-палітычным жыццём. Ён з'яўляецца актыўным работнікам левых прафсаюзаў, супрацоўнічае ў органе гэтых прафсаюзаў „Darbs un maize“ („Работа і хлеб“). У 1928 г.

[1]) М. Н. Покровский. „Русская история в самом сжатом очерке“ ч. III, стр. 325—326.

засноўвае часопісь „Kreisa fronte“ („Левы фронт“), наўкол якога групуе і выхоўвае пролетарскі пісьменніцкі маладняк. У 1927 г. разам з дэлегацыяй латышскіх рабочых Лайцэн наведаў СССР, у выніку чаго напісаў кнігу „69 дзён у СССР“. Па спісу „левых рабочых і сялян“ быў абраны дэпутатам сойма Латвійскай рэспублікі. Абраныя па гэтаму спісу 6 чалавек складалі рабоча-сялянскую фракцыю сойма, на чале якой стаяў Лайцэн. У сучасны момант гэтая фракцыя арыштавана латвійскімі фашыстамі. Лайцэн эміграваў з Латвіі ў СССР, дзе жыве і цяпер.

●

Сваю літаратурную дзейнасць Лайцэн пачаў яшчэ да рэволюцыі 1905 г. На першым этапе сваёй творчасці ён прымыкае да групы новарамантыкаў, выдатнейшымі прадстаўнікамі якой былі К. Скалбэ і Я. Акуратэр, якія ў далейшым сталі тыповымі трубадурамі латвійскай буржуазіі. Першыя зборнікі вершаў Лайцэна, якія з'явіліся ў перыяд рэакцыі, амаль нічым не адрозніваюцца ад літаратурных твораў тагочаснай дробнай буржуазіі. Побач з водгукамі рэволюцыі 1905 г., у гэтых зборніках песімістычна-суб'ектыўныя перажыванні пісьменніка, ідэйны разброд, а разам з тым—фармалістычныя эксперыменты ў гусце дэкадэнства. У гэты перыяд Лайцэн, які выйшаў з нізоў латышскага сялянства, апынуўся пад уплывам прапаганды буржуазна-рэакцыйнай філасофіі, індывідуалізма, дэкадэнства.

Гэта быў перыяд, калі ідэі рэнегацтва і здрадніцтва ахапілі шырокія колы раней рэволюцыйнай дробнай буржуазіі, калі расквітала сталыпіншчына, ліквідатарства, калі замест дыялектычнага матэрыялізма, прапагандаваўся эмпірыакрытыцызм, „богоискательство“, „богостроительство“. Ленін ахарактарызаваў гэты перыяд, як перыяд „занялада, дэмаралізацыі, расколаў, разбродаў, рэнегацтва, парнаграфіі, замест палітыкі“. Толькі партыя большэвікоў на чале з Леніным правільна разбіралася ў абстаноўцы класавай барацьбы, выкрывала здраднікаў і мабілізоўвала працоўныя масы для далейшай рэволюцыйнай барацьбы.

У творчасці Лайцэна характэрнейшым апавяданнем для гэтага часу з'яўляецца апавяданне „Вітальд Вітум“ (якое ў далейшым уваходзіць у раман „Эмігрант“, як першая яго частка). У вобразе Вітума пісьменнік малюе латышскага інтэлігента, які не находзіць сабе месца пасля разгрома рэволюцыі 1905 г. У час рэакцыі Вітум адрываецца ад грамадскага жыцця і цалкам замыкаецца ў вузкае кола свайго асабістага жыцця. Пазней у рамане „Эмігрант“ аўтар паказвае, як ягоны герой ад упадніцтва і наіўнай рамантыкі паступова пераходзіць да змагання за справу пролетарыята.

Раннія зборнікі апавяданняў „Вецер“ (1906—12 г.г.), „Малена“ (1911-13 г. г.) паказваюць, што Лайцэн добра ведае патрыяр-

хальнае жыццё ў латышскай вёсцы, якое ён зарысоўвае рэалістычнымі штрыхамі. Але ў гэтых зборніках няма разумення класавай сутнасці апісваемых з'яў, няма паказа класавых супярэчнасцей латышскай дарэволюцыйнай вёскі.

Значным крокам наперад у творчасці Лайцэна з'яўляецца зборнік так званых калектыўных тыпаў „Ліхтар у цемры" (1911-1915 г. г.). Гэты зборнік—удалая спроба стварэння калектыўных мастацкіх тыпаў, у аснову якіх пакладзена эпоха, а не зарысоўка паасобных характараў. У кожным такім тыпе сканцэнтраваны найбольш характэрныя рысы паасобных індывідуальнасцей. Гэты зборнік выдзяляецца не толькі сваімі стылістычнымі асаблівасцямі. З іроніяй і нават з сарказмам выступае тут Лайцэн супроць мяшчан латышскай правінцыі, супроць абмяшчаніўшайся правінцыяльнай інтэлігенцыі, супроць тых умоў, якія параджаюць культурнае ўбоства, цягнуць у жыццёвае балота. Зборнікам „Ліхтар у цемры" намячаецца новы этап у творчасці Лайцэна. З гэтага часу пісьменнік пачынае расчароўвацца спачатку ў буржуазнай культуры, а пасля Кастрычніцкай рэволюцыі смела і адкрыта выступае супроць асноў буржуазнага грамадства.

Кастрычніцкая рэволюцыя, а затым падзенне савецкай улады у Латвіі робяць вялікі ўплыў на пісьменніка. Панаванне захапіўшай уладу буржуазіі развявае апошнія нацыяналістычныя ілюзіі Лайцэна. Паэт, які са зброяй у руках змагаўся супроць царызма яшчэ ў час рэволюцыі 1905 г., цяпер становіцца сапраўдным песняром рэволюцыі. У вершах, напісаных пасля 1917 г. і ўвайшоўшых у зборнік „Караван" (1913-1919 г. г.), адчуваецца пафас рэволюцыі, сатыра супроць мяшчанства, нянавісць да класавага ворага. Новы змест Лайцэнаўскай паэзіі знаходзіць сваё выяўленне ў новай форме. Пісьменнік цяпер ужо адмаўляецца ад традыцыйных форм верша. Ломячы гэтыя формы, ён часам ігнаруе рыфму, уводзіць размоўныя выразы; пры дапамозе новых прыёмаў імкнецца да найбольшай канцэнтрацыі думкі.

Пасля Кастрычніцкай рэволюцыі ствараецца новы кірунак у латышскай літэратуры, на чале якога становіцца *Лайцэн. Гэты* кірунак завецца актывізмам. Сутнасць актывізма ў сваіх „Прынцыпах паэзіі" (1922 г.) Лайцэн азначае наступным чынам:

„Калі сучаснасць ёсць эпоха барацьбы двух светапоглядаў, дык новы светапогляд, новае светаадчуванне і ўспрыйманне з'яўляюцца нападаючымі. Новы мастак, новы паэт знаходзіцца на баявых пазіцыях. Але барацьба павінна быць даведзена да канца. Хто хоча кіраваць, даць кірунак, той—актыўны. Новая літаратура павінна быць смелай, страшнай у сваім наступленні. Новы паэт—ёсць новы чалавек, паколькі яго паэзія—новая паэзія. Такім чынам асноўны ўсеахоплівающы прынцып сучаснай паэзіі тое, што яна—паэзія барацьбы. Паэзія барацьбы па форме, паэзія барацьбы па ідэалогіі, паэзія барацьбы па мэце".

Тав. В. Кнорын дае наступную характарыстыку латышскаму актывізму:

„Актывізм—гэта новае слова, якое латышская літаратура сказала пасля рэволюцыі. Гэта смелая спроба абнавіць рэволюцыйна-дэмакратычны характар латышскай літаратуры. Гэта—барацьба супроць паліцэйска-нацыянальнай, кулацка-пастарскай культуры за свабоду мастацкага ўспрыймання і адчування. Гэта—барацьба супроць рэакцыйнай паліцэйскай літаратуры, літаратурнай пахабшчыны, мяшчанска-філістэрскага самаздавальнення. Гэта не пролетарская літаратура, але тая, на якую латвійскі пролетарыят будзе абапірацца ў барацьбе за сваю літаратуру і мастацтва“ [1]).

Лепшым актывістычным творам у Лайцэна з'яўляецца зборнік апавяданняў „Апраўданыя“ (1921 г.), які з'яўляецца выдатнейшай з'явай у гісторыі навейшай латышскай літаратуры. Зборнік складаецца з апавяданняў батрака, ваеннапалоннага, прастытуткі, злодзея, вісельніка і пісьменніка. У апавяданні пісьменніка, якое Лайцэн назваў сваім новым лозунгам „Няхай жыве—далоў!“, ён дае ацэнку свайму мінуламу, смела падымае сцяг барацьбы за новую рэволюцыйную літаратуру.

„Што такое я?—кажа Лайцэн.—Ці поўна выказаўся ў сваіх творах, раскрыў усяго сябе перад вамі? Ці я пісаў толькі для таго, каб захаваць свой твар, прыкрыць зіяючую пустату, не страціць з цяжкасцямі здабытае званне пісьменніка для таго, каб карміцца і імкнуцца да славы?“.

У час самай жорсткай рэакцыі, калі буржуазія Латвіі пры падтрыманні імперыялістаў Захада захапіла ўладу і крывавым тэрорам знішчала лепшых прадстаўнікоў рабочага класа, калі так званыя „дэмакратычныя“ пісьменнікі Латвіі на чале з сівавалосым паэтам Райнісам, здрадзілі рабочаму класу і адкрыта перайшлі на службу буржуазіі, Лайцэн смела падняў сцяг рэволюцыйнай літаратуры і заявіў:

„Я павінен разграміць тое, што называецца „учора“, павінен будаваць „заўтра“,—у грамадзе і ў сабе, — становячыся ў выніку гэтага ў варожыя адносіны да навакольнага і да ўласнага „я“, заўсёды знаходзячыся ў стане абурэння і барацьбы, карыстаючыся пяром толькі як адным з шматлікіх тэхнічных сродкаў.

„Рэволюцыянер, комуніст, анархіст—для вас рабаўнік і забойца, які не толькі не паважае права ўласнасці, але і пагражае вашаму спакою, бруху, свабодзе—больш за ўсё свабодзе, гэтай прывілеі вашай!“

Усе „злачынцы“ якіх малюе Лайцэн у сваёй кнізе „Апраўданыя“, у час свайго апавядання выступаюць як абвінаваўцы буржуазнага ладу, які штурхае людзей на парушэнне законаў буржуазнай грамады.

„Апраўданыя“ не ёсць свядомыя пролетарыі, гэта хутчэй люмпены, анарха-індывідуалісты, падымаючыя бунт супроць

---

[1]) „Молодая латышская литература“, 1926 г., изд. „Прибой“, ст. 13.

асноў буржуазнага ладу. Барацьба іх выступае па-за барацьбой латышскага пролетарыята. Тым не менш, глыбока-мастацкая і актуальная кніга Лайцэна, накіраваная супроць асноў буржуазнага грамадства: прыватнай уласнасці, нацыянальнай абмежаванасці, супроць прадажнага шлюбу і мастацтва—вельмі хутка зрабілася папулярнай сярод рабочых і выклікала буру нянавісці ў лагеры буржуазіі. Латышская буржуазная крытыка ўбачыла ў кнізе Лайцэна заклік да комунізма і ўсімі сіламі імкнулася адмаўляць яе мастацкае значэнне.

„Апошнія апавяданні Лайцэна,—пісаў салонны паэт латвійскай буржуазіі Віктар Эгліт наконт „Апраўданых"—гэта ўжо не літаратура ў яе простым значэнні, а зброя для самай радыкальнай прапаганды комуністычнага ладу Совецкай Расіі. Лайцэн мабілізуе ўсе падонкі грамады: рабочых, прагульшчыкаў і падпальшчыкаў; няздольных мысліць і патануўшых у нізкім сладастрасці поўідыётаў, здраднікаў; авантурыстаў фізычнага каханя—юнакоў землямераў; двулікіх дзевак, пры розных абставінах прыйшоўшых да сваіх лёгкіх і выгодных заняткаў; сапраўдных маленскіх канакрадаў, да-рэчы сказаць самых што-ні ёсць успрымлівых да марксізма людзей,—усіх іх аўтар заклікае сабатаваць, падпальваць, забіваць, распусьнічаць, грабіць награбленае і зноў захапіць у свае рукі дзяржаўную ўладу, якую ўпусцілі Стучка з Данішэўскім, і зрабіць соцыяльную рэволюцыю" [1]).

Класавая злоба дэкадэнта і дэгенерата ў літаратуры Эгліта выступае тут з асаблівай рэльефнасцю. Рабочых ён называе падонкамі грамады і свядома змешвае іх з дэкласаваным элементам—прадуктам капіталістычнага ладу.

Апраўданне Лайцэнам тых, каго капіталістычная дзяржаўнасць кідае ў турмы, напомніла буржуазіі нядаўны перыяд пролетарскай дыктатуры ў Латвіі і выклікала страх перад магчымасцю аднаўлення гэтай дыктатуры.

Пасля з'яўлення ў друку „Апраўданых", буржуазія Латвіі падымае паход супроць Лайцэна і супакойваецца толькі тады, калі пісьменнік-рэволюцыянер апынуўся за кратамі Рыжскай цэнтральнай турмы.

У наступным сваім зборніку апавяданняў „Мебельная Рыга і дадаткі" Лайцэн, далей крытыкуючы „дэмакратычную" Латвію, выкрывае класавую аснову мяшчанства, буржуазных традыцый, быта, маралі. Лепшы твор зборніка—навела „Мебельная Рыга", у якой мяшчанскі быт паказаны ў плане гратэска. Фетышызацыя элементаў быта і рабскае панаванне рэчаў над мяшчанскім бытаваннем прыводзіць галоўных персанажаў навелы да вар'яцтва і нарэшце да пагібелі. Даючы далей цэлую галярэю адмоўных тыпаў (пастар, кулак і інш.), аўтар паказвае іх хлуслівасць,

---

[1]) Цытую па часопісі „Ленінград", 1931 г. №4, стр. 121.

ліцамерства, імкненне да нажывы. Але гэтым адмоўным тыпам Лайцэн нікога не супроцьстаўляе. Крытыка буржуазнай рэчаіснасці тут даецца ізалявана ад канкрэтных працэсаў класавай барацьбы і мае аб'ектывісцкі характар. Увесь гэты зборнік у цэлым па сваёй ідэйна-мастацкай сіле некалькі ўступае „Апраўданым".

У 1925 годзе ў выніку паездкі Лайцэна ў Італію з'яўляецца зборнік яго апавяданняў „Прыгожая Італія". Пісьменнік апісвае зямлю класічнага мастацтва, з яе мастацкімі помнікамі далёкага мінулага, з яе табунамі вандруючых буржуазных турыстаў. Лайцэн паказвае духоўнае ўбоства гэтых турыстаў—англічанкі, латышскага прамыслоўца, розных арыстакратаў. Разам з гэтым Лайцэн паказвае і адваротны бок справы—Італію працоўных, Італію прыдушаную фашызмам. За прыгожымі дэкарацыямі італьянскай прыроды пісьменнік паказвае бедняка селяніна, які не можа заплаціць падаткаў і робіцца бандытам, галоднага хлопчыка, бацька якога забіты на вайне, а маці памерла. Паказваючы беднасць і прыгнечанасць італьянскіх працоўных мас. Лайцэн аднак не паказаў барацьбы італьянскага пролетарыята. Даведзеныя да адчаю героі „Прыгожай Італіі" або наіўна мараць аб шчасці, або шукаюць выйсця не ў арганізаванай барацьбе, а ў анархічна-бунтарскіх выпадах супроць эксплаататараў. У апавяданні „Мадонна з сабакам" Лайцэн ставіць пытанне аб адносінах да буржуазнага мастацтва, да буржуазнай мастацкай спадчыны. Тут ён выступае супроць „аб'ектыўнага" погляда на мастацтва, падкрэслівае класавую функцыю мастацкіх твораў як выдатнейшых мастакоў старажытнага Рыма, таксама і сучасных мастакоў.

Аб далейшым творчым росце Лайцэна сведчаць такія яго кнігі, як раман „Заклікаючыя карпусы" [1]) (1927 г.) і зборнік навел „Камеры" (1929 г.), у якіх аўтар з вялікай мастацкай сілай паказвае неадлучную частку апарата буржуазнай дзяржавы—турмы.

У рамане „Заклікаючыя карпусы" Лайцэн ставіць і імкнецца вырашыць праблему творчага метада пролетарскай літаратуры. Пісьменнік рэалістычнымі штрыхамі малюе вобразы зняволеных. Гэтая замалёўка не ёсць натуралістычная копія рэчаіснасці. Тут няма і „галоўнага" героя, тут ёсць цэлы калектыў герояў, якія ў турме глыбока асэнсоўваюць сваё мінулае і калектыўна намячаюць планы барацьбы за справу рабочага класа.

Апрача ідэйнай насычанасці гэты раман вылучаецца і сваімі стылістычнымі асаблівасцямі. Стыль Лайцэна лаканічны, поўны ўнутранай дынамікі, у якім пры найменшай затраце моўных

[1]) Гэты раман перакладзены на беларускую мову і выдадзены ДВБ у 1932 г.

сродкаў дасягаецца найбольшая канцэнтрацыя думкі. Трэба падкрэсліць, што гэты стыль у Лайцэна выкрышталізоўваецца разам з фармаваннем яго пролетарскай ідэалогіі, калі пісьменнік на мастацкае слова пачынае глядзець як на вострую зброю класавай барацьбы.

Эканамічны крызіс, які ахапіў увесь капіталістычны свет, з кожным днём расце і паглыбляецца ў Латвіі. Расце беспрацоўе, скарачаецца рабочы тыдзень. Заработная плата зменшана на 60, і нават больш, процантаў. Крызіс у с-г асабліва моцна адбіўся на бядняцка-серадняцкіх масах сялянства, прывёў іх да разарэння. Разам з гэтым узрастае барацьба працоўных мас пад кіраўніцтвам компартыі Латвіі за рэволюцыйнае выйсце з крызіса. За апошні час Латвія шпаркім крокам ідзе па шляху фашызацыі. Арыштавана рабоча-сялянская фракцыя сойма. Растуць рэпрэсіі супроць латышскай комуністычнай партыі. Разам з тэрорам буржуазія выкарыстоўвае ўсе сродкі соцыял-фашыстоўскай дэмагогіі, каб ашукваць адсталыя працоўныя масы, каб стаць на шлях адкрытай фашысцкай дыктатуры, каб здзейсніць інтэрвенцыяніцскія планы супроць СССР. У сучасны перыяд барацьба з фашызмам і соцыял-фашызмам набывае выключнае палітычнае значэнне. Лінард Лайцэн у гэтай барацьбе з поспехам выкарыстоўвае сваю зброю—мастацкае слова. Апошні яго зборнік „Партфель і пятля" (1933 г.) выкрывае спосабы соцыял-фашысцкай дэмагогіі, спосабы іх барацьбы супроць рэволюцыйных рабочых і комунізма. У паасобных апавяданнях гэтага зборніка паказан соцыял-фашысцкі правадыр, кіраўніца буржуазнага жаночага руху, буржуазныя спартысты і даведзены да жабрацтва крызісам селянін, які пераконваецца ў здрадніцтве соцыял-фашыстаў і ў правільнасці комуністычнага шляху.

„Партфель і пятля"—выдатны твор пролетарскай літаратуры, які зрывае маску соцыял-здраднікаў і з глыбокай мастацкай праўдай паказвае азвярэлы твар класавага ворага.

Гаворачы пра літаратурную дзейнасць Лайцэна, нельга абмінуць яго тэатральнай работы, яго драматычных твораў, якія напісаны для латышскага рэволюцыйнага тэатра, арганізатарам і кіраўніком якога быў Лайцэн. Асаблівасці лайцэнаўскіх п'ес можна зразумець толькі ўлічваючы тую абстаноўку, у якой узнік і развіваўся латышскі рэволюцыйны тэатр. Гэты тэатр з'явіўся толькі аднэй з форм рэволюцыйнай прапаганды і выхавання працоўных мас, якія самі былі актыўнымі ўдзельнікамі гэтага тэатра. У сваім зборніку п'ес „Ганімы тэатр" (1933 г.) Лайцэн апісвае ўмовы, у якіх узнік і працаваў латышскі рэволюцыйны тэатр.

У гэтым тэатры не было прафесійных актораў буржуазнай сцэны, а толькі рабочыя і работніцы, якія ў вольны ад работы час маглі прымаць удзел у рэпетыцыях. На мастацкае афармленне спектакляў амаль што не было ніякіх сродкаў, не было

і сваёй сталай тэатральнай залы, а таму летам спектаклі зручней было рабіць сярод вольнай прыроды бяз усялякіх дэкарацый. Глядач—галоўным чынам рабочыя са сваімі сем'ямі—патрабаваў, каб п'еса была напісана простай і зразумелай для яго мовай, паказвала-б блізкія і зразумелыя для яго падзеі.

Вось у гэтых умовах тэатральнай работы складаліся ў Лайцэна погляды на метады работы рэволюцыйнага тэатра ва ўмовах буржуазнай дыктатуры і на канструкцыю п'ес, якія ён пісаў для рабочага тэатра. Гэтыя яго погляды зводзяцца ў асноўным да наступнага.

П'еса не павінна быць доўгай, псіхалагічнай, з рознымі „душэўнымі нюансамі". Тэкст яе—просты, канцэнтраваны, які ў нямногіх словах выказваў-бы многае. Падзеі—з штодзённага знаёмага рабочаму жыцця, маючыя вялікае палітычнае значэнне. П'еса, калі яна паказваецца пад адкрытым небам сярод вольнай прыроды, павінна быць масавай, калектыўнай. А для таго, што прыходзіцца часта ставіць спектаклі на малых клубных сцэнах, то патрэбна, каб лік дзейных у п'есе асоб можна было-б лёгка скараціць. Звычайныя дэкарацыі, гарнітуры, розная бутафорыя не з'яўляюцца адзінымі сродкамі, якімі на сцэне дасягаецца ілюзія рэчаіснасці. Рэжысер можа вольна выбіраць тыя сродкі, якія на яго думку найбольш падыходзяць. Эканомія матэрыяла і энергіі—вось адзін з галоўных прынцыпаў Лайцэнаўскага тэатра.

Для рабочага тэатра Лайцэн напісаў цэлы рад п'ес, лепшая з якіх „Альфа і Аўто" і „Кампраміс". У сваіх п'есах аўтар паказвае барацьбу пролетарыята з капіталістамі, буржуазны парламент і суд, здрадніцтва соцыял-фашыстаў, імперыялістычную палітыку буржуазіі ў калоніях, падрыхтоўку імперыялістычнай вайны і інш. П'есы Лайцэна мелі вялікі поспех сярод працоўных мас Латвіі. Напрыклад, п'еса „Кампраміс" якая паказвае гераічную барацьбу ангельскіх рабочых у час усеагульнай забастоўкі 1926 г. (паказ адбываўся пад адкрытым небам), сабрала каля 10.000 гледачоў. Адразу-ж пасля паказа гэтая п'еса была забаронена. Буржуазія Латвіі забараняла друкаваць п'есы Лайцэна. Некаторыя з яго п'ес з'явіліся ў друку толькі ў СССР. Зборнік п'ес „Ганімы тэатр", выдадзены у Маскве латышскім выдавецтвам „Праметэй" (1933 г.)

Знаходзячыся цяпер у Совецкім саюзе, Лінард Лайцэн прымае актыўны удзел у нашым соцыялістычным будаўніцтве, і адлюстроўвае яго ў сваіх нарысах, вершах, апавяданнях. У выніку паездкі Лайцэна з брыгадай латышскіх пісьменнікаў па БССР з'явіліся яго нарысы пра соцыялістычнае будаўніцтва Совецкай Беларусі (змешчаны ў журнале „Celtne"—„Будоўля" за 1933 г.)

Сваім мастацкім словам—гэтай вострай зброяй класавай барацьбы Лінард Лайцэн змагаецца за пабудову соцыялізма ў СССР, за пролетарскую дыктатуру ў Латвіі і ва ўсім свеце. У час свайго юбілея 30-ці гадовай творчай дзейнасці ён заяўляе:

„Пішучы пра соцыялістычнае будаўніцтва ў Совецкім саюзе, мы са сваімі творамі ідзем у шчыльных радах з пролетарыятам Латвіі, ваюем і будзем ваяваць за пролетарскую перамогу ў Латвіі і ва ўсім свеце. Нашы творы—найвастрэйшая зброя барацьбы. Добры наш раман—танковая брыгада, добры верш—кулямёт, які знішчае шэрагі ворага. Створым літаратурныя танкі для барацьбы за канчатковую перамогу".

Адказны рэдактар *М. ЛЫНКОЎ.*

Рэдкалегія: *Я. Бранштэйн, П. Галавач, П. Глебка, Ц. Гартны. К. Зарэмбоўскі, М. Клімковіч, Я. Колас, К. Крапіва, К. Чорны.*

Адрас рэдакцыі: Менск, Совецкая, 68.

